**Бурачэўскі і Скаблоў**

# Социялістычная рэканструкцыя Дрысенскага раёна

Барацьба партыі за социялістычную перабудову народнай гаспадаркі Совецкага саюза адначасова была барацьбой за эканамічнае і культурнае падцягванне да ўзроўню перадавых прамысловых частак Совецкага саюза—раней адсталых прыгнечаных калоній былой царскай імперыі.

Эканамічны і культурны рост Дрысенскага раёна можа служыць найбольш яркім паказчыкам правільнасці правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), на чале з тав. Сталіным і штодзенным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б.

Дрысенскі раён прымежны. У гэтых умовах социялістычная рэканструкцыя гаспадаркі мае асобае значэнне. Тут яна праходзіць пры асабліва абвостранай і ўскладненай барацьбе з рэшткамі капіталістычных элементаў, якім з выключнай актыўнасцю дапамагалі раней, у сувязі з тым, што Дрыса доўгі час была ў паласе фронту, а пазней—пры мяжы, агенты капітала Польшчы і Латвіі, арганізуючы бандыцкія налёты і інш., якія перашкаджалі нармальнай рабоце раёна. Эканамічнае і культурнае жыццё пачалося тут значна пазней, чым у іншых раёнах БССР. У падрыўной рабоце кулацкім элементам дапамагалі рознакаляровыя нацыяналістычныя нацдэмаўскія, эсэраўскія элементы. Барацьба беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў з дыктатурай пролетарыята праходзіла пры непасрэднай дапамозе і кіраўніцтве замежных фашыстаў. Паспяховы рост социялізма выклікае звярыную злосць ворагаў пролетарыята. Эканамічная праграма гэтай зграі зводзіцца к таму, каб адарваць БССР ад брацкіх социялістычных рэспублік, ад СССР, ператварыць яе ў калонію капіталістычных краін.

У Дрысенскім раёне—былой частцы Дрысенскага павету—эканамічнае, палітычнае і культурнае становішча да Кастрычніцкай рэволюцыі характарызавалася наяўнасцю 23 памешчыкаў, 30 буйных кулацкіх фальваркаў, 15 царкоўнікаў, некалькіх корчмаў і арцелі інвалідаў з задачамі аховы турмы. Цягнула лямку социяльнага і эканамічнага ўціску бядняцкае і серадняцкае сялянства—пераважная большасць насельніцтва раёна. На адзін бядняцка-серадняцкі двор прыпадала пасеву 2,7 га, а на аднаго чалавека—толькі 0,56 га, тым часам як на адну памешчыцкую гаспадарку прыпадала пасеву ў сярэднім 486,6 га, на царкоўную 26,6 га і на кулацкую 24,4 га. Да Кастрычніцкай рэволюцыі вайна, фронт, акупацыі нямецкай, польскай і латышскай белых армій прывялі да разарэння працоўнае насельніцтва, становішча якога і без таго было дрэнным і цяжкім.

І гэта не дзіўна. Палітыка памешчыкаў, палітыка акупантаў заключалася ў эксплаатацыі бядняцкага сялянства, у затрыманні росту народнай гаспадаркі, асабліва ў галіне прамысловасці.

Надзвычай удалае злучэнне водных шляхоў з чыгункай, мясцовыя сыравінныя багацці—лес, лён, будаўнічая вапна, гліна і інш.—засталіся нескарыстанымі да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэтыя эканамічныя багацці маглі быць рацыянальна выкарыстаны ў інтарэсах эканамічнага развіцця раёна і палепшання дабрабыту рабочых і працоўных мас сялянства толькі пры дыктатуры пролетарыята.

Перамога рабочага класа разам з бяднейшым сялянствам прывяла к таму, што Дрысенскі раён, як і ўся Совецкая Беларусь, «раней прыгнечаная царызмам калонія, з адсталай сельскай гаспадаркай і надзвычай (найбольш) жорсткай эксплаатацыяй сялянства памешчыкамі, меўшай выключна слаба разгорнутую прамысловасць, зруйнаваная і спутошаная сусветнай вайной і інтэрвенцыяй,—у рэзультаце 15 год пераможнай барацьбы і работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва рабочых, калгаснікаў і працоўных Беларусі, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК ВКП(б), непасрэдных указанняў правадыра партыі т. Сталіна, няўхільна правадзімых КП(б)Б, выходзіць на адно з першых месц у радзе рэспублік і абласцей Совецкага саюза» (з пастановы VIII пленума ЦК КП(б)Б).

За пройдзены перыяд з часу ўстанаўлення совецкай улады, Дрысенская райпартарганізацыя, як і ўся наша партыя, узначальваючы і кіруючы барацьбой рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных раёна, ведучы барацьбу з класавым ворагам і яго агентурай у партыі—апартуністамі розных колераў і масцей, выконваючы пастановы пленумаў, з'ездаў і паасобныя рашэнні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, на чале з большэвіцкім кіраўніком т. ГІКАЛО ажыццяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку, мае значныя поспехі і перамогі. Гэтыя перамогі дасягнуты разам са створанымі ў 1933 г. двума палітаддзеламі МТС. Выкананне дырэктыў і заданняў партыі ў галіне гаспадарчага, культурнага развіцця і соцыялістычнага будаўніцтва спрыяла таму, што Дрысеншчына з ліку адстаўаўшых выходзіць у перадавыя раёны БССР.

Асабліва шырока разгарнулася будаўніцтва прамысловасці не толькі раённага, але і рэспубліканскага значэння ў першай пяцігодцы.

**Дынаміка росту прамысловасці раёна з 1930 г. па 1933 г. і занятых у ёй рабочых** мае наступны выгляд:

| | Лік прадпрыемстваў у раёне | | | | Колькасць занятых рабочых | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г |
| | 17 | 21 | 27 | 30 | 508 | 775 | 830 |
| Асобна па ільназаводах . . . . | 1 | 1 | 3 | 4 | 117 | 325 | 438 |

З паданых лічбаў зусім ясна відаць шпаркія тэмпы развіцця прамысловасці раёна, валавая прадукцыя якой з 1930 г. па 1932 г. узрасла на 365 проц.

Асаблівае месца ў эканоміцы раёна займаюць 4 заводы першапачатковай апрацоўкі лёну. З кожным годам павялічваецца іх мясцовая сыравінная база. У 1933 г. лён сярод іншых сельскагаспадарчых

культур займаў трэцяе месца па плошчы пасеву. Моцнае ўрастанне гэтай культуры ў эканоміку раёна, характар глебы, ураджайнасць і ў цэлым увесь комплекс гаспадаркі гаворыць аб тым, што раён мае ўсе падставы для далейшай спецыялізацыі як ільнаводны і жывёлагадоўчы. Колькасць і якасць таварна-прамысловай ільнапрадукцыі ўжо зараз знаходзяцца ў поўнай залежнасці ад яе механічнай апрацоўкі на ўжо існуючых заводах: па сваёй прапускной здольнасці яны могуць поўнасцю перапрацаваць ільнапрадукцыю раёна.

У гэтым годзе склаліся выключныя ўмовы, якія спрыяюць ільназаводам падняць якасць сваёй прадукцыі.

Па- першае, поўнае і своечасовае выкананне заводамі загатовак трасты; па-другое, якасць загатоўленай трасты, якая перавышае ўстаноўленыя дзяржавай якасныя паказчыкі; урэшце той факт, што большасць заводаў перажыла пускавы перыяд і мае ўсе ўмовы поўнасцю асвоіць сваю тэхнічную магутнасць і даць краіне самай высокай якасці ільнавалакно як для экспарта, так і для нашай лёгкай прамысловасці.

Перадавіком з'яўляецца Дрысенскі ільназавод. Гэты завод мае 170 пастаянных рабочых з замацаваным кваліфікаваным касцяком. Пры заводзе абсталявана сталоўка, ёсць патрэбная жыллёвая плошча для рабочых, створана ўласная харчовая база.

Завод перапрацоўвае ў 3 змены 12 тон. За IV квартал 33 г. выканан план па колькасці на 102 проц., па якасці—на 104 проц., у тым ліку за снежань план выканан на 130 проц. У кожнай змене працуюць 4 цэхавыя ўдарныя брыгады, якія спаборнічаюць паміж сабою. Вынікі штодзеннай работы адзначаюцца на дошцы тэмпаў. Прэміявана 13 лепшых ударнікаў. Рабочыя ўносяць цэлы рад рацыяналізатарскіх прапаноў.

Узнімаецца на вышэйшую ступень паспяхова пачатая барацьба рабочых за асваенне новай тэхнікі. Пачатак другой пяцігодкі рабочыя завода адзначылі новым уздымам соцыялістычнага спаборніцтва і магутным патокам творчай ініцыятывы.

Ударнікі перабудавалі сістэму сушылак, прадукцыйнасць работы якіх павысілася на 75 проц. Па іх ініцыятыве пераробленыя шатуны трасілак, пасля чаго зменшыліся паломкі і прастоі, прадукцыйнасць завода вырасла на 15 проц. У машыне, якая ачышчае кудзелю, заменен заборны валік, што знізіла прастоі на 50 проц. Уведзена рацыяналізацыя перадачы трасты, што павысіла прадукцыйнасць на 10 проц.

У выніку рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў завод дабіўся рэкорднай прадукцыйнасці за ўвесь час свайго існавання. Нормы выпрацоўкі і зарплата рабочых выраслі ў снежні 1933 г. на 30 проц. Паасобныя работніцы, якія паступілі на завод у 1932 г., асвоіўшы вытворчасць і павысіўшы кваліфікацыю, атрымліваюць зарплату на 200—250 проц. больш у параўнанні з 1932 г.

Акрамя ільназаводаў у раёне пабудаваны за апошнія гады: лесапільны завод і два лесасклады з агульнай колькасцю 250 пастаянных рабочых: 2 дзяржаўныя цагельныя заводы і 1—прамкааперацыі з агульнай колькасцю рабочых 80 чал.; 2 МТС—80 рабочых; 2 соўгасы—200 рабочых; інкубатарная станцыя з двума механічнымі рухавікамі; арцелі прамкааперацыі—4 кравецкія на 105 чал., 4 шавецкія—83 чал., тарфяная—41, дрэваапрацоўчая—18, ганчарная—18, харчасмакавая—17, мясцовы транспарт—15. Усяго ў мясцовай прамысловасці занята 1286 пастаянных рабочых, акрамя сезоннікаў, якія працуюць на комунальным і дарожным будаўніцтве, і 3-х прамкалгасаў, якія выробляюць вапну, цэглу, абады для колаў.

Праз 4 чыгуначныя станцыі (Боркавічы, Свольна, Бігосава і Дрыса) і 1 поўстанак (Беніслаўскае) ідзе мясцовы, экспартны і імпартны грузаабарот і пасажырскі рух. Работа чыгуначнага транспарта значна палепшылася.

**Развіццё саматужнай прамысловай кааперацыі наступнае:**

| Гады | 1929 | 1930 | 1931 | 1932 | 1933 |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць прамарцелей . . | 3 | 11 | 14 | 15 | 17 |
| Колькасць членаў арцелей . . . . | 37 | 164 | 274 | 312 | 300 |

УВАГА: Сюды не ўвайшлі цагельні і дрэваапрацоўчыя заводы.

ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове аб Дрысенскай партарганізацыі ў 1931 г. спецыяльна вызначыў перспектывы арганізацыі і развіцця прамысловай кааперацыі на базе мясцовай сыравіны. У перыяд другой пяцігодкі роля мясцовай прамысловасці павінна значна павялічыцца, «выходзячы з таго, што **мясцовая** прамысловасць можа з'явіцца сур'ёзным дадатковым фактарам у справе ўсебаковага здавальнення хутка растучых патрэб рабочых і калгаснікаў, з'езд вызначае рост вытворчасці прадметаў шырокага спажывання мясцовай прамысловасцю ў другой пяцігодцы ў тры разы і абавязвае мясцовыя органы праявіць максімальную ініцыятыву ў справе развіцця мясцовай прамысловасці і вышукання новых відаў сыравіны» (з тэзісаў аб пяцігадовым плане).

Разам з соцыялістычнай рэканструкцыяй сельскай гаспадаркі раёна на базе высокай прамысловай тэхнікі расце заможнасць калгаснікаў, растуць патрэбы ў вырабах лёгкай прамысловасці. Ва ўмовах Дрысенскага сельгасраёна мясцовая прамысловасць працуе галоўным чынам на задавальненне гэтых узрастаючых патрэб і з'яўляецца неабходным звяном лёгкай прамысловасці БССР. Прамкааперацыя Дрысенскага раёна, якая павінна ў бліжэйшыя гады патроіць выпуск сваёй прадукцыі, адыгрывае асабліва значэнне і вялікую ролю ў эканоміцы раёна.

Перад раённымі арганізацыямі стаіць задача—усямерна развіць новыя віды прадукцыі прамкааперацыі ў раёне (кошыкі, мэбля і інш.).

За апошнія гады разгорнуты комунальнае і жыллёвае будаўніцтва і рамонт старых будынкаў. У Дрысе пабудован двухпавярховы дом, гортэатр і ветпункт, у Боркавічах—лячэбніца на 100 коек, дом соўгасвуча і аптэка, у Цястах—двухкамплектная школа і дом соцкультуры, сямігодка ў Дзернавічах, двухкамплектная Блекаўская школа, дом соцкультуры ў Сар'і, ветпункт у Каркальцы, мед. і ветпункты ў Росіцы, школа пры калгасе «Новы свет» Валынецкага сельсовета, школа пры калгасе «Усходняя зара» Каркалецкага сельсовета. Пачата будаўніцтва 9 аб'ектаў для школ сямігодак і двухкамплектных, два дамы соцкультуры, электрастанцыя, лазня, гасцініца.

У час грамадзянскай вайны, акупацыі раёна немцамі, латышамі і белапалякамі гаспадарка значна пацярпела. Услед за гэтым беларускія нацдэмы, карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці, а часам і простай дапамогаю некаторых «комуністаў», праводзілі ў інта-

рэсах тых-жа капіталістаў кулацкую палітыку хутароў, як базу для рэстаўрацыі капіталізма ў БССР і ў прыватнасці ў Дрысенскім раёне. Яны ставілі сваёй задачай адрыў Совецкай Беларусі ад Саюза совецкіх соцыялістычных рэспублік і ператварэнне яе ў калонію заходняга імперыялізма.

Справа даходзіла да таго, што пасялішчы ў 10-12 двароў, дзякуючы прышчэпаўшчыне, ператварыліся ў хутары. Да рэволюцыі ў раёне налічвалася 6 проц. хутароў. За час прышчэпаўскай практыкі землеўпарадкавання было арганізавана яшчэ 8 проц. хутарскіх гаспадарак.

Гэтая буржуазная спадчына надзвычайнай раздробленасці землекарыстання асабліва ўскладняла пераход да соцыялістычнай планавай апрацоўкі зямлі. Працэс калектывізацыі, ахапіўшы 60 проц. раёна, падарваў базу апошняга капіталістычнага класа—кулацтва. Разам з тым калектывізацыя сельскай гаспадаркі дала працоўнаму сялянству раёна поўную ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

У галіне соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі дасягнуты велізарныя поспехі. Дрысенскі раён ператвараецца са спажываючага ў вытвараючы, павышаецца валавая і таварная прадукцыя сельскай гаспадаркі.

Калектывізацыя сельскай гаспадаркі перамагае. Усяго ў раёне 153 калгасы з агульнай колькасцю 4770 гаспадарак.

Асаблівы зрух у калектывізацыі адбыўся пасля студзеньскага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б). Пачынаючы са студзеня 1933 г. процант калектывізацыі вырас з 48,7 да 59, г. зн.—на 15 калгасаў і 936 гаспадарак.

Ужыткоўных зямель у калгасах—66,5 проц. На адзін калгас прыпадае ў сярэднім—31 двор, сярэдняя велічыня плошчы калгасаў—215 га. Пахаці на адзін калгасны двор прыпадае 6,9 га, супроць 4 га аднаасобнага двара і супроць 2,78 га пасеву, якія прыпадалі на адзін бядняцка-серадняцкі двор у 1912 г.

Дзякуючы соцыялістычнай рэканструкцыі вядучых галін прамысловасці СССР на базе індустрыялізацыі, карэнным чынам змяніўся сельска- гаспадарчы характар раёна. Тут у глушы, дзе да рэволюцыі беднякі і серадзнякі валачылі свой галодны надзел зямелькі бараною, выраслі і ўзмацніліся вытворчыя сілы соцыялізма.

Асаблівасць раёна ў тым, што ў соўгасах і калгасах рашаючае значэнне набывае механізацыя сельскагаспадарчых працэсаў.

Соцыялістычныя палі ўзбройваюцца сельска-гаспадарчымі машынамі. У раёне 69 трактароў (23 у соўгасах і 46 у МТС), жняяраксноапвязалак 18, жняярак-самаскідак 188, сенакасілак 233, ільнацерабілак «Комсамолка» 126, ільнацерабілак шырока-захватных 6, сеялак зернавых 104, боран дыскавых 95, малатарань 42, трыераў зернавых і ільняных 51, машын Гільштэйна 70, сілосарэзак 20, бульбасаджалак 17, бульбакапалак 59, конных грабель 177 і інш.

Прымяненне складаных і поўскладаных сельгасмашын значна паскарае, палягчае і паляпшае якасць пасеўных, уборачных і іншых сельгасработ, забяспечваючы большую прадукцыйнасць і эфектыўнасць сельскай гаспадаркі. Гэта абавязвае партыйную і комсамольскую арганізацыю, палітаддзелы МТС, калгасны актыў энергічней разгарнуць падрыхтоўку да вясны і рамонту трактароў. Падрыхтаваць каня, разбіць кулацкі сабатаж і нежаданне скарыстоўваць усю магутнасць сельгасмашын. Не забываць, што класавая барацьба заключаецца таксама ў рашучай барацьбе супроць дэзарганізатараў працы,

супроць тультаёў, рвачоў, дармаедаў, жулікаў, супроць праваднікоў уплыву класавага ворага ў асяроддзе самога рабочага класа.

Калектыўнае вядзенне сельскай гаспадаркі ў корані змяніла структуру пасеўных плошчаў раёна, вывеўшы яго ў рады перадавых ільнаводных раёнаў БССР. Павялічыўся азімы клін галоўным чынам за лік пасеву пшаніцы. План сяўбы пшаніцы ў 1932 г. перавыканан і складае зараз 1333 га.

Вядучай і рашаючай культурай у сельскай гаспадарцы раёна з'яўляецца лён, які займае каля 19 проц. агульнага пасеўнага плана. Раён набывае яўна выражаны ільнаводна-жывёлагадоўчы характар. Палепшанне апрацоўкі глебы і догляду за лёнам павысілі яго ўраджайнасць. Гэта відаць хоць-бы з таго, што ў 1933 г. 1 га даў 11 цэнт. трасты супроць 7,2 цэнт. у 1932 г., адпаведна павысілася і ўраджайнасць валакна—да 2,6 цэнт. з га супроць 1,4 цэнт. у 1932 г. Сярэдні нумар трасты павысіўся да 1,5 супроць 1,0 у мінулым годзе.

Ільнаводству ў раёне надаецца выключна важнае значэнне, адпаведна з дырэктывамі партыі і ўрада. Асабліва значны зрух дасягнут у 1933 г.: забяспечаны лепшыя папярэднікі, праведзена ранняя сяўба значнай часткі лёну, забяспечана праполка, своечасовая ўборка і першапачатковыя працэсы апрацоўкі, павялічылася таварная прадукцыя.

Павышэнне ўраджайнасці сельска-гаспадарчых культур, асабліва лёну, ёсць выражэнне таго пераломнага этапа ў вядзенні сельскай гаспадаркі Дрысенскага раёна, які створан у выніку ажыццяўлення геніяльных указанняў т. Сталіна на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) і лозунга на Ўсесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў «зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі».

Узмоцненыя нізавыя партыйныя і комсамольскія звенні ў калгасах уваходзяць ва ўсе дэталі калгаснай вытворчасці. Створаныя па геніяльнай думцы т. Сталіна палітаддзелы адыгрываюць выключную ролю ў ператварэнні калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможных. Палітаддзелы МТС з'явіліся магутнаю сілай у соцыялістычнай рэканструкцыі раёна.

Палітаддзеламі шырока разгорнута палітмасавая работа, праведзены злёты калгаснікаў-ударнікаў, калгасніц-ударніц, конюхаў, брыгадзіраў, ударнікаў інтэрнацыянальных калгасаў і інш. Імі ўскрыты новыя формы тактыкі класавага ворага: очкаўцірацельства, налічэнне сустрэчных планаў амаль што па ўсіх відах паставак дзяржаве і звязаная з гэтым шырокая практыка голага адміністравання. Палітаддзелы ўзмацнілі калгасы, узнялі творчую актыўнасць калгаснікаў, з асяроддзя якіх высунуліся новыя героі калгаснай вытворчасці, як **Шкецік Пелагея** з калгаса «Пролетарская перамога», **Барсюк** з калгаса «Новая культура», **Шыманская Зося, Каткевіч Тацьяна** з калгаса «Новы шлях».

У веснавую сяўбу і ўборку шырока разгарнуўся метад сустрэчных буксірных брыгад калгаснікаў і аднаасобнікаў. 43 калгасы арганізавалі буксірныя брыгады, вывелі з прарыву калгасы: «Зябкі», «Чырвоная зорка», «Комінтэрн» і т. д. Узаемная дапамога калгаснікаў і аднаасобнікаў пераканала ў перавазе калгаснага ладу, падрыхтавала новы прыліў у калгасы.

Перабудова новага кіраўніцтва на вёсцы на падставе рашэння студзеньскага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б) і прамовы т. Сталіна прывялі да скарачэння тэрмінаў пасеву і ўборкі, палепшання якасці апрацоўкі палёў.

Найбольш яркім прыкладам скарачэння тэрмінаў апрацоўкі ў 1933 г. у параўнанні з 1932 г. з'яўляецца пасеў, уборка і апрацоўка лёну. Ніжэй мы прыводзім табліцу надзвычай паказальную ў гэтых адносінах.

| Віды работ | У 1933 г. | У 1932 г. |
|---|---|---|
| Выканан план сяўбы лёну к 15/VI | 100,6 проц. | 80 проц. |
| Выцераблена лёну к 25/IX . . | 100 " | 95 " |
| Ачосана галовак к 1/X . . . | 100 " | 82 " |
| Замочана к 1/X . . . . . . | 100 " | 79 " |
| Рассцелена к 1/X . . . . . | 100 " | 74 " |
| Паднята са сцелішча к 10/X. . | 94 " | 62 " |

Скарочаныя тэрміны выканання ўсіх працэсаў у 1933 г.—галоўнае мерапрыемства, забяспечыўшае апрацоўку высокаякаснай трасты.

Правільная арганізацыя працы вырашае ўсё, прыклады чаго мы бачым у радзе калгасаў раёна. Калгас «Штандар» Луначарскага сельсовета, маючы сенажаці 70 га, на 10 касцоў, у мінулым годзе вельмі зацягнуў сенаўборку. Працавалі разам усёй брыгадай, выкошваючы ў дзень 0,33—0,25 га. У гэтым годзе прымацавалі да кожнага касца па 2 жанчыны з граблямі, і касцы выкошвалі ў дзень па 0,50—0,70 га. Такіх прыкладаў не мала. Вось што гавораць аб вопыце сваёй работы калгаснікі калгаса «Паграммаяк», Прудзінскага сельсовета: «Разбіўшы брыгады на звенні, мы ўбралі ўсё сваё сена. У калгасе-ж Валынецкага сельсовета сена ляжала неварочанае, там наладжвалі вечарынкі, брыгадзір хадзіў уразвалку».

Разгорнутае соцспаборніцтва з Полацкім раёнам спрыяла таму, што ў апрацоўцы лёну як калгаснікамі, так і аднаасобнікамі створан пэўны пералом. У 1932 г. цэлы рад калгасаў, дзякуючы сваёй нядбайнасці, патнаіў лён, пакінуўшы яго на полі. У ліку такіх быў калгас «Кастрычнік». У 1933 годзе «Кастрычнік» адным з першых выканаў свой план, даўшы звыш плана 10 тон трасты 1,5—1,75 нумароў.

Лён—культура працаёмкая. У вытворчасці лёну канцэнтруюцца ўзорныя метады барацьбы, характэрныя для ўсіх галін сельскай гаспадаркі раёна. Шырока распаўсюджан у раёне, згодна пастанове ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б, «пскоўскі спосаб» бесперапыннай апрацоўкі лёну па ўсіх працэсах: цярабленне—ачос—мочка—рассціл і г. д., што дало магчымасць скараціць тэрміны работы, замачыць і рассцяліць лён у другой палове жніўня і першай палове верасня, якраз у час, самы каштоўны для атрымання павышанай якасці ільнапрадукцыі.

Калгасы раёна ўжо ў 1933 г. паказалі сваю вядучую ролю ў бальшэвіцкай барацьбе за лён. План загатовак ільнанасення ў 1932 г. поўнасцю не выканан, а ў 1933 годзе выканан к 29-XI на 101 проц. 90 калгасаў раёна са 153 перавыканалі да ўстаноўленага партыяй тэрміна планы загатовак лёну як колькасна, так і якасна. У калгасах, дзе да-

пусцілі разрыў паміж працэсамі апрацоўкі, рэзка знізілася якасць ільнавалакна, вырас процант страты.

З усіх калгасаў раёна перадавым па тэрміну ўборкі, першапачатковай апрацоўцы і здачы дзяржаве ільнапрадукцыі ідзе інтэрнацыянальны калгас «Эмес», Жоўніцкага сельсовета. Да 1 верасня калгас перавыканаў план ільназагатовак якасцю на 34 проц. вышэй устаноўленай для раёна.

Прыклады ўзорнай работы над лёнам, выкананння сваіх абавязкаў перад дзяржавай паказала частка працоўных аднаасобнікаў. **Лапідус** Еўна (Росіцкі сельсовет) дбайна адносіўся да сяўбы, праполкі і апрацоўкі лёну, дзякуючы чаму своечасова і поўнасцю выканаў кантрактацыйны дагавор на здачу дзяржаве ільнавалакна ручной апрацоўкі якасцю на 12 проц. вышэй устаноўленай для раёна. Таксама аднаасобнік **Бужынскі** (Сар'янскі сельсовет) датэрмінова здаў па кантрактацыйнаму дагавору ільнатрасту, частка якой—№ 4 (самы высокі ў раёне).

Масавыя арганізацыйныя і аперацыйныя мерапрыемствы па ільнаводству, праведзеныя ў раёне адпаведна з дырэктывамі і заданнямі партыі, забяспечылі своечасовую ўборку і першапачатковую апрацоўку лёну. Якасць у параўнанні з 1932 годам павышана на 40 проц. Сярэдні нумар зданай на ільназаводы ільнатрасты 1,42, супроць вызначаных па плану 1,31 і супроць 0,99 у 1932 г.

Дасягнутыя ў ільнаводстве першыя поспехі, асабліва калі ўлічыць нескарыстаныя яшчэ магчымасці, сведчаць аб тым, што наш совецкі лён можа і павінен быць лепшым у свеце.

З усіх сельскагаспадарчых работ важнейшай у раёне з'яўляецца веснавая сяўба, у правядзенні якой з кожным годам мы маем усё лепшыя вынікі. Веснавое ворыва ў 1932 г. праведзена было з 18/IV па 12/VI, г. зн. за 54 дні, у 1933 г.—з 17/IV па 5/VI або за 48 дзён. Сяўба яравых у 1932 г. праведзена з 12/V па 5/VII або за 53 дні, у 1933 г.—з 5/V па 14/VI за 39 дзён. Лён быў пасеян у 1932 г. за 45 дзён, у 1933 г. за 33 дні.

Ранняя і звышранняя сяўба як лёну, так і ўсіх яравых культур дала значна лепшыя вынікі ў параўнанні з позняй, якая знізіла ўраджайнасць і прынесла вялікія страты, у прыватнасці авёс зняты быў пустацелым і паражоным ржаўчынай, а позна высеяны лён даў нізкую ўраджайнасць, бабовыя нават недаспелі.

Лён, авёс і іншыя культуры ранняй сяўбы далі ўраджай на 50—300 і больш проц. вышэйшы ў параўнанні з познімі, высеянымі на той-жа глебе. Як сяўба яравых, так і ўсе асноўныя віды сельгасработ праведзены былі ў больш скарочаныя тэрміны ў параўнанні з 1932 г. Сенажаць у 1932 г. убралі за 80 дзён, у 1933 г. за 53 дні, адпаведна: уборка яравых 55—51, азімых 35—25, бульбы 60—50, абмалот азімых 180—105, сіласаванне 133—115 і т. д.

Такая разбежка ўраджайнасці ў аднолькавых як глебавых, так і кліматычных умовах—лепшы довад таго, што павышэнне ўраджайнасці залежыць, галоўным чынам, ад пастаноўкі партыйнага і совецкага кіраўніцтва, што за ранняю і звышранняю сяўбу неабходна змагацца.

Перабудова партыйна-масавай работы была важнейшым фактарам у барацьбе за большэвіцкі ўраджай, які ў сваю чаргу стварыў магчымасць хутчэйшага развіцця жывёлагадоўлі раёна.

У галіне жывёлагадоўлі найбольш здавальняючыя паказчыкі далі МТФ і СТФ. У 1932 г. у раёне было 64 МТФ і СТФ з агульным пага-

лоўем 4561, у 1933 г.—113 з пагалоўем 5097; СТФ у 1932 г. было 44 з пагалоўем 2164; коняводных ферм у 1932 г.—1 з пагалоўем 46, у 1933 г.—2 з пагалоўем 89; у 1933 г. арганізавана 15 аўцаводных ферм з агульным пагалоўем 2614.

Паспяхова выконваецца важнейшае заданне партыі аб надзяленні бескароўных калгаснікаў цёлкамі. 4770 сямей калгаснікаў маюць ужо 4814 кароў і цёлак, 5698 свіней, 13315 авечак.

Тав. Сталін на першым з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў паставіў задачу зрабіць калгасы большэвіцкімі, калгаснікаў заможнымі. У ажыццяўленні гэтай дырэктывы раённыя арганізацыі пад кіраўніцтвам КП(б)Б дасягнулі ўжо значных поспехаў, не глядзячы на нездавальняючы ўраджай зернавых у сувязі з частковымі вымачкамі, засмечанасцю жыта гірсой і паражэннем аўса ржаўчынай.

Вось некалькі прыкладаў размеркавання ў калгасах ураджаю. Яны гавораць самі за сябе.

У калгасе «Эмес» Жоўнінскага сельсовета (старшыня т. **Шкляр**) на адзін працадзень прыпадае:

| | | | |
|---|---|---|---|
| зернавых | —2,4 *кгр.* | сена | —7,7 *кгр* |
| бабовых | —0,2 " | саломы | —3,9 " |
| бульбы | —3,5 " | малака | —1,0 літ. |
| гароднiны | —1,0 " | грашыма | —1 р. 26 к. |

Адзін з лепшых ударнікаў гэтага калгаса тав. **Гірдзюк** Іван, які з сям'ёй з 4 чал. за 1933 г. выпрацаваў 993 працадні, атрымаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| зернавых | —23,84 *цнт.* | сена | —76 *цнт* |
| бабовых | — 1,78 " | саломы | —33 " |
| бульбы | —34,75 " | малака | —993 літ. |
| гароднiны | —10 " | грашыма | —1241 руб. |

Сям'я **Гінзбурга** Аўсея складаецца з 2 працаздольных; за 539 працадзён атрымала:

| | | | |
|---|---|---|---|
| зернавых | —13,15 *цнт.* | сена | —41,30 *цнт.* |
| бабовых | — 1,13 " | саломы | —20,65 " |
| бульбы | — 18,9 " | малака | —539 літ. |
| гароднiны | — 5,93 " | грашыма | —674 руб. |

Калгас «Пралетарый», Каркалецкага сельсовета (старшыня **Землянухін)** у 1932 годзе быў у вельмі цяжкім становішчы. У 1933 г. аднаго толькі хлеба на 1 працадзень прыпадае каля 5 кгр. акрамя хлеба за здачы дзяржаве лён.

«Эмес»—адзін з інтэрнацыянальных калгасаў. Гісторыя яго развіцця цесна звязана з барацьбою супроць гандлярскіх, нацыяналістычных, антысеміцкіх контррэволюцыйных элементаў. Уся гэта зграя прарочыла пагібель калгаснага будаўніцтва наогул і нацыянальных калгасаў у прыватнасці. У змаганні з калгасам «Эмес» яна выстаўляла тэзіс: «Яўрэі не гаспадары, яны ніколі не працавалі і працаваць не будуць». Практыка калгаснага будаўніцтва ўшчэнт разбіла контррэволюцыйныя прароцтвы і іх матар'яльных носьбітаў.

Перамога калгаснага ладу, асабліва ў інтэрнацыянальных калгасах, якія вышлі ў перадавыя калгасы БССР, ёсць тонар ленінскай

нацыянальнай палітыкі і лепшы прыклад таго, наколькі калектыўная праца збліжае працоўных розных нацыянальнасцей.

У калгасе **«Чырвоны партызан»**, Сар'янскага сельсовета (старшыня **Лаўрыновіч** Віктар). На 1 працадзень прыпадае:

| | |
|---|---|
| зернавых. . . . . | 4,8 *кгр.* |
| бульбы . . . . . | 2,6 „ |
| грашыма. . . . . | 2 р. 50 к. і г. д. |

Калгаснік **Барановіч** выпрацаваў асабіста (не лічачы сям'і) 260 працадзён, за якія атрымаў:

| | |
|---|---|
| хлеба . . . . . . . | 12,28 *цнт.* |
| бульбы . . . . . . . | 6,76 „ |
| грашыма. . . . . . | 490 руб. |

а ўся сям'я адны́мі толькі грашыма атрымала 1972 р.

Гэта першыя крокі калгасных перамог па шляху стварэння моцнай буйной гаспадаркі раёна.

Рост матар'яльнага дабрабыту працоўнага сялянства Дрысеншчыны набывае яшчэ большую веліч, калі параўнаць яго са становішчам і перспектывамі суседняга сялянства Заходняй Беларусі—класічнай краіны сялянскай галечы, голаду, эксплаатацыі і здзекаў польскага фашызма.

Палітыка польскіх акупантаў давяла бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі да поўнага зруйнавання. Заработак бедняка і серадняка Заходняй Беларусі часта спускаецца ніжэй фізічнага мінімума. Сяляне ідуць на кабальную запазычанасць да ліхвяра—кулака, ксяндза, крамніка. Урэшце, распрадаюць сваю гаспадарку і папаўняюць і без таго велізарную армію беспрацоўных Польшчы.

Пад ударамі капіталістычнага крызіса ўзрастаючыя супярэчнасці паскараюць распад эканомікі ў Заходняй Беларусі.

Поспехі соцыялістычнай рэканструкцыі Дрысенскага раёна з асаблівай паўнатою знашлі сваё выражэнне ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Яны асабліва грандыёзны ў параўнанні з мінулым. У 1893 г. свяшчэннік Сакольніцкага народнага вучылішча—асоба, даволі зацікаўленая ў народнай асвеце, так ахарактарызаваў клопаты царскай улады з повада адкрыцця сельскай школы на тэрыторыі Дрысеншчыны:

«Два тыдні перад гэтым пашлі ў Ефрасіньеўскага валаснога праўлення на складанне мноства прыгавораў, знішчаючых адзін другога—колькі прызначыць у школу хлопчыкаў з прыхода і якіх іменна. Усе гэтыя прыгаворы мелі адну мэту: як-бы прызначыць меншую колькасць хлопчыкаў, каб на ўтрыманне іх выходзіла менш грамадскага хлеба».

Гэтыя школы разлічаны былі выключна на кулацкіх хлопчыкаў пад поўнай апекаю мракабесаў. Палітыка памешчыкаў і капіталістаў у глушы беларускай вёскі імкнулася затушыць у беднаты малейшы пробліск жадання асветы. Раён ў мінулым меў 84 проц. няграматнага насельніцтва. Карчма для памешчыкаў і кулакоў больш выгаднае прадпрыемства, чым школа.

Ці трэба гаварыць аб тым, што размах развіцця асветы пры дыктатуры пролетарыята не можа ісці ні ў якое параўнанне з мінулым.

Даволі сказаць, што ў 1933 г. на ўсе віды народнай асветы ў раёне скарыстана 1 015 тыс. руб., ліквідавана няграматнасць, уведзена ўсеагульнае абавязковае пачатковае навучанне. Масавай школай ахоплена 9248 дзяцей, дашкольнымі ўстановамі — 2355. Працуюць 4 яўрэйскія і 3 польска-беларускія школы, палітасветтэхнікум, вячэрняя рабочая школа. Шырока разгарнулася сетка партыйнай асветы. Праз вытворчыя курсы за год прашло 744 калгасніка-актывіста. Радыё, гукавое кіно, кнігарні і 25 бібліятэк, шырокая радыё-тэлефонная сувязь з сельсоветамі, соўгасамі і калгасамі. З кожным днём расце колькасць выпісваемых газет і часопісаў.

Са снежня 1931 г. выходзіць раённая газета «Звязда на рубяжы», меўшая ў той час тыраж 700—800 і 18 рабселькораў. Зараз тыраж газеты 3500, рабселькораў 496. У канцы 1933 г. пачалі выходзіць дзве газеты палітаддзела МТС з тыражом па 600 экз. кожная. Калгасных насценгазет 96. У час летніх работ працавалі 42 брыгаднапалявыя газеты. Амаль на кожны двор выпісваюцца цэнтральныя і мясцовыя газеты.

Першы год другой пяцігодкі—год вялікіх перамог дрысенскай партарганізацыі ў барацьбе за соцыялістычную рэканструкцыю гаспадаркі і культуры. Поспехі не прышлі самацёкам. Ленінская нацыянальная палітыка развіваецца і перамагае ў барацьбе з класавымі ворагамі. Атрэп'е апошняга капіталістычнага класа — кулацтва пад нацыяналістычнымі лозунгамі шалёна змагаецца супроць соцыялістычнай рэканструкцыі раёна.

У Валынецкай ШКМ абнаглелыя ідэолагі кулацтва, скарыстаўшы адсутнасць палітмасавай работы, перайшлі ад прышчаплення дзецям чуждай пролетарыяту ідэалогіі «ціхаю сапай» да адкрытых контррэволюцыйных вылазак. Справа дашла да таго, што адна настаўніца праводзіла гульні з дзецьмі выключна на пляцоўцы касцёла пры адкрытых дзверах і вокнах касцёла пад гукі касцёльнай музыкі і спеваў.

Масавая школа выкарыстоўвалася для контррэволюцыйнай работы, праяў антысемітызма, беларускага і вялікадзяржаўнага нацыяналізма, выявіўшагася ў форме нежадання ўжываць новы беларускі правапіс.

Дрысенская партыйная арганізацыя дала рашучы адпор гэтым контррэволюцыйным вылазкам. Перад ёю стаіць задача—паспяхова падрыхтавацца да веснавой сяўбы, аперацыйным кіраўніцтвам забяспечыць засыпку насенных страхавых фондаў, закончыць правільнае размеркаванне ўраджаю па працаднях, ні аднаго калгасніка не пакінуць без каровы.

Перад дрысенскай партарганізацыяй стаіць задача правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі як у галіне гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва, рашучай барацьбы на два фронты—супроць вялікадзяржаўнага расійскага шавінізма, які па-ранейшаму з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Савецкага саюза і ВКП(б), і супроць беларускага нацыяналізма, які ва ўмовах Савецкай Беларусі на даным этапе з'яўляецца галоўнай небяспекай.

У партарганізацыі раёна пасля чысткі, акрамя чыгуначнага транспарта,—301 комуніст (201 член партыі і 100 кандыдатаў), у тым ліку 36 жанчын і 41 комсамолец. Па соцыяльнаму становішчу: рабочых 145, сялян 127, служачых 29. За апошні час перакінута ў вёску з раённага цэнтра: сакратарамі парт'ячэек—7, старшынямі сельсоветаў—9, стар-

шынямі калгасаў—14, на іншыя работы 13 чал. Прымацавана з раённага партактыва партарганізатарамі калгасаў 34 чал.

Комсамольская арганізацыя раёна налічвае каля 800 чал. Усяго комсамольскіх ячэек 63, в якіх у калгасах зоны дзейнасці МТС 39, пры калгасах райза 2, тэрытарыяльных 5, школьных 6, ільназаводскіх 2, соўгасных 2 і інш. 7.

Паасобныя комсамольскія ячэйкі і комсамольцы паказалі добрыя прыклады сваёй работы на заводах, у соўгасах і калгасах, пры правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній у час сяўбы, праполкі, уборкі, загатовак, аховы ўраджаю і соцыялістычнай маемасці, пры мабілізацыі сродкаў насельніцтва і інш. Комсамольцы актыўна ўдзельнічаюць у рабоце грамадска-масавых арганізацый, у разгортванні крытыкі і самакрытыкі, у выяўленні і знішчэнні недахопаў на паасобных участках. Частка ячэек нядрэнна праводзіць маркісіцка-ленінскую вучобу.

Выключна важную ролю адыгралі створаныя ў 1933 г. палітаддзелы Дрысенскай і Боркавіцкай МТС, якія па-большэвіцку ўзначалілі масавую работу ў калгасах, ачышчаючы іх ад класава-варожых элементаў.

Значна ўзрасла актыўнасць жанчын ва ўсіх працэсах работы як на прадпрыемствах, ва ўстановах, так і ў калгаснай вытворчасці. Жанчыны паказвалі добрыя прыклады ў барацьбе за лён.

У раёне, побач з дасягненнямі і перамогамі, шмат яшчэ нескарыстанага і нязробленага, шмат недахопаў і прарываў у рабоце, выяўленых і ўскрытых у час чысткі райпартарганізацыі.

Важнейшы недахоп у тым, што ў самой райпартарганізацыі і яе рабоце не было забяспечана належнай большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці, дапускалася засмечанасць партарганізацыі соцыяльна чужымі, двурушніцкімі, перараджэнцкімі, шкурніцкімі, злачыннымі і маральна разлажыўшыміся элементамі, парушальнікамі партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны. Усяго выключана з партыі ў час чысткі 19 проц. да агульнай колькасці праверанных.

Дрэнна праводзілася арганізацыйная партмасавая і палітвыхаваўчая работа. Многія члены і кандыдаты партыі пры асабістай чыстцы паказалі сябе ў палітычных адносінах малаграматнымі, а некаторыя і зусім няграматнымі. Паасобныя комуністы зусім не ведалі праграмы і статута партыі, важнейшых рашэнняў партыі і ўрада, не арыентаваліся ў пытаннях бягучай палітыкі партыі, што не забяспечвала іх авангардную ролю, як комуністаў. З агульнай колькасці праверанных пераведзена ў кандыдаты і спачуваючыя 20 проц.

Не былі забяспечаны належнае кіраўніцтва і дапамога ў рабоце комсамола, профсаюзаў і іншых грамадскіх арганізацый, якія ў рэзультаце гэтага працавалі нездавальняюча.

Яшчэ і на сёння ёсць рад недахопаў у рабоце совецкіх, гаспадарчых і культасветных установ. Слаба наладжана работа сярод нацменшасцей і па інтэрнацыянальнаму выхаванню.

Няпоўнасцю ачышчан совецка-каапэрацыйны апарат і паасобныя калгасы. Былі выпадкі парушэння рэволюцыйнай законнасці. Недастаткова разгортваецца крытыка і самакрытыка; рэагаванне на заметкі і заявы рабочых і калгаснікаў дрэннае. Скалачванне актыва і работа з ім як след не наладжана. Падрыхтоўка кадраў, праверка работнікаў і іх работы на паасобных участках, кантроль выканання

дырэктыў і заданняў партыі і ўрада ўсё яшчэ слабы. Цякучасць партарганізацыі і работнікаў вялікая: за 2 гады прыбыла ў арганізацыю з іншых раёнаў 211 чал., выбыла ў іншыя арганізацыі 221.

У вельмі дрэнным становішчы комунальнае і школьнае будаўніцтва. Трэці год будуецца рад аб'ектаў. Марудныя тэмпы павышаюць кошт гэтага будаўніцтва, псуецца частка будматар'ялаў. Мала ўвагі ўдзяляецца рамонту будынкаў.

У сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) ад 1/II—31 г. аб рабоце дрысенскай райпартарганізацыі звернута сур'ёзная ўвага на ільнаводства, жывёлагадоўлю і прамкааперацыю. Па ільнаводству ёсць ужо частковыя дасягненні. Жывёлагадоўлі-ж не ўдзяляецца патрэбнай увагі, і зусім у дрэнным стане прамысловая кааперацыя. Усе адзначаныя і рад іншых недахопаў у рабоце райпартарганізацыі, усіх нізавых яе звенняў і паасобных комуністаў ставіліся па меры выяўлення іх, і ў час чысткі і пасля чысткі, перад усёй партарганізацыяй з мэтай дабіцца іх ліквідацыі.

Чыстка партарганізацыі ўзняла палітузровень членаў і кандыдатаў партыі, павысіла іх зацікаўленасць і адказнасць у рабоце, узмацніла партдысцыпліну, класавую пільнасць і боездольнасць.

У час і пасля чысткі партарганізацыі вырас энтузіязм і актыўнасць рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных раёна ў правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній і паасобных мерапрыемстваў.

Чарговая асноўная задача калгасаў—аўладаць перадавою тэхнікай апрацоўкі зямлі, асабліва-ж асвоіць тэхніку першапачатковай апрацоўкі лёну. Ужо зараз «Комсамолка» і «Гельштэйн» у калгасах «Маяк» і імя Сталіна, Сар'янскага сельсовета, дзе іх здолелі лепш за ўсё скарыстаць, далі ўзорныя прыклады вытворчасці. Поўнае асваенне тэхнічнай магутнасці вялікага трактарнага парка і с.-г. машын будзе базай для новага разгортвання вытворчых сіл раёна.

Прапрацоўка матар'ялаў XVII з'езда ВКП(б) выклікала энтузіязм і актыўнасць рабочых і калгаснікаў раёна ў выкананні сваіх абавязкаў па заданнях партыі і ўрада.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія парторганаў забяспечыла шырокую масавую праверку выканання прапаноў камісіі па чыстцы, дапамагла выявіць і мабілізаваць увагу партарганізацыі, рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных на знішчэнне недахопаў і прарываў, на палепшанне і ўзмацненне работы на ўсіх участках.

Райпартканферэнцыя вызначыла праграму далейшай практычнай работы партарганізацыі. Мяжуючы з капіталістычным захадам—Польшчай і Латвіяй—на працяжэнні больш 100 клм., Дрысеншчына займае асабліва адказнае месца. Таму партарганізацыя сумесна з палітаддзеламі МТС, кіруючыся ў сваёй рабоце ўказаннямі правадыра нашай партыі т. **Сталіна,** пастановамі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, большэвіцкімі дырэктывамі і ўказаннямі т. **Гікало**, павінна мабілізаваць увагу рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных раёна на выкананне сваіх адказных абавязкаў.

Рапарты і прывітанні райпартарганізацыі ад рабочых-ударнікаў чыгуначнга транспарта, ільназаводаў, соўгасаў, калгаснікаў-ударнікаў, членаў арцелей прамкааперацыі, профсаюзаў, моладзі, іх паведамленні аб перавыкананні планаў, аб гатоўнасці да веснавой сяўбы, самаабавязацельствы, узятыя на канферэнцыі, сведчаць аб велізарных магчымасцях, якімі распалагае райпартарганізацыя, прадпрыемствы і калгасы раёна.

Перамог і поспехаў Дрысеншчына дабілася ў соцспаборніцтве з Полацкім раёнам, шырока разгарнуўшы соцспаборніцтва на прадпрыемствах, паміж сельсоветамі, калгасамі і ўнутры іх, паміж брыгадамі, звеннямі, паасобнымі ўдарнікамі і работнікамі. Гэты ленінскі метад трэба разгарнуць яшчэ шырэй.

Дрысенскі раён мае ўсе магчымасці і павінен быць у ліку перадавых раёнаў БССР.

Райпартарганізацыя і ў далейшым павінна захоўваць бальшэвіцкае адзінства і стойкасць, рэвалюцыйную пільнасць і жалезную партыйную дысцыпліну.

---

Дмітрыеў

# За ўзорную падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы

КП(б)Б у галіне сельскай гаспадаркі дасягнула велізарных поспехаў, асабліва рэльефных у 1933 г. У галіне барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае і палітычнае ўмацаванне соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, у галіне барацьбы за высокі ўраджай 1933 год быў пераломным гістарычным годам. У 1933 г. мы дабіліся высокіх ураджаяў.

Але 1933 г.—гэта толькі пачатак, толькі першы крок па шляху высокіх, устойлівых, з года ў год усё большых ураджаяў.

У 1933 г. як ніколі праявіліся невычарпальныя магчымасці павышэння ўраджайнасці, закладзеныя ў прыродзе соцыялістычнай гаспадаркі. У радзе выпадкаў мы маем сапраўды рэкордныя ўраджаі, якіх не давалі навукова-даследчыя ўстановы (бульба 183 цэнт. з га, авёс 40 цэнт. з га) і практыка капіталістычных краін. Задача зараз у тым, каб гэтыя ўраджаі, атрыманыя ў паасобных соцыялістычных гаспадарках, зрабіць масавымі і паўсямеснымі. Для гэтага мы маем усе магчымасці, трэба толькі рэалізаваць іх, ператварыць у практыку, у рэчаіснасць соцыялістычнай вытворчасці.

Мы яшчэ не можам пахваліцца тым, што ў 1933 г. гэтыя магчымасці па-большэвіцку рэалізавалі. Асабліва не могуць гэтым пахваліцца соўгасы, адставанне якіх наглядаецца і дагэтуль.

Паказчыкам недастатковай барацьбы соўгасаў за соцыялістычны ўраджай можа служыць **ход веснавой сяўбы ў 1933 г.**

| | На 25/IV | На 20/V | На 5/VI |
|---|---|---|---|
| МТС . . . . . . . . | 3,5 | 54,8 | 92,9 |
| Соўгасы . . . . . . | 2,0 | 50,4 | 85,9 |
| Калгасы . . . . . . | 5,2 | 65,1 | 101,3 |
| Аднаасобнікі . . . . | 1,8 | 50,7 | 80,4 |
| Па БССР . . . . . . | 3,2 | 55,1 | 86,6 |

Такім чынам, соўгасы у веснавой сяўбе не толькі адставалі ад калгасаў і МТС, а ішлі ў выкананні плана ніжэй агульна-рэспубліканскіх паказчыкаў. У 1934 г. гэтаму не павінна быць месца. Соўгасы павінны

стаць перадавікамі, падаць прыклад для ўсіх. Веснавая сяўба—адзін з рашаючых момантаў у барацьбе за высокі ўраджай.

Адна з асноўных прычын адставання соўгасаў у веснавой сяўбе 1933 г.—гэта дрэнная арганізацыя і непадрыхтаванасць к пачатку сельскагаспадарчага года. Кожны соўгас, кожная МТС і калгас, кожны работнік сельскай гаспадаркі павінны зрабіць адсюль адпаведныя практычныя вывады, каб не паўтарыць памылак у бягучым годзе.

Аднаасобны сектар у БССР займае яшчэ вялікае месца ў выкананні ўсіх сельскагаспадарчых кампаній. Ігнараваць аднаасобніка ў падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы ні ў якім разе нельга. Трэба так падрыхтаваць аднаасобніка да сяўбы, каб забяспечыць поўнае, добраякаснае і ў мінімальна кароткія тэрміны выкананне плана веснавых работ. Трэба памятаць, што адказнасць за падрыхтоўку да сяўбы аднаасобнікаў нясуць цалкам партарганізацыі і сельсоветы. У рэзультаце падрыхтоўкі аднаасобніка да сяўбы павінен быць створан новы прыліў серадняхоў і беднякоў у калгасы.

Падрыхтоўка да веснавой сяўбы—адзін з галоўных і адказных этапаў сельскагаспадарчага года. Соўгасы, МТС і калгасы павінны правесці яе з усёй большэвіцкай прыкладнасцю і ўзорнасцю.

Аднак у радзе выпадкаў рыхтуюцца да сяўбы ўсё яшчэ нездавальняюча. Дрэнна праходзіць рамонтная кампанія, слабы тэмпы складання вытворчых планаў, арганізацыя брыгад, набор рабочай сілы і падрыхтоўка кадраў. Соўгасы, МТС і калгасы павінны тэрмінова перабудавацца так, каб веснавую сяўбу сустрэць ва ўсеўзбраенні, забяспечыць высокую якасць і кароткія тэрміны работ.

Важнейшае значэнне для своечасовага і добраякаснага правядзення веснавой сяўбы мае дэтальнейшая, дзелавая прапрацоўка вытворчага задання дзяржавы і складанне на яго аснове вытворча-фінансавага плана. У корані трэба адмовіцца ад тэндэнцый габінетнага складання плана. У складанні і абгаварэнні кожнай лічбы, кожнага пункта плана павінна ўдзельнічаць уся маса калгаснікаў, уся маса рабочага калектыва соўгаса.

Складаючы план, трэба абгаварыць яго не толькі на вытворчай нарадзе калгаса, соўгаса і МТС, але і ў кожнай брыгадзе, на кожным вытворчым участку. Кожны рабочы соўгаса, кожны калгаснік павінен добра ведаць, які аб'ём работы намечан у гаспадарцы, у яго брыгадзе і што гэтыя лічбы ўскладаюць на яго. Рабочы, калгаснік павінен добра ведаць тэрмін ўсіх сельскагаспадарчых работ, якія агратэхнічныя мерапрыемствы трэба прымяняць пры выкананні той ці іншай работы, якія існуюць расцэнкі па ўсіх відах здзельнай работы.

Толькі план з канкрэтнымі паказчыкамі аб'ёма работы, агратэхнічных правіл, абмяжоўваючых кожны від работы вызначанымі тэрмінамі, толькі план, складзены пры актыўным удзеле кожнага рабочага, кожнага калгасніка ў абгаварэнні паказчыкаў, толькі такі план будзе не простым падборам лічб, а магутным рычагом, магутнай рухаючай сілай у барацьбе ўсёй масы за пастаўленыя партыяй і ўрадам перад сельскай гаспадаркаю задачы.

* * *

«Адной з чарговых задач сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўвядзенне правільных севазваротаў, расшырэнне чыстага папару, палепшанне насеннай справы па галінах земляробства» (**Сталін**. Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б)).

Да гэтага часу ў справе ўвядзення правільных, агратэхнічна вытрыманых севазваротаў, упаўне ўвязаных з вытворчым заданнем дзяржавы, мы сустракаем рад агіднейшых адносін: скажэнне, парушэнне, ігнараванне. Напрыклад, у БССР севазвароты ўведзены менш, чым у палове калгасаў. У многіх гаспадарках канкрэтныя севазвароты падменьваліся тыповымі схемамі, не ўвязваліся з планавым заданнем, не прымяняліся да рэчаіснасці і т. д. (калгасы «Прагрэс», «Памяць Ільіча»—Слуцкага раёна, «Чырвоны маяк»—Пухавіцкага раёна, і інш.).

Падобным нецярпімым адносінам у гэтым годзе павінен быць пакладзен канец. Севазвароты павінны быць уведзены ў практыку кожнай гаспадаркі. Трэба цвёрда памятаць, што севазварот—гэта агромнае агратэхнічнае і арганізацыйнае мерапрыемства, яно забяспечвае сапраўды высокія і ўстойлівыя ўраджаі. За правільны севазварот трэба змагацца штодзенна, дабіваючыся поўнага і сапраўднага ажыццяўлення яго ў практыцы соцыялістычнай вытворчасці.

У справе планавання, у справе ўвядзення севазваротаў мы сустракаемся з шалёным супраціўленнем класавага ворага і яго агентуры, якія імкнуцца сарваць гэтыя мерапрыемствы партыі і ўрада, а значыць і барацьбу за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасць працы, за моцную соцыялістычную гаспадарку ў земляробстве. Таму партарганізацыі, палітаддзелы і кіраўніцтва на гэтым адказнейшым участку вытворчасці павінны праявіць асаблівую большэвіцкую пільнасць, бязлітасна выкрываючы і руйнуючы ўсякія спробы класавага ворага ўставіць палку ў калёсы пераможнаму соцыялістычнаму будаўніцтву. У гэтай пільнасці—лепшая зарука новых перамог.

* * *

«Захаванне трактароў і машын нездавальняючае. Рамонт таксама нездавальняючы, бо дагэтуль не хочуць зразумець, што аснову рамонту складае бягучы сярэдні рамонт, а не капітальны» (**Сталін.** Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б)).

Найбольш адказнае і буйнае звяно ў ланцугу задач, вырашаючых поспех веснавой сяўбы,—гэта рамонт трактарнага парка, рамонт усіх сельскагаспадарчых машын.

Адставанне МТС і соўгасаў у сяўбе 1933 г. у значнай меры тлумачыцца недобраякасным, несвоечасовым рамонтам трактароў, адсюль—іх дрэнная работа і невыкананне планаў.

Аднак, гэтай акалічнасці і па сёння не ўлічылі рад работнікаў сістэмы НКЗБ і ўпаўнаркамсоўгасаў. Рамонт трактарнага парка праходзіць нездавальняюча, а ў радзе выпадкаў апартуністычнымі тэмпамі. Рост выканання плана рамонту па пяцідзенках не перавышае 2—4 проц. Ісці далей такімі тэмпамі—значыць расцягнуць рамонт трактарнага парка да ліпеня, значыць стварыць пагрозу, што к 15 сакавіка— тэрміну, устаноўленаму ўрадам, — рамонт не закончыцца.

Паколькі рамонту трактароў у радзе выпадкаў не ўдзяляецца патрэбнай увагі, паколькі гэтай адказнай справай дрэнна кіруюць, мы маем факты недобраякаснага рамонту, так званага «карасінавага», калі работнікі ганяюцца за колькасцю, за месца рапартаваць, забываючы пра якасць. У некаторых трактарных майстэрнях замест сапраўднага рамонту трактары прамываюць карасінам і лічаць, што пасля такой аперацыі трактар зусім «аздароўлены» і прыгодны да веснавых работ.

Так, Лепельская МТМ (дырэктар **Ламачынскі**) паставіла трактарам Бягомльскай МТС нягодныя пальцы, дрэнна растачыла валы. На шай-

ках каленчатага вала зроблены рубцы, папсаваны 3 поршні матора і т. д.

Падобных фактаў недобраякаснага рамонту, бюракратычнага кіраўніцтва гэтай адказнейшай справай у практыцы 1934 г. не мала.

Задача партарганізацый—забяспечыць рамонт кожнага трактара, кожнай яго дэталі так, каб трактар на полі працаваў з дакладнасцю механізма гадзінніка. А для гэтага партарганізацыям трэба ўзмацніць сваю ўвагу, кіраўніцтва і клопаты, правільна расставіць на рамонт людзей, ліквідаваць абязлічку і павысіць адказнасць кожнага рабочага за даручаную яму работу, памятаючы, што недобраякасны рамонт губіць трактарны парк.

Да рамонту пэўнага трактара павінны прыцягвацца трактарысты, якія на ім працавалі і будуць працаваць. Гэта, з аднаго боку, палепшыць якасць самога рамонту, кантроль за ім непасрэднага работніка данай машыны, а з другога—трактарыст у працэсе рамонту больш дэталёва вывучае сваю машыну, кожную яе частку, тым самым павышаючы сваю кваліфікацыю. Такім чынам, сам рамонт з'яўляецца для трактарыста школай перападрыхтоўкі, павышэння тэхнічнай кваліфікацыі.

За ходам рамонту палітаддзелы і партарганізацыі павінны ўстанавіць самы ўважлівы кантроль. На дырэктароў МТМ і МТС ускладаецца партыяй і ўрадам найстражэйшая адказнасць за своечасовы і добраякасны рамонт трактарнага парка. Таму дырэктар МТМ і МТС павінен асабліва ўважліва сачыць за якасцю выпускаемай прадукцыі.

У кожнай трактарнай майстэрні неабходна арганізаваць кантрольныя пасты па рамонту, задача якіх—безадкладна выпраўляць і знішчаць на-ходу недахопы, зачынства і разгільдзяйства.

Вінаватыя ў недобраякасным выпуску прадукцыі павінны прыцягвацца да судовай адказнасці па ўсёй суровасці закона, так сама як і ў прамысловасці (да 5 год турмы).

Вакол рамонтнай кампаніі павінен быць шырока разгорнут соцыялістычны метад работы. Рамонтная кампанія павінна расціць армію ўдарнікаў, энтузіястаў, якія балеюць за грамадскае соцыялістычнае дабро. Ударная работа павінна стаць мэтаю кожнага работніка МТМ і МТС. Ударніку—чэсць і слава, яго трэба ўсямерна падтрымліваць, стварыць неабходныя ўмовы для ўдарнай работы, скласці адпаведную грамадскую думку, каб зрабіць яго прыкладам, узорам для ўсёй масы МТС і МТМ.

Класавы вораг з усіх сіл будзе старацца сарваць рамонтную кампанію, разбурыць трактарны парк, пашкодзіць пераможнаму соцыялістычнаму будаўніцтву. Задача партарганізацыі і ўсяго рабочага калектыва—павысіць класавую пільнасць, не прапускаць дробязяй, біць па іх з усёй большэвіцкай рашучасцю.

Побач з рамонтам трактароў не трэба забываць аб рамонце сельскагаспадарчага прычэпнага інвентара. Разам з трактарамі павінны быць адрамантаваны і ўсе прычэпныя сельскгаспадарчыя машыны. Задача рамонту інш. сельгасмашын не менш важная, чым рамонту трактароў, паміж першай і другой не павінна быць ніякага разрыву. Трактар у веснавую сяўбу павінен выйсці ў поле ў поўнай спраўнасці, з поўным узбраеннем, з добра адрамантаванымі прычэпамі.

Трактар і прычэпныя машыны павінны быць адрамантаваны так, каб у перыяд сяўбы не было ні аднаго прастоя з-за іх няспраўнасці.

Ні адзін трактар, ні адна сельскагаспадарчая машына не павінна быць выпушчана з рамонту без усебаковай дакладнай праверкі, без

абкаткі пад адпаведнай нагрузкай, каб можна было меркаваць аб якасці рамонту, працаздольнасці трактара і прыцэпнай машыны.

Паспяхова, добраякасна і ва ўстаноўленыя тэрміны завяршыць рамонт трактароў і сельгасмашын мы маем абсалютна ўсе магчымасці. У гэтым годзе МТМ значна лепш забяспечаны запаснымі часткамі і неабходнымі матар'яламі, лепш укамплектаваны рабочай сілай, кваліфікаванымі кадрамі, абсталяваннем і прадуктамі харчавання. Задача толькі ў тым, каб ператварыць гэтыя магчымасці ў рэчаіснасць. Патрабуецца ўмелая, правільная арганізацыя людзей, мабілізацыя іх на бальшэвіцкую барацьбу за своечасовы і добраякасны рамонт. Патрабуецца канкрэтнасць, аперацыйнасць і гібкасць кіраўніцтва з веданнем тэхнікі справы і людзей. У гэтым галоўнае, у гэтым—зарука перамогі.

* * *

«Што датычыць выкарыстання трактароў і машын, то нездавальняючы стан гэтай справы да таго ясны і агульнавядомы, што не патрабуе довад» (**Сталін.** Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б)).

У перыяд веснавой сяўбы галоўная задача соўгасаў, МТС і калгасаў—правільна, поўна і высока па якасці выкарыстаць адрамантаваныя трактары і прыцэпныя сельгасмашыны. Соўгасы ў справе правільнага і поўнага выкарыстання тэхнікі павінны быць узорамі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Да гэтага часу выкарыстанне трактара і сельгасмашын арганізавана зусім нездавальняюча. Трактарны парк па часу яго карыснай работы выкарыстоўваецца толькі на 45—50 проц. У радзе выпадкаў каэфіцыент карыснай работы яшчэ больш зніжаецца. Для характарыстыкі прывядзем хранаметражныя даныя з вопыту веснавой сяўбы 1933 г. у соўгасе «Вішнёўка».

**Работа трактара ХТЗ 15/30 на дробным ворыве.**

| | 24/IV-33 г. | | 26/IV-33 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Час. | Проц. | Час. | Проц. |
| 1. Усяго за дзень . . . | 9 г. 42 м. | 100 | 12 г. 10 м. | 100 |
| а) падрыхтоўчая і заключная работа . . | 20,5 м. | 3,5 | 36 м. | 5,0 |
| б) асноўная работа . . | 4 г. 4 м. | 42,0 | 3 г. 55 м. | 32,2 |
| в) дапаможныя работы | 9,5 м. | 1,6 | — | — |
| г) выпадковыя . . . . | 47 м. | 8,1 | 12 м. | 1,7 |
| д) пераезды . . . . . | 19.5 м. | 3,3 | 39 м. | 5,2 |
| 2. Усяго работы . . . . | 5 г. 4 .5 м. | 58 5 | 5 г. 22 м. | 44,1 |
| 3. Усяго прастояў . . . | 4 г. 1.8 м. | 41,5 | 6 г. 48 м. | 55,9 |
| а) залежн. ад рабоч. . | 28,5 м. | 4,9 | 16,5 м. | 2,3 |
| б) арганізац. . . . . . | 8 м. | 1,4 | 18 м. | 2,5 |
| в) тэхнічных . . . . . | 2 г. 57,25 м. | 35 0 | 5 г. 30,5 м. | 50,6 |
| г) тэхналагічных . . . | 28 м. | 0,2 | 43 м. | 0,5 |
| П а к а з ч ы к і: | | | | |
| 1. Чысты час работы матора . . . . . . . | 7 г. 38 м. | 78 7 | 10 г. 29,5 м. | 86,3 |
| 2. За дзень узворана . | 1,68 га | 56,0 | 1,50 га | 50 |
| 3. Павінен быў зрабіць за 10 гадз. . . . . . | 3 га | 100 | 3 га | 100 |

З а ў в а г а: 24 красавіка вёў трактар трактарыст **Малеўскі**, вёў нагляд **Панасюк.** 26 красавіка вёў трактар трактарыст **Мцяцкі**, нагляд вёў **Панасюк.**

З табліцы відаць, што асноўная работа трактара раўняецца за 24/IV—42 проц., за 26/IV—32,2 проц. Прастоі складаюць у першым выпадку 41,5 проц., у другім—55,9 проц., прычым гэтыя прастоі амаль цалкам адносяцца за лік няспраўнасці трактара і прыцэпаў (50,6 проц. з 55,9 проц.). Гэта лішні раз падкрэслівае недобраякаснасць леташняга рамонту, з аднаго боку, і з другога — няўважлівыя, нядбайныя адносіны да машын.

Такім чынам, пры адпаведным рамонце трактароў і прыцэпаў гэтая частка прастояў можа быць цалкам знішчана. Таксама лёгка знішчыць і астатнія прастоі. У даным выпадку яны складаюцца з дробных непаладак, а іменна: трактарыст шукаў, дзе набраць вады—3 мін., чакаў пакуль прынясуць лемеш—8 мін., пакуль прывязуць гаручае -32 мін., гутаркі—6 мін. і т. д. Усё гэта складае 10 проц. усяго часу прастояў.

Задача партарганізацыі—павесці рашучую барацьбу з нядбайнымі, няўважлівымі адносінамі да машыны, з неарганізаванасцю, разгільдзяйствам, з дробнымі арганізацыйнымі непаладкамі, якія бяруць шмат часу. Барацьба за ўшчыльненне рабочага дня ў соўгасах, МТС і калгасах, так сама як і ў прамысловасці, павінна быць у цэнтры работы партарганізацый, палітаддзелаў, профорганаў і кіраўніцтва.

Няпоўна выкарыстоўваецца і сілавая энергія трактара. Не рэдкі выпадкі, калі да трактара прыцапляюць конныя культыватары, конныя жняяркі, у лепшых выпадках конныя снопавязалкі. У большасці соўгасаў і МТС, як правіла, пры ворыве трактарам ад плуга адымаюць па 1—2 лемехі, што значна зніжае прадукцыйнасць трактара.

Так, у соўгасе «Вішнёўка» да трактара ХТЗ быў прыцэплен двухкорпусны плуг «Элів'ер». Паколькі сілавая магутнасць трактара ХТЗ разлічана на 4-х корпусны плуг, то прадукцыйнасць трактара знізілася больш як у два разы.

Паводле хранаметражных даных увесь рабочы час трактара размяркоўваецца наступным чынам:

| | Час | У проц. |
|---|---|---|
| 1. Усяго за дзень | 11 г. 49,5 м | 100 |
| а) падрыхтоўчыя і закл. работы | 9,5 м | 1.3 |
| б) асноўная работа | 8 г. 9,5 м | 69,1 |
| в) дапаможныя работы | — | — |
| г) выпадковыя работы | 11 м. | 1,5 |
| д) пераезды | 34 м. | 4,8 |
| 2. Усяго работы | 9 г. 5 м. | 76,7 |
| 3. Усяго прастояў | 2 г. 45 м. | 23,3 |
| а) залежачыя ад рабочага | — | — |
| б) арганізацыйныя | 43 м. | 5,9 |
| в) тэхнічныя | 1 г. 0 м. | 8,5 |
| г) тэхналагічныя | 1 г. 3 м. | 8,9 |
| **Паказчыкі:** | | |
| 1. Час работы матора | 10 г. 26 м. | 88,2 |
| 2. Утворана за дзень | 1,15 га | 38,4 |
| 3. Норма за дзень | 3,0 га | 100 |

Такім чынам, не гледзячы на тое, што патрачана на работу 76,7 проц. часу, норма выпрацоўкі за 11,5 гадзінны рабочы дзень выканана толькі на 38,4 проц., і гэта пры 88,2 проц. усяго часу работы

матора. У рэзультаце няправільнага выкарыстання сілавой магутнасці, трактар за адну гадзіну ўзворваў замест 0,3 га толькі 0,13 га. Гэты факт лішні раз сведчыць аб нядбайных адносінах, якія мы летась наглядалі ў выкарыстанні трактара і яго магутнасці.

У практыцы многіх соўгасаў і МТС былі факты недапушчальных адносін да машын, няўменне на іх працаваць, адсюль—псаванне, паломкі і вялікія прастоі (Оршанская, Старадарожская, Лагойская і інш. МТС).

Партыйныя арганізацыі, кіраўніцтва пры падрыхтоўцы і правядзенні сяўбы павінны ў цэнтр работы паставіць асваенне вышынь тэхнікі буйнай соцыялістычнай вытворчасці, палепшанне выкарыстання ўсёй наяўнасці сельскагаспадарчага інвентара.

Правільнае і поўнае выкарыстанне сілавой магутнасці трактара, а таксама сельгасмашын у значнай меры скароціць тэрміны веснавой сяўбы, знізіць напружанасць работ у гэты перыяд.

Паслядоўна соцыялістычныя прадпрыемствы ў сельскай гаспадарцы павінны дасканала аўладаць тэхнікай усяго комплекса сельгасмашын, што забяспечыць вышэйшую прадукцыйнасць працы і высокі ўраджай.

Побач з дрэнным выкарыстаннем трактарнага парка мы маем вялікі перавыдатак гаручага. Так у соўгасе «Вішнёўка» паводле храна-метражных даных перавыдатак гаручага па ворыву раўняецца ад 10 да 25 кгр. на га. Слуцкая МТС перавыдаткоўвае 68 проц. і т. д. З падобнаю з'явай трэба рашуча пакончыць. Гаручае трактарыстам павінна выдавацца пры жорсткім кантролі па норме ў залежнасці не ад часу, а ад зробленай работы. За ўсякі перавыдатак і раскрадванне гаручага—прыцягваць да суровай судовай адказнасці.

* * *

Побач з сельгасмашынамі і інвентаром трэба рыхтаваць да сяўбы і жывую цягавую сілу. Конь—вялікая цягавая сіла ў соцыялістычнай вытворчасці. Аб ім трэба клапаціцца, яго трэба берагчы. У веснавую сяўбу на каня ўскладаецца цяжкая і адказнейшая задача. Недаацэнка каня ў соцыялістычнай вытворчасці шкодна і накіравана на зрыў пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Палітаддзелы і партарганізацыі павінны даць сакрушальны адпор падобнай тэндэнцыі, бязлітасна руйнуючы класавага ворага і яго агентуру, выкрываючы перад масай усю шкоднасць, злачынства і контррэволюцыйнасць недаацэнкі і ігнаравання важнейшай энергетычнай сілы ў земляробстве—каня.

Ад стану конскага пагалоўя, ад яго падрыхтаванасці ў значнай меры і галоўным чынам будзе залежаць поспех веснавой сяўбы.

Нядбайны догляд, абязлічка, драпежніцкае выкарыстанне і дрэннае кармленне каня пагражаюць зрывам плана веснавых работ.

Задача партарганізацый і гаспадарчага кіраўніцтва—адрамантаваць каня к сяўбе так, каб ён мог не толькі выканаць, але і перавыканаць свае нормы нагрузкі.

Не марудзячы хвіліны, трэба разам з ветэрынарнымі работнікамі зараз-жа ўважліва агледзець усё конскае пагалоўе, разбіўшы яго на дзве групы: працаздольных і слабасільных.

Усіх слабасільных коняй—безадкладна аслабаніць ад усякай работы і паставіць на спецыяльную падкормку, каб да вясны поўнасцю аднавіць іх працаздольнасць. Перад пачаткам палявых работ ўсяму конскаму пагалоўю трэба даць адпаведны адпачынак.

Правільны догляд і поўнае аднаўленне працаздольнасці каня ў значнай меры залежыць ад конюха.

Кіраўніцтва соўгасаў і калгасаў павінна ўжо цяпер перагледзець склад конюхаў у гаспадарцы, праверыць іх работу за 1933 год. Не апраўдаўшых сябе на гэтым адказным пасту з работы зняць, замяніўшы праверанымі, добрасумленнымі работнікамі—ударнікамі, актывістамі—комсамольцамі.

За кожным конюхам замацаваць пэўны склад коняй з разліку 10 коняй на аднаго. За кожным канём замацаваць пэўную упраж.

Ліквідуючы абязлічку ў доглядзе за канём, неабходна ліквідаваць яе і на рабоце. Кожная парка коняй павінна мець вызначанага рабочага, які побач з конюхам нясе поўную адказнасць за стан коняй у рабоце на гаспадарцы.

За перыяд веснавой сяўбы ўсё конскае пагалоўе павінна быць поўнасцю забяспечана грубымі і канцэнтраванымі кармамі. Грубыя кармы лепшай якасці павінны быць забраніяваны з разліку 10—12 кілограм на кожнага каня ў дзень і не менш 2—3 цэнт. канцэнтраваных кармоў на ўвесь перыяд веснавых работ.

Бронь кармовых фондаў і ахова іх павінна строга кантраляваццa і правярацца непасрэдна дырэктарамі соўгасаў і начальнікамі палітаддзелаў.

У перыяд веснавых палявых работ абавязкова ўстанавіць штотыднёвы адпачынак для рабочых коняй.

Пры ўстанаўленні норм выпрацоўкі неабходна дыферэнцыявана падыходзіць не толькі да паасобных зямельных участкаў, але і да кожнай групы коняй.

Комуністы, комсамольцы павінны падаць прыклад у справе правільнага догляду за канём, у справе яго лепшага ўтрымання і ўмелага выкарыстання.

* * *

Поспех веснавой сяўбы, тэрміны веснавых работ і прадукцыйнасць працы ў значнай меры залежаць ад таго, наколькі правільна і ўмела спалучаецца работа каня і трактара. Да гэтага часу ў практыцы соўгасаў і МТС гэтай справе не ўдзялялася патрэбная ўвага. Нярэдка былі выпадкі, калі конь выкарыстоўваўся на больш цяжкіх работах, тым часам як трактар выконваў больш лёгкія—транспартныя работы, трактар засылалі на нізкія, топкія месцы, дзе ён буксаваў, прастойваў, ламаўся, паніжаючы тым самым сваю прадукцыйнасць (соўгас «Вішнёўка», Старадарожская МТС і інш.). Іменна ў гэтым пытанні, як нідзе, адчуваецца злая рука класавага ворага, які з усіх сіл імкнецца сарваць правільную работу каня і трактара, знізіць прадукцыйнасць гаспадаркі ў цэлым.

Правільна і найбольш поўна выкарыстаць сілавую магутнасць трактара, ускласці на яго найбольш цяжкія работы ў гаспадарцы (ворыва, дыскаванне, радковая сяўба), а каня перакінуць на лягчэйшыя (баранаванне, заробка) і транспартныя работы—такава задача.

Неабходна ўжо зараз вылучыць для трактарных работ найбольш высокія, хутка падсыхаючыя месцы, размер якіх таксама адпавядаў-бы спосабу апрацоўкі механічнай цягавай сілай. Трэба ліквідаваць абязлічку ў карыстанні трактарнай і конскай цягавай сілай.

«Машынізацыя сельскай гаспадаркі і ўздым яе прадукцыйнасці,— ставяць з усёй вастрасцю пытанне **аб павышэнні якасці работы ва ўсіх галінах, у першую чаргу, якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва»** (з рэзалюцыі XVII з'езда ВКП(б) па дакладу т. Кагановіча).

Каб павысіць якасць работы і практычнае кіраўніцтва, трэба падрыхтаваць адпаведныя кадры.

Мы не можам дабіцца добрай, прадукцыйнай работы машын, брыгады і гаспадаркі, калі не падрыхтуем для гэтай справы людзей, ведаючых машыну, кіраўніцтва і тэхніку ўсяго вытворчага працэса. Адсюль задача—за зімні перыяд трэба будзе ў сябе, у соўгасе, МТС і калгасе, падрыхтаваць і перападрыхтаваць кадры адпаведных спецыялістаў: трактарыстаў, машыністаў, жывёлаводаў, конюхаў, старшых рабочых, брыгадзіраў і ўвесь кадр кіруючых работнікаў.

У аснову падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі людзей масавай кваліфікацыі трэба пакласці рамонтную кампанію і складанне вытворчага плана і рабочых праграм.

Рамантаваць інвентар павінны і тыя работнікі, якія на даных машынах будуць працаваць. Пры рамонце трэба растлумачыць машыністам, што гэта за машына, дзе яна зроблена, яе прадукцыйнасць, як на ёй працаваць, даглядаць за ёю.

Складанне вытворчага плана—школа для ўсяго калектыва, школа агратэхнікі, заатэхнікі, школа кіраўніцтва і выхавання актыва. Прапрацоўваючы вытворчы план на вытворчых нарадах соўгаса, калгаса, МТС і брыгад, трэба вучыць масу, як узорваць, сеяць, даглядаць пасевы. Трэба навучыць рабочы калектыў, як рыхтаваць глебу, як угнойваць яе, якім угнаеннем, што ў рэзультаце атрымліваецца і т. д.

Трэба навучыць рабочых і калгаснікаў, як і пры якіх агразаправілах і што гэта за правілы можна дасягнуць высокіх устойлівых ураджаяў.

Адным з асноўных недахопаў леташняй работы было няўменне кіраўніцтва правільна арганізаваць і расставіць людзей на вытворчасці. Мала таго, рад соўгасаў своечасова не забяспечыў сябе патрэбным калектывам рабочых пэўных спецыяльнасцяй.

Набіраць рабочую сілу, арганізаваць яе на аснове пастаянных брыгад трэба своечасова, задоўга да пачатку веснавых работ. Соўгасы зараз-жа павінны заключыць дагавары з навакольнымі калгасамі на масавую рабочую сілу з такім разлікам, каб у веснавую сяўбу соўгасы маглі-б поўнасцю выканаць план з высокімі якаснымі паказчыкамі і ў максімальна кароткія тэрміны. У гэтым годзе не павінна быць ні аднаго соўгаса, які-б у веснавую сяўбу ўступіў незабяспечаным поўнасцю рабочаю сілай. Совецкія і калгасныя органы ў справе камплектавання соўгасаў рабочай сілай павінны аказаць ім усямернае падтрыманне і дапамогу.

Увесь соўгасны калектыў, уся наяўнасць калгаснікаў павінны быць ужо зараз, у працэсе прапрацоўкі вытворчага плана, разбіты на пастаянныя брыгады, якім даручаецца на працягу ўсяго сельскагаспадарчага года выконваць усе асноўныя работы.

Кожная пастаянная брыгада соўгаса і калгаса павінна ўжо цяпер ведаць склад людзей па ўзросту і кваліфікацыі, замацаваныя за сабой машыны, сельгасінвентар і цягавую сілу, а таксама месца, адведзенае для работы ў веснавой сяўбе.

На аснове прапрацоўкі вытворчага і рабочага планаў неабходна гэтую справу арганізаваць так, каб ужо цяпер кожны рабочы соўгаса і калгаснік ведаў, што і дзе ён будзе рабіць у першы, другі, трэці і астатнія дні сяўбы, колькі за дзень ён павінен зрабіць, якой якасці і колькі за работу атрымае.

Неад'емная частка складання і прапрацоўкі вытворчага і рабочага планаў—нормы выпрацоўкі і расцэнка працы.

Пры ўстанаўленні норм выпрацоўкі трэба да кожнага ўчастка, да кожнай машыны, да кожнай групы коняй падыходзіць дыферэнцыявана. Нормы павінны быць устаноўлены ў залежнасці ад труднасці апрацоўкі глебы на даным участку, у залежнасці ад рэльефа, характару вытворчасці машыны, ад ступені працаздольнасці каня. Толькі такія нормы забяспечаць высокую прадукцыйнасць працы і правільнае выкарыстанне сродкаў вытворчасці соўгасаў, МТС і калгасаў.

Разам з устанаўленнем норм выпрацоўкі неабходна зрабіць і расцэнку. Здзельная аплата працы павінна быць адзінай сістэмай аплаты. Аб ёй з усёй падрабязнасцю павінен ведаць кожны рабочы соўгаса, кожны калгаснік.

У перыяд веснавой сяўбы партыйная арганізацыя павінна ўдзяліць асаблівую ўвагу расстаноўцы людзей у працэсе работы.

Работа ў брыгадах павінна быць арганізавана на прынцыпе дробных камбінаваных звенняў. Практыка мінулых год паказала, што вузка-спецыялізаваныя звенні нясуць з сабою вялікія страты, парушаюць правілы агратэхнікі, апрацоўкі зямлі, разрываючы адзіны працэс работы.

Вось прыклад. У «Прагрэсе» сенаўборка праводзілася спецыялізаванымі звеннямі. Спецыялізаванае звяно касцоў пачало касьбу заліўнога луга. Праз чатыры дні другое звяно сенаўборшчыкаў вышла ўбіраць скошанае сена. Але касцы адышлі далёка ўперад і другому звяну патрабавалася-б 8—10 дзён каб іх нагнаць. Пашлі дажджы, скошаную траву занесла вадой і тванню. Сена пад дажджамі на 30 проц. страціла сваю кашто́ўнасць. Але мала таго. Занесенае тванню сена доўга не прасыхала. Так недасушаным яго і ўбралі. Вось да чаго прывяла няправільная арганізацыя работы па прынцыпу спецыялізаваных звенняў.

Тое-ж наглядаем мы і ў веснавой сяўбе. Вузка-спецыялізаваныя звенні разрываюць адзіны працэс работы: ворыва, баранаванне, сяўба. Гэтым парушаюцца правілы агратэхнікі, адбываецца непатрэбнае, а ў сухое надвор'е шкоднае выветрыванне глебы, а, з другога боку, абязлічваецца ўчастак работы.

Задача партарганізацыі, палітаддзелаў і кіраўніцтва—усю работу пастаянных брыгад праводзіць на прынцыпах камбінаваных дробных звенняў. Камплектаваннем звенняў і іх арганізацыяй трэба заняцца зараз-жа, пры прапрацоўцы планаў і арганізацыі брыгад.

Якім павінна быць звяно і як яно павінна працаваць на веснавой сяўбе, праілюструем на практыцы работы калгаса «БВО» у мінулым годзе. На сяўбе зернавых звяно мела чатыры плугі к трактарам, два камплекты барон «Зіг-Заг» і адну 24-х дыскавую сеялку. Прадукцыйнасць такога звяна за дзень—12 га, якія ўзворваюцца чатырма трактарамі ХТЗ з чатырма трохлямешнымі плугамі. За імі, пры сухім надвор'і, услед ідуць два баранавальшчыкі на конях. На другі дзень пасля баранавання на гэты ўчастак выходзіць 1 трактар з 24-х дыскавай радковай сеялкай. Засеяўшы гэты ўчастак, звяно пераключаецца

на другі і т. д. Вось **схема расстаноўкі людзей у такім камбінаваным звяне:**

| Від работ | Трактароў | Коняй | Прыцэпаў | Прадукц. 1 прыцэпа | Дзённая прэдукцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Ворыва . . . . | 4 | — | 4 | 3 | 12 |
| Баранаванне . . . | — | 4 | 2 камп. | 6 | 12 |
| Сяўба радковая . . . | 1 | — | 1 | 12 | 12 |

Такім чынам, размерам звяна вызначаецца характар работы і дзенная вытворчасць машын. Пры радковым пасеве 12-дыскавай сеялкай размер звяна меншы.

Асобая ўвага павінна быць звернута на ўлік якасці работы. За якасцю работы патрэбен найстражэйшы кантроль як дырэктара, яго намесніка, так і брыгадзіра. Такім чынам, галоўным і асноўным элементам уліку работы кожнага паасобнага рабочага і калгасніка павінен быць улік якасці. Нядобраякаснай работы брыгадзір прымаць не павінен.

На кантроль за якасцю неабходна мабілізаваць усю грамадскаць праз адпаведныя бракавачныя камісіі, гвардыі якасці, штабы соцспаборніцтва, кантрольныя пасты і т. д. Асобай увагі ў справе кантролю за якасцю заслугоўвае комсамольская «лёгкая кавалерыя». Комсамол, паказваючы ўзоры вельмі добрай якасці работы, павінен падцягнуць да ўзроўню «вельмі добра» і ўсю масу калектыва.

У барацьбе за якасць роля профарганізацыі соўгаса велізарна. Профарганізацыя павінна павесці справу так, каб не было ні аднаго члена профсаюза, з нездавальняючымі якаснымі паказчыкамі работы.

У справе правільнай арганізацыі працы і расстаноўкі сіл рашаючае значэнне адыгрывае брыгада. Ад падбору брыгадзіраў залежыць поспех у выкананні вытворчага плана брыгады. Наколькі брыгадзір добра ведае справу і ўмее арганізаваць людзей, настолькі працаздольна і яго брыгада. Адсюль важнейшая задача—падабраць і падрыхтаваць брыгадзірамі праверaных, умеючых працаваць, ведаючых тэхніку вытворчасці, добрых арганізатараў і карыстаючыхся ў калектыве аўтарытэтам калгаснікаў, рабочых. Брыгадзір у гаспадарцы—цэнтральная фігура вытворчасці. Аб ім павінны клапаціцца і ўважліва адносіцца партарганізацыя, палітаддзел, кіраўніцтва соўгаса, праўленне калгаса.

Поспех сёлетняй веснавой сяўбы і ўраджайнасць у значнай меры будуць залежаць ад таго, наколькі своечасова соўгасы і калгасы забяспечаць сябе добраякасным насенным матар'ялам. Праўда, у гэтай справе мы ўжо маем дасягненні, але захаванне насення, кантроль, праверка і ахова яго ў радзе месц арганізаваны з рук вон дрэнна. Мы маем рад фактаў засыпкі насенных фондаў нядобраякасным зярном, у неабсталяваных, неправетрываемых памяшканнях.

Палітаддзелы, партарганізацыі безадкладна павінны праверыць, як утрымліваюцца і захоўваюцца насенныя фонды. Насенны матар'ял павінен быць высокай якасці. Добраякаснае зярно мае больш спажыўных матэрый, так неабходных у першы час росту расліны. Яно дае лепшую ўсхожасць, больш гарантуе ад пустазелля і захворвання. Усё гэта забяспечвае павышэнне ўраджайнасці да 30 проц. Барацьба за

добры насенны матар'ял ёсць барацьба за добраякасны пасеў, за высокі ўраджай.

Палепшыць якасць насеннага матар'ялу можна: а) увядзеннем гатунковых пасеваў, б) сартыроўкай на спецыяльных машынах, в) хімічным пратручваннем (фармалін, медны купарос і т. д.). Для правядзення гэтых мерапрыемстваў соўгасы, МТС і калгасы маюць абсалютна ўсе магчымасці, бо наша сельская гаспадарка даволі забяспечана сартыровачнымі машынамі, хімічнымі сродкамі для пратручвання насення, нарэшце, МТС і калгасы могуць значную плошчу засеяць чыстасортным насеннем. Трэба толькі гэтыя магчымасці заразжа ператварыць у рэчаіснасць, удзяліўшы ім максімум увагі.

Не толькі колькасць і ахова пасеўнага матар'ялу павінна быць праверана, але і яго якасць—усхожасць. Трэба шырока выкарыстаць для гэтага не толькі аграперсанал, але і тых рабочых і калгаснікаў, якія займаюцца зараз ва ўсякіх гуртках па агратэхніцы і арганізацыі гаспадаркі.

* * *

Важнейшы сродак у барацьбе за высокі ўраджай—своечасовая і добраякасная апрацоўка глебы. Якасць-жа апрацоўкі глебы вызначаецца: глыбінёю ворыва, правільнасцю абарота пласта, ворывам без агрэхаў, добрай раздзелкаю камкоў для правільнага абмену спажыўных матэрый у глебе.

Мы маем усе магчымасці добраякасна апрацаваць зямлю. Соўгасы, МТС і калгасы маюць вялікую колькасць трактароў, складаных сельгасмашын і мінеральных угнаенняў. Соўгасы і МТС маюць свой агратэхнічны персанал, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, сярод іх не мала людзей, адданых справе рабочага класа. Мы можам як ніколі поўна і рацыянальна выкарыстаць усе навейшыя дасягненні навукі і тэхнікі, каб атрымаць высокі ўраджай. За ператварэнне ў жыццё гэтых магчымасцяй павінна быць разгорнута большэвіцкая барацьба.

Трэба даць рашучы адпор пануючым у радзе месц контррэвалюцыйным тэорыям дробнага ворыва, бо іх мэта—засмечванне соцыялістычных палёў, знішчэнне спажыўных матэрый, пагоршанне структуры глебы. Ва ўсіх калгасах, соўгасах і МТС ворыва павінна праводзіцца не менш як на 15—18 см. глыбінёю і пераважна корпусным плугам. Механізацыю вытворчасці неабходна спалучыць з правільнай перадавой агратэхнікай.

Класавы вораг усімі мерамі імкнецца сарваць высокія ўраджаі ў соцыялістычнай гаспадарцы, накіроўваючы лёза барацьбы таксама супроць ранніх і звышранніх тэрмінаў сяўбы. Кулак і яго агентура агітуюць за расцягванне тэрмінаў, за познюю сяўбу. Усякая-ж зацяжка сяўбы вядзе да зніжэння ўраджаю, што з усёй відавочнасцю пацверджана вопытам 1933 г. Дзе веснавая сяўба зацягнулася, там нізкі ўраджай, і наадварот—у раёнах ранняй сяўбы ўраджайнасць на 23—30 проц. вышэй. Адсюль задача—у тэтым годзе пасеяць рана і ў максімальна кароткія тэрміны. З нашай энерга і машынаўзброенасцю мы маем усе магчымасці правесці сёлета веснавую сяўбу ў два разы хутчэй і добраякасней.

Важнейшым элементам веснавых работ з'яўляецца пасеў і заворванне. Ад якасці і характару пасеву і заворвання насення ў значнай меры залежыць ураджайнасць. Вопыт паказаў, што лепшы пасеў—радковы. Перавага яго ў тым, што насенне, па-першае, эканоміцца на 25 проц., па-другое, заворваецца роўнамерна, а значыць расліна правільна размяркоўваецца на зямельным масіве. Акрамя таго, рад-

ковы пасеў спрыяе большаму прытоку паветра паміж радкамі раслін і доступу сонечных праменняў, так неабходных для нармальнага развіцця, росту і паспявання пасеваў. Гэта таксама захоўвае расліны ад захворвання.

Побач з гэтым, насенне пры радковым пасеве заворваецца на аднолькавую глыбіню, што дае магчымасць пасевам адначасова паспяваць, чым скарачаюцца страты пры ўборцы ўраджаю.

Усё гэта разам узятае значна павышае ўраджайнасць (да 20 проц.). Соўгасы, МТС і калгасы маюць усе магчымасці правесці веснавую сяўбу ў значнай меры радковым спосабам. Трэба толькі поўнасцю і рацыянальна выкарыстаць машыны, падрыхтаваць адпаведныя кадры для ўмелага, канкрэтнага, аперацыйнага, бальшэвіцкага кіраўніцтва гэтым працэсам работы.

Поспех веснавой сяўбы вырашаюць людзі.

Ад ступені мабілізаванасці масы рабочага калектыва на гэтым адказнейшым участку сельгасработ будуць залежаць рэзультаты.

У барацьбе за паспяховае правядзенне сяўбы патрабуецца добра арганізаваная партыйна-масавая палітычная работа. Трэба захапіць ёю кожнага рабочага соўгаса, кожнага калгасніка, каб ён усім нутром адчуваў, што ў агульным калектыве ён нясе поўную адказнасць за свой участак работы і калі не выканае, значыць будзе прабел у агульным народна-гаспадарчым плане.

Неабходна зараз-жа ва ўсю шырыню разгарнуць работу вытворчых нарад. Яны павінны, з аднаго боку, стаць школай аўладання і асваення тэхнікі буйнай соцыялістычнай вытворчасці, а, з другога,— месцам мабілізацыі мас на бальшэвіцкую барацьбу за паказальнае вырашэнне задач сельскай гаспадаркі.

Вакол складання і прапрацоўкі планаў, вакол тэхнічнай і вытворчай вучобы, вакол усёй падрыхтоўкі да веснавой сяўбы шырока трэба разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Між паасобнымі брыгадамі і звеннямі трэба арганізаваць конкурс на лепшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва павінны ўзняцца яшчэ вышэй—на ўзровень хуткіх тэмпаў, узорнай якасці работы і асваення вышынь тэхнікі буйнай соцыялістычнай вытворчасці. Армія ўдарнікаў, энтузіястаў соцыялістычнай вытворчасці павінна падвоіцца ў час веснавой сяўбы.

Задача партарганізацыі—з максімальнай паўнатою выкарыстаць усе звенні, усе прыводныя рэмні ў барацьбе за паспяховую падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы. У гэтай барацьбе трэба ўсямерна выкарыстаць насценгазету, чырвоную і чорную дошкі, гутаркі ў інтэрнатах, чытку газет, вечары, сходы і т. д. Мабілізаваць добраахвотныя грамадскія арганізацыі—МОПР, Асоавіяхім, Чырвоны крыж, а таксама професіянальныя. Звярнуць асобую ўвагу на работу сярод жанчын: вылучаць іх, выхоўваць, ствараць неабходныя ўмовы для ўдарнай работы і кіравання.

Партмасавая работа павінна быць арганізавана так, каб кожны рабочы і калгаснік ведаў тыя задачы, што стаяць перад ім персанальна, а таксама перад усёй гаспадаркай краіны, каб ён з усёй энергіяй і настойлівасцю змагаўся за правядзенне іх ў жыццё.

* * *

Веснавая сяўба 1934 г. павінна будзе забяспечыць ураджай, значна большы мінулага года. Па кантрольных лічбах СНК СССР, Беларуская рэспубліка павінна мець у сярэднім на 1 га ўраджай па зер-

навых культурах—9,1 цэнт., у тым ліку азімай пшаніцы 11,1 цэнт., ячменю 10,5 цэнт. і азімага жыта 9,4 цэнт.

Ад соўгасаў, МТС, калгасаў, а таксама ад аднаасобнікаў патрабуецца максімальнае напружанне энергіі і сіл у барацьбе за гэтыя паказчыкі.

Перамогі ў веснавой сяўбе партарганізацыя дасягне толькі пры ўмове непрымірымай барацьбы з гультайствам, разгільдзяйствам, распушчанасцю і неарганізаванасцю, у рэзультаце непрымірымай барацьбы з апартунізмам, слабадушнасцю, з тэндэнцыямі паслаблення тэмпаў, з апартуністычным самацёкам..

Перамогі будуць дасягнуты толькі тады, калі партарганізацыі абвесцяць жорсткую, бязлітасную барацьбу імкненню класавага ворага і яго агентуры зацягнуць тэмпы, сарваць якасць і тэрміны пасеўнай кампаніі.

Для ажыццяўлення гэтых задач патрабуецца канкрэтнасць і аператыўнасць, кіраўніцтва не наогул, а з веданнем справы, з веданнем тэхнікі, людзей і асаблівасцяй кожнага працэса. Прычыны адставання ў мінулым годзе соўгасаў, раду МТС і калгасаў былі закладзены іменна ў самім кіраўніцтве. Кіруючыя работнікі павінны зрабіць адсюль патрэбны вывад і справу веснавой сяўбы наладзіць так, каб БССР стала перадавою рэспублікай Совецкага саюза і была дастойна атрымаць ордэн Леніна.

Дрэнны той комуніст, які на сваім участку работы не даб'ецца паказчыкаў, якія даюць гонаровае права на званне чырвонасцяжніка.

Ордэн Леніна большэвікі БССР павінны заваяваць і заваююць.

Рашаючым этапам у барацьбе за ордэн Леніна будзе веснавая сяўба.

---

Брыгневіч

# Па калгасах Жлобіншчыны

(*Запіскі начпалітаддзела*)

## Што мы сустрэлі

Жлобінскі раён часта сядзіць на чорнай дошцы ў час адказнейшых гаспадарча-палітычных кампаній.

Што прывяло Жлобінскі раён на чорную дошку ў час залеташніх нарыхтовак? Прытупленне класавай пільнасці, змычка партkіраўніцтва з класава-варожымі элементамі (жыракоўшчына).

Увесну мінулага года Жлобінскі раён зноў пасадзілі па праву на чорную дошку—не справіліся своечасова з пасеўнай, сям-там далі асечку. У чым была прычына прарыву? Дрэнная падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі, недастатковае кіраўніцтва ходам пасеўнай, ліберальнічанне з кулаком і яго агентурай. Галоўны ўдар кулак накіраваў на знішчэнне конскага пагалоўя. У пачатку сяўбы ў калгасах выбыла са строю да 30 проц. конскага пагалоўя, якое было адноўлена толькі ў час пасеўнай і ўборачнай.

У пасеўкампанію кулак перанёс сваю работу на поле, каб пагоршыць апрацоўку глебы, засеяць у аднавор 3—5 пудоў на га зерневых замест 8—10 пудоў. Кулак і яго агентура разгарнулі шалёную кампанію супроць выканання плана засеву тэхкультур—табаку, гародніны, а таксама аўса. Кулак выкінуў лозунг: «Гэту культуру па працаднях не размяркуеш, яе забярэ дзяржава».

Насення ў цэлым радзе калгасаў не хапіла, хоць на паперы ў МТС і земаддзеле ўсё было добра. Насенне неабходна было знайсці і перакінуць з калгаса ў калгас у самы гарачы час сяўбы.

Насеннай бульбы ў калгасе «Дняпроўскі» аказалася засыпана $1\frac{1}{2}$—2 тыс. пудоў, а на паперы значылася 6100 пуд. Падобная з'ява была ў калгасах «Перамога» і «Чырвоны партызан». Усё гэта падрывала калгасную работу, усё гэта зацягвала пасеўную.

## Ачысціць калгасы ад класава-варожых элементаў

Мы не раз ускрывалі прарывы ў паасобных калгасах і заўсёды аказвалася, што яны былі звязаны з класавым ворагам—кулаком, гультаём, злодзеем, з дрэнным кіраўніцтвам калгаснай вытворчасцю.

У калгасе «Дняпроўскі» мы выкрылі кулацкую групу, якая кіравала калгасам, заціскаючы ўсякую крытыку і самакрытыку. На чале кіраўніцтва калгасам аказаўся тыповы кулак, цвёрдазаданнік, які прыбёў калгас да разбурэння, і якога калгаснікі з ахвотай выключылі з калгаса.

Разабраўшы прычыны масавага падзежа коняй, адсутнасці бярацьбы са стратамі ў калгасе «Шыхаў», мы ўскрылі цэлую кулацкую групу, якая паставіла на чале калгаса свайго «партыйца»—жуліка з партбілетам. Гэта кулацкая зграя з 6 чал. дабілася выключэння з калгаса беднякоў-актывістаў за крытыку.

У калгасе «2-я пяцігодка» мы ўскрылі, што на чале калгаса стаяў злодзей, які два разы судзіўся ў мінулым, адбываў пакаранне і імкнуўся ўкрасці калгасныя грошы. Сабатаж у свінафермах клагасаў «Чырвоная вішня» і «Чырвоны баец», знішчэнне пагалоўя жывёлы пад лозунгам «Маем права рэзаць сваю жывёлу і цялят» у калгасах «Колас», «Перамога», «Маяк», «Чырвоны баец» і рад іншых клясававорожых вылазак таксама паказалі наяўнасць у калгасах кулацкіх тэндэнцый, імкненне затрымаць калгаснае будаўніцтва, сарваць рост абагуленага сектара.

Наколькі моцна кулацкае супраціўленне развіццю аграмаджанага стада ў калгасе «Новае жыццё», Бухарынскага сельсовета, відаць хоць-бы з такога факта:

Калгас мае добры ўраджай. Жыта засеяў 71 га—сабраў ураджаю 10 цэнт. з га; пшаніцы—2 га, аўса 32 га—ураджай 11 цэнт., ячменю 30 га—8,5 цэнт., грэчкі 5 га—7 цэнт., бульбы 60 га—130 цэнт. і т. д. Тым не менш гэты калгас вынес пастанову 1/VII—33 г.:

«Слухалі: інфармацыю т. Шынкевіча (упаўнаважанага райза) аб заключэнні дагавора па жывёлагадоўчай ферме па спушчанаму плану райземаддзела.

Пастанавілі: заключыць дагавор на ферму МТФ, а на СТФ адмовіць. Старшыня Лупсякоў».

Разгледзеўшы прычыны, чаму праўленне калгаса «Новае жыццё» адмаўляецца арганізаваць СТФ, мы ўбачылі, што на чале праўлення стаіць падкулачнік, зяць раскулачанага кулака. Класаваму ворагу тым лягчэй было праводзіць сваю работу, што ў райземаддзеле і МТС сядзелі яго агенты і дапамагалі яму.

## Ачысціць совецкі апарат ад перараджэнцаў і шкоднікаў

Землеўпарадкаванне ў калгасе праводзілася з яўным парушэннем закона аб цвёрдым землекарыстанні калгасаў. Зямля ад калгаснага масіва адразалася пад так званы дзяржаўны фонд пад лозунгам «Умацуем калгасы скарачэннем у іх плошчы пахаці» (былы старшы аграном МТС—Лагун). У калгасе «Чырвоны партызан» адрэзалі 60 га зямлі, у калгасе «XI-годдзе Кастрычніцкай рэволюцыі» адрэзалі 400 га У калгасе «Дняпроўскі» 20 га лепшай гародняй зямлі аддалі аднаасобнікам і калгаснікам пад сядзібы, а ў маі 1933 г. пасля рашэння ЦК ВКП(б) аб прысядзібных участках адводзілі пад іх не мала зямлі.

Гэтыя яўна кулацкія мерапрыемствы земаддзел свядома праводзіў праз земкамісію і прэзідыум РВК. Такую-ж кулацкую палітыку земаддзел праводзіў і ў жывёлагадоўлі. Амаль усім фермам даны былі паніжаныя ад 25 да 40 проц. нормы малака, што спрыяла разбазарванню стада, а не павелічэнню яго прадукцыйнасці. Гэта «палітыка» была выкрыта толькі ў ліпені мінулага года.

Свіное пагалоўе зменшылася на 30—40 проц., а рост буйнай рагатай жывёлы павялічыўся на 0,5 проц.

У земаддзеле не толькі не было ўлікў кулацкіх гаспадарак, а практыкавалася нават аднаўленне кулакоў у калгасах, садзейнасць выхадцам з калгаса ўзяць каня, пасеў і т. д. (Шыхаў). Былы загадчык земаддзела **Шандаровіч** гаварыў звычайна так: «Трэба раз-

біраца, калі гэты выхадзец уступіў у калгас. Калі ён нядаўна ўступіў у калгас і бярэ з сабой пры выхадзе каня, ён робіць правільна. Гэта ашуканства, калі вы яго заманілі ў калгас, узялі каня і не хочаце пры выхадзе яму аддаць...»

Так «кіраваў» земаддзел у асобе Шандаровіча і Шараварава. Усё гэта падрывала працу калгасніка і яго веру ў калгас, затрымлівала рост калгасаў і тэмпы калектывізацыі ў раёне. У выніку раён калектывізован на 34 проц.

## Перабудаваць работу, узмацніць класавую пільнасць

Прычыны адставання заключаліся, такім чынам,у адсутнасці бальшэвіцкай барацьбы з класава-варожымі элементамі—кулаком і яго агентурай. Работа партарганізацый і совецкіх органаў не была перабудавана па-новаму, і ў апаратах, асабліва ў замаддзеле, панавала безадказнасць, верхаглядства, няведанне людзей і абставін работы на месцах. Кіраўніцтва РВК у асобе т. **Тамашэўскага,** не гледзячы на рад сігналаў у друку, не здолела перабудаваць работу сельсоветаў, РВК і своечасова ачысціць РВК ад перараджэнцаў і кулацкай агентуры. Наадварот, калі ва ўсю шырыню паўстала пытанне аб класава-варожай дзейнасці райземаддзела, кіраўніцтва РВК у асобе т. Тамашэўскага яра бараніла яго. Гэта сведчыць аб тым, што РВК зусім не ўдзяляў увагі сельскай гаспадарцы, што кіраўніцтва РВК скацілася на **анты**партыйныя пазіцыі, не змагло правільна правесці лінію партыі на вёсцы.

У час чысткі сельскіх ячэек з партыі выключана за зрастанне з кулацкаю часткай вёскі, за кулацкую работу 8 старшынь сельскіх советаў з 22. Умацаванне вёскі партыйнымі сіламі, у прыватнасці ўмацаванне сельскіх советаў, патрабавала перакідкі раённых работнікаў. У гэты час выявілася, што апарат РВК укамплектован перараджэнцамі і здраднікамі інтарэсаў партыі. На рашэнне РК прызначыць старшынёю сельсовета загадчыка райфінаддзела **Доніна** апошні адказаў літаральна наступнае: «Я не быў яшчэ ў адпачынку, праз 2—3 месяцы вы мяне ўсёроўна выключыце з партыі», і тут-жа аддаў партбілет. Так паступіў загадчык райснаба **Каныгін,** так паступіў і загадчык райжывёлааб'яднання **Мехаў.**

Раённае кіраўніцтва мабілізавала масу на перамаганне і знішчэнне падобных шкодніцкіх дзеянняў, пачало скалачваць актыў, выяўляць лепшых, адданых барацьбітоў, якія гатовы на справе змагацца за інтарэсы партыі, за калгасы, за совецкую ўладу. У гэтай барацьбе выхоўваецца моцны актыў.

## Бліжэй да вытворчасці

Правільная і рацыянальная арганізацыя працы—адзін з асноўных рычагоў гаспадарча-палітычнага ўмацавання калгасаў. Арганізаваць працу, максімальна скарыстаць калгасныя сродкі вытворчасці, як мага глыбей укараніць соцыялістычныя метады працы—баявыя задачы сёння.

Па цэлым радзе калгасаў праца арганізавана не дрэнна. Брыгады і звенні арганізаваны па вытворчаму прынцыпу. Кожны калгаснік загадзя ведае свае нормы выпрацоўкі, ведае вынікі сваёй работы, ведае, што рабіць сёння, заўтра і якімі сродкамі вытворчасці. Выхад на работу вельмі ранні—ледзь золак, абед кароткі, арганізавана грамадскае харчаванне. Калгаснікі навучыліся весці барацьбу за якасць

работы на полі, у гумне, у аборы за павышэнне ўраджайнасці, за рост аграмаджанага сектара. Добра пастаўлена ахова калгаснай маемасці, разгорнута работа вытворчых нарад, укараняюцца соцыялістычныя метады—ударніцтва і спаборніцтва. Такія калгасы ўпера-дзе, своечасова выконваюць планы сяўбы, уборкі і т. д.

Так, калгасы «XII-годдзе Кастрычніцкай рэволюцыі», «Першы Май», «Чырвоны партызан» перавыканалі план сяўбы, план ворыва папару, паказалі добраякасную апрацоўку глебы і прыклады працоўнага энтузіязма ў праполцы, скончылі ўборку ўраджаю і здачу хлеба дзяржаве. Гэтыя поспехі не даліся самацёкам. Бязлітасная барацьба з класавым ворагам, вышыбанне кулака з калгаса, правільнае скарыстанне тэхнікі і навейшых дасягненняў навукі, перабудова партыйнай работы забяспечылі поспех. Перабудова партмасавай работы была рашаючым момантам.

У калгасе «XII-годдзе Кастрычніцкай рэволюцыі» арганізавана невялікая моцная кандыдацкая група. Гэтая група пачала работу з выяўлення і скалачвання вакол сябе калгаснага актыва з лепшых калгаснікаў. Група прапрацавала пастановы студзеньскага пленума ЦК і ў прыватнасці пастановы аб палітаддзелах. Кандыдацкая група занялася падборам брыгадзіраў і звенневых у брыгадах, куды вылучаны лепшыя калгаснікі-ўдарнікі.

Сістэматычныя нарады звенневых, якія праводзіць брыгадзір, брыгадны агітатар, дапамаглі ўмацаваць звяно, зрабіць яго пастаянным і ўстойлівым. Цэлы рад звенняў перавыконвае нормы выпрацоўкі пры палепшанай якасці работы. Звенні **Козыравай** Куліны, **Гапонавай** Ганны, **Козырава** Андрэя заўсёды перавыконваюць нормы выпрацоўкі, даюць работу лепшай якасці.

Перад асенняй сяўбою правялі нараду сеяльшчыкаў, на якой прапрацавалі рашэнні партыі аб асенняй сяўбе, а разам з гэтым канкрэтныя заданні, што рабіць сеяльшчыку. Вынік? Ніводнага радка прасеву. Асабліва ўзорна працаваў на радковай сеялцы **Паўленка** Мікола,—на яго сяўбу нельга надзівіцца.

Кандыдацкая група вялікую ўвагу ўдзяляе конюхам. Выявілася, што конюх Жукаў нядбайна адносіўся да каня. Праўленне зняла яго з работы, аштрафаваўшы на 5 працадзён.

Партыйныя сілы расстаўлены на вытворчасці—у большасці кіраўнікамі звенняў, ні адзін ў канцэлярыі не застаўся.

Праз дзень-два ў брыгадзе праводзіцца вытворчая нарада. Тут ідзе калектыўная чыстка газеты, тут ёсць чорная і чырвоная дошкі. Занесены на чорную дошку абяцае больш не пазніцца на работу. Паміж звеннямі ідзе спаборніцтва. Звяно **Козыравай** Куліны рэгулярна пачынае работу на досвітку; узяло на буксір звяно Гапонавай Фраі, і звяно ў рабоце выправілася. У брыгадах ні адзін прагул не застаецца без пакарання. За час уборачнай у 1-й брыгадзе было 10 прагулаў, у II-й—12.

У час уборачнай арганізавана было грамадскае харчаванне. Вытворчыя нарады, асабліва звенні, падводзяць вынікі дня, даведваюцца аб рабоце, вызначанай на заўтрашні дзень.

Асабліва дапамагла арганізацыя кандыдацкай групы ў калгасе «Першы Май», дзе прагулы ўвашлі ў сістэму. Сяўба скончылася позна, праполачную зусім правалілі, конскае пагалоўе слабое, сельгасмашыны амаль не скарыстаны і т. д. Арганізацыя кандыдацкай групы, умацаванне яе адным членам партыі літаральна перавярнула калгас. За 2—3 месяцы з самых адстаючых у зоне дзейнасці МТС калгас стаў передавым і вядучым. Першым у раёне скончыў уборку

зернавых, першым здаў натурпастаўкі і натурплату. Кандыдацкая група сканцэнтравала ўвагу на павышэнні працдысцыпліны і рэзка павяла барацьбу з разгільдзяйствам і гультаямі, дабілася пагалоўнага ранняга выхаду на работу. Калгас развярнуў будаўніцтва малочнай, сілосных ям, жылых дамоў, клуба.

Ячэйка ў калгасе «Жлобін» не менш рашуча павяла барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае і палітычнае ўмацаванне калгаса. Адразу яе сустрэлі ў штыхі. Пачалася бадай ці не правакацыя, што комуністы зрасліся з класава-чуждым элементам. У кароткі час калгас справіўся са сваімі задачамі, асабліва разгарнулася барацьба са стратамі.

Комуністы занялі рашаючыя ўчасткі ў брыгадзе і праўленні, мабілізавалі масу калгаснікаў на ўборачную, і да 15 кастрычніка калгас скончыў усе гаспадарчыя кампаніі, а да 20/Х пакончыў з гароднінай і бульбай. Такі ясны і станоўчы вынік перабудовы партмасавай работы на вёсцы, перабудовы парт'ячэйкі па вытворчаму прынцыпу.

Вытворчыя ячэйкі, як правіла, сканцэнтравалі сваю ўвагу на брыгадзе. Тут прапрацаваны былі вытворчыя планы ўборкі, норма выпрацоўкі, нават папярэдняе размеркаванне ўраджаю. Калгасніку давездена было, што нявыхад на работу—гэта страта калгасам пэўнай часткі ўраджаю, страта самім калгаснікам некалькіх кіло хлеба, дзесяткаў кіло бульбы.

Брыгады разбіты на звенні па 3—5, рэдка па 6—7 чал. Звенні пераведзены на групавую і індывідуальную здзельшчыну. Тут-жа ў брыгадзе разгортваецца агонь крытыкі і самакрытыкі супроць прагульшчыкаў, гультаёў і сімулянтаў то праз насцендрук, то на вытворчых нарадах. Тут, у брыгадзе, высоўваецца думка аб неабходнасці павышэння прадукцыйнасці працы, ахове соцыялістычнай маемасці, неабходнасці першачарговага выканання абавязацельстваў перад дзяржавай.

Навучыць ячэйку, кандыдацкую групу штодзеннаму кіраўніцтву вытворчым жыццём калгаса—галоўная задача. І там, дзе ўдалося падабраць і паставіць на чале калгасаў добрых комуністаў, рост быў забяспечан. Такія калгасы падыходзяць к канцу гаспадарчага года з добрымі вынікамі. Калгаснікі калгаса «XII-годдзе Кастрычніцкай рэволюцыі» атрымаюць па 3 кгр. зярна, па 10 кгр. бульбы на працадзень. Ураджай ў гэтых калгасах: жыта 9 цэнт. з га, ячменю 10 цэнт., бульбы 100 цэнт. Такіх-жа поспехаў дабіўся і калгас «Чырвоны партызан». Паасобныя калгасныя двары атрымліваюць па 250—280 пуд. зярна. Гэтыя даныя з усёй яснасцю паказваюць, што калгасы, будучы добра арганізаванымі, з'яўляюцца магутнаю эканамічнаю базай соцыялізма на вёсцы і хуткімі тэмпамі паляпшаюць эканамічнае і культурнае становішча калгаснікаў.

Шырокія масы калгаснікаў і аднаасобнікаў пераконваюцца ў перавагах калгаснага ладу, пераконваюцца ў тым, што шлях да заможнага жыцця ляжыць праз калгас. Калектыўная праца забяспечыла велізарны рост арганізаванасці і прадукцыйнаці, эканоміі ў скарыстанні вытворчых сіл.

Гэта першыя нашы поспехі. Трэба з усёй катэгарычнасцю сказаць, што ў значнай колькасці калгасаў арганізацыя працы не на належнай вышыні. Гэтага экзамена мы не вытрымалі, і тут у бліжэйшыя дні і месяцы прадстаіць яшчэ вялікая работа, каб выйсці к пасеўнай моцна ўзброенымі і падрыхтаванымі.

Прыкладам дрэннай арганізацыі працы служаць калгасы «Дняпроўскі», «Войкава», «Чырвоны Кастрычнік», «Серп і молат»

і рад іншых. Маючы дастатковую колькасць людзей і сродкаў вытворчасці, гэтыя калгасы, аднак, не справіліся своечасова з уборкай, асабліва аўса, лёну. Значная частка гэтых культур папала пад праліўны дождж, які прынёс калгасу страты.

У чым прычына адставання? Патуранне кулаку, сабатаж машыны, нераспарадчасць, адсутнасць належнага ўліку здзельшчыны, змена кожны дзень складу звяна, адсутнасць вытворчых нарад, соцыялістычных метадаў працы, рэагавання на прагулы і т. д.

У калгасе імя Войкава—5 членаў партыі, а брыгадзірам працавалі былы жандар, лішэнец, і гэтага ніхто не выкрыў.

Высоўванне на адказную работу сваякоў, братоў, сясцёр, швагроў, бацькоў, а не лепшых ударнікаў мела месца ў буйным калгасе «Шыхаў», кіраўнік якога **Грэбенькоў**, пралезшы ў партыю, арганізаваў вакол сябе групу заможных сваякоў—былых цвёрдазаданнікаў, расставіў іх конюхамі, загадчыкамі абор. У выніку «працы» гэтай зграі—падалі цялята, распрадавалася абагуленая маемасць, вычышчаліся актывісты за самакрытыку, і... «усё было ў парадку». Грэбенькова прышлося аддаць пад суд, выключыць з партыі і зняць з працы, а таксама выключыць з калгаса 6 кулакоў.

Пастанова РК РСІ і палітаддзела аб ліквідацыі сямейственасці і кулацкай групы ў калгасе «Шыхаў» зрабіла моцнае ўражанне і на іншых сямейственікаў.

Старшыні калгасаў «Большэвік» і «Чырвоны сад» прышлі ў палітаддзел з просьбай дапамагчы ачысціцца ад сямейственасці:

«Абраслі сваякамі, ці не пераведзяце нас у другі калгас, а то іншае што зрабіце».

## Абвясціць барацьбу ўраўнілаўцы

Ураўнілаўка і абязлічка ў калгаснай вытворчасці многіх калгасаў—гэты сапраўдны біч працы—усё яшчэ не зышла са сцэны.

Звенні ва многіх калгасах хоць і арганізаваны, але цякучы, непастаянны. Адсутнасць здзельшчыны і праверкі норм выпрацоўкі, праверкі якасці работы цягне за сабою немінуча раўнанне на горшага работніка, а не на ўдарніка, раўнанне на позні выхад на работу, а не на ранні. Няўменне брыгадзіра спланаваць сваю работу на комплекс работ (уборка зернавых, сенакос, малацьба і пастаўкі), няўменне наогул планаваць работу калгаснай брыгады і звяна пагубна адбіваецца на працоўнай дысцыпліне, распыляе сілы брыгады, зніжае інтарэс к самой рабоце.

Некалькі прыкладаў. У другой брыгадзе калгаса «Серп і молат» 2-га жніўня працавала 26 чал.: жалі ячмень і жыта. З 26 чал. 19 работнікам запісана па 1,01 працадня, 4 работнікам—па 0,44 працадня—«жалі ячмень да абеда, а пасля абеда не вышлі на работу», 2 калгасніцам запісана па 0,90 працадня—«спазніліся», 2 запісана па 0,57 працадня—«толькі да абеда жалі».

Што мы тут бачым? Нізкую якасць работы, скажэнне дырэктыў партыі і совецкай улады ў ацэнцы працадня, поўная абязлічка ў працы, кругавая парука. Тут не толькі адсутнасць звенневай работы, тут поўная адсутнасць здзельшчыны, тут простая падзёншчына ў самых горшых яе праявах: позні выхад, доўгі абед, безадказнасць ва ўборцы і захаванні ўраджаю.

Нарад за 7/VIII: «Жанчыны жалі жыта на палосах абагуленых, зжалі 161 с., іх было 21 чал., 14 чал. запісана па 1,66 працадня, 6 запісана па 0,83, бо яны жалі або да абеда, або пасля абеда, адной запісана 0,54— працавала ад абеда».

Па нараду ад 8/VIII: «3 гектара звязалі 1500 снапоў». Праўда, тут не гектары вязалі снапы, а 13 жанчын, але яны выпрацавалі па 1,18 працадня.

Так «працуюць», так «кіруюць», на жаль, у некаторых калгасах да гэтага часу.

Вось чаму барацьба з абязлічкай і ўраўнілаўкай, наладжванне ўліку, падвядзенне вынікаў працадня згодна нормы выпрацоўкі патрабуе ўжо ўвечары свайго афармлення, каб калгаснік ведаў вынік сваёй работы за дзень.

Барацьба з абязлічкай і ўраўнілаўкай, барацьба за здзельшчыну, вытворчы прынцып брыгады пры размеркаванні ўраджаю ляжала і ляжыць у аснове нашай работы па наладжванню працдысцыпліны, павышэнню прадукцыйнасці працы. Брыгада працуе на сваім участку круглы год, яна адказвае таксама і матар'яльна за прабелы ў сваёй рабоце.

Не менш важна ў зімовы перыяд як след наладзіць вучобу брыгадзіра, навучыць яго шанаваць здзельшчыну і ўкараняць яе ў брыгадзе і звяне.

## За разгорнутую самакрытыку і масавую работу

Заціск самакрытыкі, адміністраванне, адсутнасць партмасавай работы вельмі адбіваецца на прадукцыйнасці працы. Не раз бывала старшыні калгасаў выключалі за самакрытыку лепшых актывістаў. Так быў выключан селькор **Цветкоў** з калгаса «Чырвоны баец», **Дзехараў** з «Шыхава». Тым часам разгортванне крытыкі—важнейшы рычаг у нашай рабоце. Калі раней баяліся чысціць кулацкі элемент, гультаёў, не хацелі «псаваць добрых адносін», то зараз у гэтай справе маем пэўны зрух. Вялікую дапамогу аказвае наша газета «Чырвоны трактарыст», якая стала выходзіць рэгулярна і завастрае ўвагу асабліва на пытаннях засмечанасці калгасаў, разгортвання соцспаборніцтва, паспяховага выканання гаспадарча-палітычных задач.

Часам у калгасе—адзін комуніст, ён і старшыня калгаса і сакратар партыйна-комсамольскага ядра. Але такія сакратары звычайна доўга не працуюць. Старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік» пасля таго, як выбралі яго сакратаром калгаснай кандыдацкай групы, доўга не прыступаў к партрабоце, заяўляючы, што не можа справіцца з гэтай нагрузкай. Тое-ж самае ў калгасах «Серп і молат», «Чырвоны баец». Гэта акалічнасць адразу адбілася на працдысцыпліне, якая стала падаць у гэтых калгасах. Праверка і дапамога комуністу ў яго рабоце на вёсцы—баявая задача палітаддзела.

У чым яшчэ слаба работа нашых членаў партыі на вёсцы і беспартыйных кіраўнікоў калгасаў? Слаба ў іх яшчэ партыйная арыентоўка, нехапае, а часам і зусім няма рэволюцыйнай пільнасці. Каб паставіць на належную вышыню партмасавую работу, палітаддзел даў цвёрдую праграму па лініі партсекцыі і комсамольскай. Асноўны стрыжань—прапрацоўка на партсекцыі і ў брыгадах рашэнняў пленума ЦК і ЦКК, мабілізацыя мас на скарачэнне тэрмінаў уборкі і сяўбы, на барацьбу са стратамі, за лепшую арганізацыю і якасць працы праз разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва як сярод саміх работнікаў МТС, так і асабліва сярод калгаснікаў, брыгад і звенняў.

Асобае месца ў Жлобіншчыне займае бульба: другое пасля жыта. І таму разгортванне партмасавай работы па скарачэнню тэрмінаў уборкі бульбы было важнейшай задачай.

У псіхалогіі сучаснага калгасніка, учарайшага аднаасобніка, яшчэ не зніклі рэшткі прыватна-ўласніцкага мінулага—дробна-буржуазная стыхійнасць, анархія, рвацтва. Гэтай спадчынай харчуецца сіла кулацкага супраціўлення ў калгасе; і, каб перамагчы яго, неабходна цвёрдае пролетарскае ўздзеянне на калгасніка, свядомае і прадуманае падпарадкаванне яго інтарэсаў калгасу, а калгаса ў цэлым—інтарэсам дзяржавы.

Соцыялістычныя адносіны калгасніка да грамаджанага сектара выхоўваюцца іменна на арганізаваным правядзенні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній і ўсіх працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці ў калгасе.

## На ўздыме

Актыўная работа камісіі па чыстцы вышыбла з радоў партыі і прымазаўшыхся, і чужакоў, і перараджэнцаў.

Чыстка партыі і масавая работа стварылі вялікі ўздым у партыйным жыцці жлобінскай арганізацыі. Палепшылася дысцыпліна, паднялася адказнасць за даручаны ўчастак работы, новай хваляю прыліла энергія на выкананне гаспадарча-палітычных кампаній.

Жлобінскі раён датэрмінова выканаў гадавы план хлебапаставак, план адгрузкі бульбы Ленінграду, натураплату МТС—к 10/X—33 г.

Большасць калгасаў зрабілі значны крок уперад: своечасова правялі ўборку, асеннюю сяўбу, датэрмінова закончылі зернапастаўкі і натураплату, першымі ў БССР адгрузілі бульбу Ленінграду. Усё гэта сведчыць аб тым, што выканана асноўная ўмова па шляху да большэвіцкага калгаса; рэзка палепшылася арганізаванасць працы, калгасы арганізацыйна-гаспадарча ўмацаваліся.

Ураджайнасць калгасаў па раёне значна вышэй, чым аднаасобных гаспадарак. У большасці калгасаў жыта, ячмень, авёс урадзілі вышэй планавага задання. Нярэдкі выпадкі, калі жыта дае 10 цэнт. з га, ячмень 13—14 цэнт., авёс 11—12 цэнт. Павышэнне ўраджайнасці ў калгасе як калгаснік, так і аднаасобнік тлумачаць ліквідацыяй церазпалосіцы, лепшай апрацоўкаю глебы, ранняй сяўбой і ўкладаннем штучнага ўгнаення нараўне з натуральным. Калгасны лад, як нідзе, даказаў тут сваю перавагу перад індывідуальнай гаспадаркай.

Жлобінскі раён і асабліва МТС маюць усе магчымасці вывесці калгасы ў перадавыя: добры ўраджай, машынізацыя (252 розныя машыны, 22 трактары), наяўнасць масы калгаснікаў, якія жадаюць замацавання калгасаў.

Лозунг тав. Сталіна «зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможнымі» адыграў выключную ролю ў павышэнні прадукцыйнасці працы, арганізацыі людзей у калгасах.

## Нашы бліжэйшыя задачы

Буйная соцыялістычная сельскагаспадарчая вытворчасць высунула не мала добрых арганізатараў—старшынь калгасаў, брыгадзіраў, конюхаў, жывёлаводаў, лепшых адданых ударнікаў. Гэтыя кадры раслі і мацнелі па меры ўмацавання калгасаў. Яны часам кіруюць прадумана і тонка, але часам вобмацкам. Ім часта не хапае рашучасці

бязлітасна змагацца з класавымі ворагамі, з традыцыямі старой вёскі—прыватна-ўласніцкімі перажыткамі калгаснікаў і настроямі супроць перадавой сельскагаспадарчай тэхнікі (трактар, малатарня, культыватар, бульбакапалка, радковая сяўба і т. д.).

Гэтым кадрам не хапае граматнасці і ўмення планаваць работу буйнай соцыялістычнай гаспадаркі. Таму наша першая задача—адначасова з размеркаваннем ураджаю, засыпкай насенных, страхавых і кармовых фондаў, разгарнуць падрыхтоўку да веснавой пасеўнай кампаніі.

У падрыхтоўцы да веснавой кампаніі адно з галоўнейшых месц займае перападрыхтоўка і падрыхтоўка нізавых масавых кадраў—старшынь калгасаў, брыгадзіраў, машынаведаў, конюхаў, рахункаводаў і звенневых.

Трэба навучыць нашы кадры арганізоўваць працу, планаваць і ўлічваць усе моманты буйнай соцыялістычнай гаспадаркі; навучыць брыгадзіра самастойна, правільна скласці вытворчы план сваёй брыгады на год, таксама на кварталы, на вызначаны від работы (сенакашэнне, уборка, праполка, малацьба, сяўба і т. д.), план на пяцідзёнку, умець скласці табель і нарад на дзень; навучыць брыгадзіра скласці баланс рабочай і цягавай сілы па ўсіх відах работ у планах: гадавым, квартальным, на пяцідзёнку і на штодзённыя вытворчыя заданні; навучыць брыгадзіра як правільна падыйсці і скласці хлеба-фуражны баланс сваёй брыгады з адзнакай таго, чаго брыгада павінна дабіцца на працягу вытворчага года; добра ауладаць нормамі выпрацоўкі, умець гібка прымяняць іх, праводзіць разлік і ўлік працадзён, аўладаць запісам працадзён з адзнакай колькасці выпрацоўкі і якасці; умець правільна арганізаваць пастаянныя звенні, расставіць іх пры адной рабоце (касьба, жніво), пры комплексе работ (уборка сена, азімых, яравых, уборка палёў, малацьба, здача прадукцыі дзяржаве і т. д.). Расставіць звенні са ўсёй цягавай сілай, з неабходнымі сродкамі вытворчасці, выходзячы з вытворчага задання брыгады пасеяць і ўбраць ў строга вызначаны тэрмін. Навучыць, як праверыць колькасць працы (грамадская інспекцыя працы) і змагацца са стратамі. Скласці і прапрацаваць вытворчае заданне звяна на аснове звенневай і індывідуальнай здзельшчыны.

Не менш важна брыгадзіру асвоіць: правільны севазварот у брыгадзе, чаму патрэбна ранняя сяўба, высокая якасць апрацоўкі, важнасць скарыстання натуральнага і мінеральнага ўгнаенняў, барацьбу з пустазеллем і шкоднікамі, правільны догляд за культурай. Асвоіць добра ўстаноўку плуга і бараны, работу сеялкі, жняяркі, касілкі, малатарні, сартыроўкі, бульбакапалкі «Комсамолка», зернаачысткі і т. д.

Трэба вывучыць і падагуліць вопыт работы брыгады і звяна. Дабіцца таго, каб ва ўсіх калгасах брыгада стала цэнтрам вытворчай і палітычнай работы сярод мас калгаснікаў. Нам неабходна зараз крута павярнуць увагу партыйнай арганізацыі і кіраўніцтва калгасаў да правільнай арганізацыі працы ў калгасах, навучыць кіраўніцтва планавасці ў рабоце, укараніць здзельшчыну.

Цяцідзенныя заданні калгасаў, штодзеннае заданне брыгадам і звенням моцна ўваходзіць у практыку. Толькі работа над практычнымі пытаннямі сельскагаспадарчай вытворчасці, насычанымі палітычным зместам, дасць вялікі зрух у арганізацыі і палепшанні прадукцыйнасці калгаснай працы. Але мала спыніцца на адным бры-

гадзіру, у гэту работу павінна быць уцягнута ўся калгасная маса. Так павінна быць праведзена зіма ў калгасах, каб ва ўсеўзбраенні падыйсці да веснавой пасеўнай.

Жлобіншчына—раён нізкай ступені калектывізацыі. Апошні год мы значна ўмацавалі калгасы, зараз нам неабходна пайсці разгорнутым фронтам па шляху далейшай калектывізацыі.

У бліжэйшы час праз раённыя, куставыя, сельсовецкія і паселішчныя нарады і сходы сіламі раённага і вясковага партактыва неабходна стварыць агітбрыгады і накіраваць па лініі шэфства ў вёску для разгортвання калектывізацыі. Падабраць з ліку калгаснага аднаасобніцкага актыва агітатараў за новы калгасны прыліў. Папулярызаваць сярод аднаасобнікаў вынікі гаспадарчага года ў калгасах.

Жывёлагадоўля—адзін з самых асноўных напрамкаў у развіцці сельскай гаспадаркі раёна. Тым не менш гэта галіна не стаяла ў цэнтры ўвагі партарганізацыі, ніхто сур'ёзна ёю не займаўся, а кіраўніцтва зацікавілася толькі ў працэсе чысткі—у канцы жніўня.

А недахопаў у жывёлагадоўлі не мала: злучная кампанія не праведзена, улік жывёлы пушчан на самацёк, партыйныя ячэйкі да апошняга часу не займаліся гэтым пытаннем.

Апошні аб'яднаны пленум РК і РКК КП(б)Б намеціў рад мерапрыемстваў па развіццю жывёлагадоўлі ў раёне. Асабліва неабходна правесці праверку кіруючых кадраў жывёлагадоўчых ферм, папрацаваць над іх умацаваннем. Неабходна замацаваць новыя фермы, асабліва свінагадоўчыя, як баявыя ўчасткі па догляду за жывёлай, развіццю і захаванню маладняка.

Забяспечанасць калгасаў сельгасмашынамі, галоўным чынам пасеўнымі і ўборачнымі, нельга прызнаць слабой. Даволі сказаць, што калгасы МТС зжалі летась зернавыя на 70—80 проц. машынамі.

Машынай жняяркай калгаснік аўладаў, але сеялка, бульбакапалка, ільнацерабілка, складаная малатарня, касілка ўсё яшчэ не асвоены. Супроць карыстання гэтымі машынамі вядзецца кулацкая агітацыя, а пры недастатковым аўладанні іх тэхнікай яны часам зусім не скарыстоўваюцца, што адбіваецца на тэмпах і якасці працы, на павышэнні ўраджайнасці ў калгасах. Вось чаму перад намі стаіць задача: адрамантаваць як след нашу тэхнічную базу—трактар, сеялку, плуг, барану і культыватар; падрыхтаваць машынаведа на курсах. Калгаснік павінен добра аўладаць галоўнымі складанымі і поўскладанымі машынамі як пасеўнымі, так і ўборачнымі.

Усё яшчэ вяліка тэхнічная і палітычная няграматнасць трактарыстаў. Былі выпадкі, калі трактарыст цяжкім молатам выроўніваў дрот на махавым коле. Іншы раз трактарысты цэлыя суткі «працавалі» над трактарам, каб знайсці прычыну яго дрэннай работы, а сакрэт быў у тым, што трактар некалькі месяцаў не прачышчаўся. Адсюль задача—перакваліфікаваць трактарных механікаў.

Пры папярэднім размеркаванні ўраджаю наглядаліся дзве тэндэнцыі: лепшыя калгасы пашлі па лініі павелічэння асноўнага капітала, пашырэння і далейшага ўмацавання абагуленага сектара. У такіх калгасах нармальна створаны кармовыя і страхавыя фонды, намечан далейшы рост стада, асабліва цягавай сілы, пабудова свірнаў, набыццё машын.

Другая тэндэнцыя—яўна кулацкая, рвацкая, утрыманская: жыць за лік праядання асноўнага капітала, усё падзяліць, нават не ства-

рыўшы страхавых фондаў, не толькі што-небудзь новае будаваць. Гэта яўна кулацкая лінія атрымала пэўны адпор.

Другая не менш шкодная лінія—гэта не дапусціць выдзялення лепшых брыгад, скрыць горшыя, падраўняць усіх, не дапусціць сваркі. Такая кулацкая ўраўнілаўка таксама павінна атрымаць належны адпор.

Наш раён—бульбяна-гародны, і на гэты ўчастак трэба асабліва прыналегчы. Палепшанне сартоў бульбы, у прыватнасці разгортванне вольтмані, захаванне ў добрым стане насення, падрыхтоўка, завоз гною ўзімку—першачарговая наша задача.

---

**Архіпаў**

# Дзевяць месяцаў работы палітаддзела соўгаса

XVII з'езд ВКП(б) і XV з'езд КП(б)Б супадаюць з гадавінай студзеньскага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б), калі па ініцыятыве тав. **Сталіна** было вырашана стварыць палітаддзелы МТС і соўгасаў, каб «забяспечыць партыйнае вока і кантроль ва ўсіх галінах работы і жыцця МТС і соўгасаў»

У тым-жа рашэнні пленума было запісана, што

> «першачарговай задачай палітаддзелаў соўгасаў з'яўляецца забяспечанне безумоўнага і своечасовага выканання соўгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай і ў асаблівасці рашучая барацьба са спробамі паасобных дырэктароў... проціпаставіць свае вузкія інтарэсы соўгаса агульным інтарэсам дзяржавы, з праявай скрыцця лішкаў прадукцыі замест здачы яе дзяржаве».

Студзеньскі пленум у сваёй пастанове, т. Кагановіч у дакладзе на пленуме, і ў першую чаргу гістарычныя выступленні правадыра партыі т. Сталіна намецілі зусім ясныя і канкрэтныя задачы палітаддзелаў у першы перыяд іх работы. Гэтыя задачы заключаліся перш за ўсё ў неабходнасці скалаціць партыйна-комсамольскі, а затым і беспартыйны актыў з лепшых ударнікаў, якія павінны быць галоўнай, рашаючай сілай у правядзенні ўсіх мерапрыемстваў палітаддзела.

На дзевяцімесячным вопыце работы палітаддзела свінасоўгаса «Кухцічы» Уздзенскага раёна мы хочам паказаць, як выкананы ўказанні партыі аб арганізацыі палітаддзелаў, якіх рэзультатаў дабіўся соўгас.

Першачарговая задача—вызначаная планам здача прадукцыі дзяржаве—выканана поўнасцю і своечасова.

Жыта і пшаніцы соўгас здаў 25 тысяч—адным з першых у сістэме Менскага Свінаводтрэста. Палітаддзелу прышлося сустрэцца з ілюстрацыяй на практыцы прыведзенай вышэй выняткі з рашэння пленума: дырэкцыя соўгаса адстойвала тэорыю стварэння дадатковага рэзерва і супраціўлялася поўнаму выкананню хлебаздачы; потым дырэктар прызнаў і на практыцы выправіў свае памылкі.

Мяса—гэты асноўны від нашай прадукцыі—здавалася ў першым паўгоддзі вельмі дрэнна (план першага паўгоддзя выканан быў толькі на 41 проц.). У другім паўгоддзі запазычанасць была пакрыта поўнасцю, і 15-ці месячны план у 1115 цэнт. быў выканан на 100 проц. Значна быў перавыканан план здачы бекона, у рэзультаце чаго соўгас атрымаў першую прэмію па БССР.

Гадавы план здачы масла—21 цэнт.—выканан таксама поўнасцю.

Добра справіўся соўгас з асноўнымі сельскагаспадарчымі кампаніямі: сяўбой, уборкай, зяблівам, дабіўшыся значнага павышэння ўраджайнасці ў параўнанні з мінулым годам і з навакольнымі калгасамі і соўгасамі. Вось некаторыя лічбы:

Веснавая сяўба закончана 20 мая, пасля чаго была арганізавана дапамога аднаму з суседніх соўгасаў.

Уборка заняла 47 дзён супроць 52 у 1932 г., прычым страты зярна былі мінімальныя.

Значнага скарачэння тэрмінаў удалося дабіцца па малацьбе—18 дзён супроць 28 у 1932 г.

Асеннюю сяўбу скончылі к 20 верасня—на 10 дзён раней 1932 г. План зяблівага ворыва выканалі на 95 проц.

**Ураджай па асноўных культурах наступны** (у цэнт. з аднаго га):

| Культуры | 1932 г. | 1933 г. | Рост у проц. |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . . | 9,3 | 13,05 | 40 |
| Пшаніца . . . . | — | 10 | — |
| Ячмень . . . . . | 8,9 | 10 | 12 |
| Караньплоды . . . | 307 | 400 | 30 |

Аднаўленне стада характарызуецца, з аднаго боку, данымі выхаду парасят—на адзін апарос 8,6 парасят замест 8,2 у 1932 г.—і ўсё яшчэ вялікім працантам адыходу.

За 1933 год адыход маладняка складаў 26,6 проц. супроць 38 проц. у 1932 г.; проц. адыходу па ўсіх групах свінапагалоўя равен 19—менш як у два разы супроць 1932 г.

Значны зрух у захаванні маладняка не дае падстаў лічыць работу соўгаса на гэтым участку здавальняючай. Гэта было-б гнілым самазаспакаеннем. Гаспадарча-палітычныя ўмовы ў 1933 г. і разварот палітаддзелам масавай работы патрабавалі лепшых рэзультатаў.

Мы не маем магчымасці асобна спыняцца як на прычынах вялікіх страт маладняка, якія ў першую чаргу залежаць ад самога соўгаса (антысанітарыя і інш.), так і на праведзеных і намечаных мерапрыемствах, каб пазбегнуць паўтарэння 1933 г. і дабіцца рэзкага зніжэння адыходу.

Парт'ячэйка к моманту прыезда палітаддзельцаў складалася з 13 чал. і мела сакратаром дырэктара соўгаса; палітычны ўплыў ячэйкі сярод беспартыйных быў вельмі слабы, партнагрузку неслі толькі 3 чал.

Палітаддзел стварыў дзве статутныя ячэйкі—на свінаферме і ў паляводным цэху, расставіў наяўныя сілы, забяспечыўшы камуністамі і комсамольцамі ўсе брыгады і рашаючыя ўчасткі. З пяці асноўных брыгадзіраў на свінаферме зараз трое партыйцаў і адзін комсамолец.

Непасрэдна на вытворчасці з 15 членаў ячэйкі працуе 9 чал., пастаянную партнагрузку нясуць 14 чал. Агульнапалітычны ўзровень партыйцаў усё яшчэ вельмі слабы.

Класавы вораг выкарыстоўвае найбольш слабых і адсталых партыйцаў не толькі для скажэння сутнасці паасобных мерапрыемстваў, праводзімых партыяй, але і для шкодніцкіх мэт.

Яркі выпадак мы мелі з выключанай з партыі (ужо пасля чысткі) кандыдаткай у члены партыі **Астравух** Тадорай, якая працавала брыгадзірам на свінаферме. Страціўшы чырвоны сцяг з прычыны пагоршання работы брыгады, Астравух прабавала падсыпаць у страву для парасят той брыгады, якая адваявала ў яе чырвоны сцяг, хлорнай вапны з мэтай атруціць парасят. Гэта быў акт класавата ворага, зроблены рукой яго агента, меўшага кандыдацкую картачку. Пры расследванні справы аказалася, што сын кулака—сезонны плотнік—узяў пад свой уплыў Астравух і праз яе прабаваў нанесці шкоду соўгасу, г. зн. пролетарскай дзяржаве.

Профарганізацыя працавала з рук вон дрэнна, практычнай барацьбы за соцыялістычныя метады працы, уліку ўдарнікаў не было, дагавары не заключаліся, аб пераважным снабжэнні ўдарнікаў ніхто не ведаў.

Палітаддзел перш-на-перш узяўся за арганізацыю соцыялістычных форм працы. У перыяд уборкі мы мелі 54—62 ударніка, зараз 48 чал. Не заўсёды акуратна афармляліся дагавары, але нядрэнна пастаўлена грамадская праверка ўдарнікаў: зацверджанне ці вывад ударніка вырашаецца на вытворчай нарадзе цэха, якая перыядычна правярае работу сваіх ударнікаў.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва паскорылі тэмпы работы, палепшылі якасць, дапамаглі выхаваць людзей, ператварыць з адсталых у перадавых і т. д.

Вось нашы паасобныя ўдарнікі:

1. **Фількевіч, Войцэховіч**—пры касьбе ўручную замест нормы ў 0,35 га, давалі сярэднюю выпрацоўку ў 0,60—0,69 га пры нядрэннай якасці.

2. **Чамара**—з брыгадай у 4—5 чал. за 8 гадз. складваў сцірту ў 800—1100 пудоў пры найлепшай якасці, тым часам брыгада **Януша** з 6—7 чал. за 10 гадзін складвала сцірту ў 500—700 пудоў і горшай якасці ўкладкі.

3. **Лукашэвіч, Коржаль**—старыкі, рамонтныя рабочыя, не пакідаючы сваёй асноўнай работы, уночы выходзілі на малацьбу, возку і іншыя работы: атрымлівалася кругласутачная работа.

4. **Бесман**—конюх у рэзультаце клапатлівага дагляду ператварыў за кароткі тэрмін трох знясіленых коняй-поўінвалідаў у зусім працаздольных, у добрым целе коняй.

5. **Матусевіч**—свінарка, вылучаная ў брыгадзіры, клапатліва, уважліва даглядае за парасятамі. Вучыцца ў школе малаграматных, у тэхгуртку і партшколе.

Падобных прыкладаў не мала.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва з'яўляліся стрыжнем у нашай масавай рабоце. Якія асноўныя формы масавай работы мы ўжывалі? Чытку газет з кароткімі інфармацыямі аб міжнародным і ўнутраным становішчы СССР, улетку—у полі, узімку—у клубе, сталовай. Жывая газета і інсцэніроўкі на мясцовыя тэмы карысталіся вялікім поспехам. Вечары пытанняў і адказаў, выявіўшыя вялікую зацікаўленасць рабочых самымі разнастайнымі пытаннямі. Гэта форма масавай работы пры добрай падрыхтоўцы прыцягвае вялікую колькасць рабочых. Гутаркі брыгадна-групавыя і індывідуальныя па асобных пытаннях. Таварыскі суд над парушальнікамі працоўнай дысцыпліны.

Вялікую ролю адыгрывае нізавы друк, пачынаючы ад брыгаднай насценгазеты і канчаючы агульна-соўгаснай шматтыражкай. У велізарнай меры ўзрасла падпіска на цэнтральныя і рэспубліканскія газеты (да палітаддзела 20—30 экз., зараз 100—110 экз.).

Па ініцыятыве палітаддзела для дзяцей рабочых арганізавана ў соўгасе школа, абслугоўваючая ўсіх дзяцей школьнага ўзросту. Зараз пашыраем школу, арганізоўваем палітэхнічны камітэт.

У сярэдзіне студзеня адкрываецца дзіцячы сад. Зіма павінна быць часам напружанай вучобы—вось з чаго выходзіў палітаддзел. У соўгасе працуе школа лікбеза для малапісьменных; арганізован гурток па вывучэнню заветмінімума. Над аўладаннем тэхнікі працуюць і палітаддзельцы.

Партвучобай ахоплены 12 комуністаў, 10 комсамольцаў і 20 беспартыйных, якія займаюцца ў школах ленінізма, кандыдацкай і комсамольскай.

Заслугоўвае спецыяльнага асвятлення пытанне матар'яльна-бытавога становішча рабочых. Агульныя фонды і магчымасці соўгаса такія-ж, якія былі і да палітаддзела. Аднак, як змянілася рэчаіснасць. Ударнік не толькі на словах, але і на справе з'яўляецца цэнтральнай фігурай соўгаса, яму і снабжэнне пераважнае. Хлеба ўдарнік атрымлівае на 2 кгр. у месяц больш, промтавараў—у паўтара-два разы больш. У сталовай ударнік атрымлівае малако, павялічаную порцыю мяса. Пры размеркаванні жыллёвага фонда ўдарнікам даюцца лепшыя кватэры, бліжэй да цэнтральнай сядзібы і т. д.

Усе рабочыя забяспечаны на зіму гароднінай: кожнаму быў дан індывідуальны гарод, гародніну і бульбу выдае соўгас па ўстаноўленых нормах.

Значна вырасла колькасць рабочых, якія маюць кароў у індывідуальным карыстанні (май 1933 г.—11 ч., студзень 1934 г.—29 ч.). 30 проц. пастаяннага складу рабочых маюць сваіх кароў, прычым гэта лічба расце.

З казарменнага памяшкання з нязручнымі доўгімі сталамі і лаўкамі, з бруднаю кухняй, дзе адначасова гатавалася страва і для сталовай і для... парасят,—зроблена сталовая з чатырохмясцовымі сталамі, пакрытымі клеёнкай, абсталявана кухня і т. д.

Як рэзультат палепшання матар'яльна-бытавога становішча рабочых, амаль зусім спынілася цякучасць, ёсць нават цэлы рад спроб перайсці на работу з суседніх соўгасаў.

Сакрэт сельскагаспадарчых поспехаў соўгаса ў немалой ступені тлумачыцца добрымі ўзаемаадносінамі з навакольнымі калгасамі, аказаўшымі соўгасу вялікую дапамогу людзьмі ў час праполкі і ўборкі асабліва працаёмкіх культур (бульба і інш.). Соўгас у сваю чаргу дапамог калгасу машынамі (жняяркамі, сілосарэзкамі і інш., дапамог у рамонце).

Цяпер узаемныя адносіны наладзіліся, а яшчэ год таму назад яны былі напружанымі, і, трэба сказаць, галоўным чынам па віне соўгаса: выпадкаў аблічвання і розных ашуканстваў было нямала.

У соўгасе праведзена была дзейная падрыхтоўка да з'езда партыі. На свінаферме праведзен конкурс імя 17 з'езда, прычым і па колькасных і па якасных паказчыках можна было бачыць у перыяд конкурса значныя палепшанні.

Разгорнута падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі: заканчваецца засыпка і ачыстка насення, рамонт сельскагаспадарчага інвентара, узмоцнена ідзе вывазка ўгнаення.

Соўгас рапартаваў XV з'езду не толькі аб дасягнутых поспехах, але і даў бальшэвіцкае абяцанне, падмацаванае справамі, аб поўным выкананні і якасным уздыме ўсёй работы па плану 1934 г.—другога года другой пяцігодкі пабудовы соцыялістычнага бяскласавага грамадства.

Ажгірэй

# Аб арганізацыі палітвучобы ў КСМ

Узбраенне марксісцка-ленінскай тэорыяй комсамольскай арганізацыі Беларусі пастаўлена зусім нездавальняюча. Даволі сказаць, што ў мінулым годзе ў радзе раённых арганізацый палітвучоба была сарвана, да такіх раёнаў трэба аднесці Рэчыцкі, Мазырскі, Магілеўскі, Уздзенскі і рад іншых.

Асноўнай задачай марксісцка-ленінскага выхавання комсамола на даным этапе з'яўляецца выхаванне комсамольцаў у духу баявой рэволюцыйнай пільнасці, выхаванне ў іх непрымірымасці да класавага ворага, да апартунізма ўсіх масцей. Каб выкрываць манеўры класавага ворага, трэба «аўладаць рэволюцыйнай пільнасцю, трэба аўладаць здольнасцю сарваць маску з ворага і паказаць калгаснікам яго сапраўдны контррэволюцыйны твар» **(Сталін)**.

Перад комсамолам стаіць задача не толькі выхаваць членаў сваёй арганізацыі, але і ўпарта працаваць пад кіраўніцтвам партыі над перавыхаваннем рабочай і калгаснай моладзі. У нас, у Беларусі, у сувязі з тым, што рад калгасаў не мае нават і парторга, не гаворачы аб парт'ячэйцы, роля комсамола значна ўзрастае ў такіх калгасах.

Павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню радоў комсамола—неабходнейшая ўмова ўмацавання палітычнай боездольнасці саюза. «Калі практычны, арганізацыйны светапогляд комсамольцаў значна пашыраны, то ў галіне тэарэтычных ведаў яны яшчэ сур'ёзна адстаюць. Вось чаму на гэты бок неабходна асабліва налегчы, бо большэвік—гэта не проста радавы баец. Большэвік—гэта актыўны ўдзельнік і кіраўнік мас у барацьбе за соцыялізм. А кіраўнік мас павінен стаяць ідэйна-тэарэтычна вышэй той масы, якою ён кіруе; ён павінен заўсёды бачыць перад сабою рэволюцыйную перспектыву; ён павінен умець ацэньваць паасобныя разрозненыя факты соцыялістычнага працэса, трапіўшыя ў яго поле зроку, з пункту погляду гэтай рэволюцыйнай перспектывы. Ён павінен умець кожны крок сваёй штодзеннай работы ўвязаць з усім ходам рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята, з яго агульна-класавымі, агульна-дзяржаўнымі задачамі і інтарэсамі. Без гэтых асноўных якасцяй немагчыма кіраваць масамі» **(Постышаў)**.

Комсамольская арганізацыя—першы і верны памочнік партыі—павінна падхапляць баявыя лозунгі і па-большэвіцку іх выконваць. Таму перад комсамольскай арганізацыяй задача разумення палітыкі партыі пастаўлена ва ўсю вышыню. Палітычна непісьменны комсамолец баявыя большэвіцкія лозунгі выканаць не здолее. Ён зможа іх выканаць тады, калі ўзброіцца тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна.

Папярэднія вынікі работы комсамольскай арганізацыі ў справе аўладання марксісцка-ленінскай тэорыяй гавораць аб тым, што на гэтым участку работы комсамола—найбольшы прарыў. Чыстка пар-

тыйнай арганізацыі ўскрыла, што даволі значныя групы комсамольцаў на вёсцы—палітычна зусім непісьменныя, не разумеюць самых элементарных пытанняў палітыкі партыі і ўлады.

У гэтым годзе мы павінны з усёй напружанасцю ўзяцца за тое, каб наладзіць марксісцка-ленінскую вучобу ў комсамольскай арганізацыі Беларусі. Гэта задача ўзрастае ў сувязі з рашэннем аргбюро ЦК ВКП(б) і ЦК ВЛКСМ аб рабоце комсамольскай арганізацыі Беларусі. Гэтыя пастановы—баявая праграма дзеянняў на бліжэйшы адрэзак часу.

Ужо пасля пастановы ЦК ВЛКСМ і ЦК ЛКСМБ аб арганізацыі зімовай палітвучобы прашло даволі часу, каб разгарнуць і арганізаваць палітвучобу. Аднак, матар'ялы з месц гавораць аб тым, што значная частка раёнаў як след не ўключыліся ў гэтую справу, да арганізацыі работы ў палітшколах не прыступлена (Менск, Мазыр, Магілеў і інш.).

Часта мы назіраем шмат агульных разважанняў аб значэнні марксісцка-ленінскай вучобы, аб неабходнасці арганізаваць вучобу, а барацьбы за наладжванне вучобы, канкрэтнай дзелавой работы маем мала. Пакуль што толькі гаворым аб вучобе, а не працуем над павышэннем марксісцка-ленінскага ўзроўню.

Асноўныя прычыны такога ганебнага стану разгортвання марксісцка-ленінскай вучобы:

а) недастатковая палітычная прынцыповасць у пастаноўцы палітвучобы ў комсамольскай арганізацыі;

б) недаацэнка палітвучобы паасобнымі РК і ячэйкамі,—уся работа ўскладаецца толькі на культпропаў РК;

в) неканкрэтнасць кіраўніцтва, няведанне не толькі таго, чым дыша і жыве тая ці іншая палітшкола, ячэйка, але няведанне нават прапагандыстаў (Мазыр, Сіроціна, Жыткавічы, Магілеў);

г) адсутнасць належнага кантролю і ўліку пастаноўкі марксісцка-ленінскай вучобы ў ячэйках;

д) адсутнасць штодзеннага аперацыйнага кіраўніцтва і дапамогі нізавым звенням;

е) бясплянавасць у рабоце многіх культпропаў, лішняя мітусня, крыклівасць, а не паглыбленая, штодзенная крапатлівая работа;

ж) амаль поўная адсутнасць або фармальная пастаноўка ў рабоце школ і гурткоў соцыялістычных метадаў — спаборніцтва і ўдарніцтва;

з) адсутнасць пастаяннай вучобы прапагандыстаў;

і) далёка недастатковая барацьба за якасць вучобы.

Мабілізацыя ўвагі ўсёй комсамольскай арганізацыі на ізжыццё гэтых недахопаў і ліквідацыя іх уздыме марксісцка-ленінскую вучобу на вышэйшую ступень.

Неабходнай умовай разгортвання комсамольскай палітсеткі і наладжвання яе работы з'яўляецца папярэдняе правядзенне ячэйкамі і райкомамі правільнага камплектавання палітсеткі. У гэтым годзе пабудова сеткі комсамольскай палітасветы павінна адпавядаць новаму тыпу вясковай комсамольскай арганізацыі—вытворчай калгаснай ячэйцы. Комсамольская палітсетка павінна будавацца таксама выходзячы з вытворчага прынцыпа (цэх, брыгада, калгас). Практыка арганізацыі палітвучобы комсамола па вытворчаму прынцыпу патрабуе шмат гібкасці ад комсамольскіх ячэек на месцах і ад райкомаў. Справа не ў тым, каб арганізаваць фармальна палітвучобу, а ў тым, каб гэта арганізаваная сець нармальна працавала на высокай якаснай аснове.

Гібкасць РК ЛКСМ, культпропаў у арганізацыі вучобы павінна быць праяўлена і ў тым, каб поўнасцю ахапіць ёю комсамольцаў, не абмінаючы і малалікіх ячэек з 1—3 комсамольцаў, якіх у кожным раёне знойдзецца даволі значная колькасць. Безумоўна, школы арганізаваць тут нельга. Неабходна шырока выкарыстаць форму залікавага чытання. Заключаецца яно ў наступным: слухач атрымлівае падручнік і пэўнае заданне, якое прапрацоўвае самастойна. Калі-ж ёсць 2—3 комсамольцы, то заданне распрацоўваецца ў форме гутарак. Пасля таго, як адпаведны раздзел падручніка распрацован, у раённым цэнтры або пэўным кусце склікаюцца 1—2-х дзённыя канферэнцыі ўсіх здаючых залікі для падагульнення прапрацаванага матар'ялу, тут-жа кваліфікаваны прапагандыст дае ўказанні аб далейшай рабоце.

Пры камплектаванні павінен быць улічан таксама ўзровень развіцця кожнага комсамольца. Формы і метады палітвучобы павінны адпавядаць развіццю і індывідуальным асаблівасцям кожнага комсамольца, што, на-жаль, ігнаруецца райкомамі і ячэйкамі. Напрыклад, комсамольскі камітэт Магілеўскай шоўкавай фабрыкі абавязаў усіх комсамольцаў наведваць палітшколу, не лічачыся з палітычнай падрыхтаванасцю кожнага. Адсюль і якасць вучобы нізкая; адсюль незацікаўленасць заняткамі. Такія-ж памылкі былі і ў Осіповіцкім раёне, дзе ў гуртҝі па ленінізму запісалі ўсіх комсамольцаў. Тое-ж і ў іншых раёнах. Выпраўленне на-хаду гэтых памылак—першы абавязак кожнай комсамольскай ячэйкі і райкома.

Вяліка роля насцендруку ў разгортванні і наладжванні палітвучобы. У ячэйкавай насценгазеце з нумара ў нумар павінна асвятляцца пытанне палітвучобы.

Важнейшае звяно ў пастаноўцы комсамольскай палітвучобы, асабліва на вёсцы,—гэта вучоба прапагандыстаў. Тут патрэбна сістэматычнае і штодзеннае кіраўніцтва палітаддзелаў і райкомаў. Асноўная форма кіраўніцтва прапагандыстамі—добра наладжаная работа пропсемінара, мэта якога: падрыхтаваць прапагандыста не толькі тэарэтычна (распрацоўка чарговай тэмы да заняткаў у школе), але і метадычна. Тут абгаварваюцца метады ўвязкі тэарэтычнай прапрацоўкі з практыкай, распрацоўваецца канспект прапагандыста, матар'ял для запісу слухачоў, падбор лічбовых матар'ялаў і т. д. Задача пропсемінара—усебакова падрыхтаваць прапагандыста да чарговых заняткаў у палітшколе, гуртку. Прапагандыстам неабходна таксама абменьвацца вопытам сваёй работы.

Канкрэтнае аперацыйнае кіраўніцтва гэтай важнейшай галіной саюзнай работы—зарука поспехаў. Толькі забяспечыўшы кіраўніцтва ўсёй арганізацыі, а не адных культпропаў, што ўжо мае месца ў многіх раёнах і ячэйках, палітвучобу можна ўзняць на вышэйшую ступень. Ніякімі дэкларацыямі, ніякімі агульнымі рэзалюцыямі нельга дасягнуць поспехаў у комсамольскай палітвучобе. Без штодзеннага канкрэтнага кіраўніцтва і дапамогі сетка палітвучобы будзе кульгаць, якасць будзе нізкай, адстане ад актуальных задач нашага будаўніцтва.

У сувязі з гэтым неабходна паставіць пытанне і аб вучобе комсамольскага актыва. Там, дзе гэта вучоба добра арганізавана, як правіла, параўнаўча здавальняюча праходзіць і вучоба ўсёй комсамольскай арганізацыі раёна. Кантроль, улік работы і дапамога ячэек і райкомаў палітшколам паставіць вучобу на баявыя рэйкі.

Прапаганда марксізма-ленінізма—справа ўсёй комсамольскай арганізацыі, усяго кіраўніцтва. Комсамольская палітвучоба патрабуе штодзеннага кіраўніцтва райкомаў, палітаддзелаў МТС і соўгасаў, якія

павінны ўстанавіць сістэматычны кантроль над якасцю работы школ і гурткоў, персанальную адказнасць прапагандыста. Інфармацыя на бюро ячэек і райкомаў аб рабоце школ, ячэек і прапагандыстаў, праверка выканання вышэй узніме якасць вучобы комсамола і дапаможа ў наладжванні практычнай работы ячэйкі.

У наладжванні марксісцка-ленінскай вучобы вялікае значэнне мае барацьба за якасць работы ўсіх звенняў комсамольскай палітвучобы, барацьба за пастаянны склад слухачоў і дысцыпліну ў школе, за сталае памяшканне і належнае яго абсталяванне (падручнікі, дапаможнікі, плакаты, дыяграмы і інш.).

Шырока разгорнутае соцспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж школамі, слухачамі, так і прапагандыстамі—магутнейшы рычаг у наладжванні ўсёй нашай работы.

Нельга сказаць, што ў беларускай КСМ арганізацыі ўсё дрэнна. Мы маем значныя дасягненні, аб чым падкрэслена ў пастанове ЦК ВЛКСМ. Але побач з імі маем і вялікі прарыў у пытанні ўзбраення комсамольцаў марксісцка-ленінскай тэорыяй. Зусім зразумела, калі мы не паставім як след марксісцка-ленінскае выхаванне ў комсамольскай арганізацыі, калі не звяжам марксісцка-ленінскую вучобу з практычным жыццём, то не здолеем узняць на вышэйшую ступень работу комсамола.

У пастаноўцы марксісцка-ленінскага выхавання комсамола як ніколі ўзрастае роля партыйнага кіраўніцтва. Аднак, факты паказваюць, што далёка не ўсе яшчэ мясцовыя партарганізацыі па-большэвіцку зразумелі гэта.

Некаторыя РК партыі і ячэйкі разумеюць справу партыйнага кіраўніцтва комсамолам так, што даволі правесці адзіны партыйны дзень па комсамолу і гэтым абмежавацца. Пры такім кіраўніцтве і дапамозе партыйнай арганізацыі комсамол не справіцца з пастаўленымі перад ім задачамі.

Бывае і так, што партыйнае кіраўніцтва комсамолам разумеюць як апеку. Партарганізатар аднаго з калгасаў Мазырскага раёна заявіў комсамольскай ячэйцы: «Я—кіраўнік, і вы падпарадкваецеся таму, што я кажу». Ён, вядома, атрымаў па заслугах ад РК. Але гэты прыклад гаворыць аб тым, што ёсць такое парткіраўніцтва, якое не дае ніякай карысці. У Пухавіцкім раёне не мала фактаў, калі зусім няма партпрымацаваных, ці хоць і ёсць, ды не працуюць. Ігнаруюць парткіраўніцтва комсамолам на швейнай фабрыцы ў Магілеве і інш.

З паданага вышэй відаць, што партарганізацыі яшчэ не ўсюды практычна дапамагаюць комсамольскай арганізацыі ва ўсіх галінах саюзнай работы ў адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. Пытанне аб дапамозе РК КП(б)Б аддзелам РК ЛКСМБ трэба, на наш погляд, паставіць так, каб культпропы РК партыі адказвалі па партлініі за стан палітвучобы ў комсамольскай арганізацыі так сама, як і партпрымацаваныя ў комсамольскіх ячэйках. Гэта не значыць, што з кіраўнікоў комсамольскай арганізацыі здымаецца ўсякая адказнасць, наадварот,—яна ў сувязі з гэтым павінна ўзрасці.

Выходзіць так, што многія культпропы РК не ведаюць сапраўднага стану палітвучобы ў комсамольскай арганізацыі. У гутарцы многія культпропы РК партыі заявілі: «У мяне з палітвучобай дрэнна, але ў комсамольскай арганізацыі справа яшчэ горш». А чым культпроп дапамог комсамолу ў разгортванні палітвучобы? Адказу не было. З такімі дзяляцкімі настроямі неабходна раз назаўсёды пакончыць і зрабіць рашучы пералом у справе рэалізацыі рашэнняў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб дапамозе комсамолу.

Комсамол ад партарганізацыі павінен атрымаць дапамогу ў падрыхтоўцы прапагандыстаў, у забяспечанні палітшкол моцнымі, вытрыманымі партыйцамі. Патрэбны не пастановы аб дапамозе, а канкрэтныя справы, жывыя людзі. У Менскім ГК пастанову вынеслі, а людзей не далі. Смалявіцкі райком партыі не пускае на курсы вылучаных райкомам комсамола людзей. Такіх фактаў шмат.

Мы павінны дабіцца таксама дапамогі і падручнікамі, завочнымі дапаможнікамі, грашовымі сродкамі, прадастаўленнем памяшкання і т. д.

Асаблівы кантроль і дапамога партыйнай арганізацыі неабходна ў марксісцка-ленінскай вучобе актыва. Калі мы не будзем мець добра падрыхтаванага, палітычна вытрыманага актыва, то ў здавальняючай меры не зможам развязаць задачу разгортвання работы комсамольскай арганізацыі на вышэйшую ступень.

Уся работа палітшкол і гурткоў павінна быць пабудавана на шырокім разгортванні соцспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж школамі, гурткамі, так і паміж прапагандыстамі на лепшую школу, гурток, лепшага слухача, лепшага прапагандыста. Ход соцспаборніцтва і работа школ павінны шырока асвятляцца ў друку як мясцовым, так і цэнтральным. Усё гэта забяспечыць дасягненне неабходнага ўзроўню марксісцка-ленінскай вучобы комсамольскай арганізацыі ў адпаведнасці з магутным размахам нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Менінгіт коняй

Гэта захворванне коняй назіраецца за мяжой (Германія, ПАЗШ, Францыя і інш.) ужо даўно, а за апошнія гады набыло даволі шырокае распаўсюджванне ў СССР, і ў прыватнасці ў БССР. Барацьба з менінгітам набывае вялікае значэнне, бо ён наносіць агромныя страты гаспадарцы, асабліва пры няправільна пабудаваных мерапрыемствах.

Частка навуковых працаўнікоў і практычных урачоў, падрываючы сістэму барацьбы з менінгітам, як з заразлівай хваробай, стала на шлях шкодніцтва. Іх погляды на менінгіт, як на незаразлівую хваробу, іграючы на руку класаваму ворагу, прыводзілі на практыцы да пашырэння гэтай хваробы, да падрыву эканамічнай моцнасці гаспадарак, дзякуючы адыходу цягавай сілы.

Што мы ведаем пра менінгіт зараз?

Менінгіт—заразлівая хвароба. Выклікаецца яна вельмі малым, нябачным нават у сільныя мікраскопы, мікробам—так званым «фільтруючымся вірусам». Зараза распаўсюджваецца праз корм, вадапой, пыл, хворых коняй, заражаную збрую, а магчыма ёсць яшчэ і нявывучаныя спосабы разносу яе. Заразіўшыся, конь да 40 дзён можа не падаваць прызнакаў хваробы, але, па некаторых даных,—выдзяляе заразу.

Хвароба можа працякаць у розных формах. Больш небяспечна **«скрытая»** (слабая) форма. Пры няўважлівым доглядзе, хворага можна і не заўважыць. Конь лёгка стамляецца на рабоце, робіцца млявым, дрэнна з'ядае авёс, худзее. Гэта форма небяспечна тым, што хворы конь доўгі час можа знаходзіцца між здаровых і разносіць заразу.

**Бурная** форма можа змешвацца з шаленствам: хворыя нястрымна імкнуцца ўперад, ламаюць, кармушкі, конавязі, абрываючыся могуць далёка ўходзіць ад стайні, падаць у ямы (пачуццё болі і зрок у іх губляецца), могуць кусаць іншую жывёлу і сябе. Часта назіраецца рух па крузе, паходка хісткая, падаючы на зямлю, конь перабірае пярэднімі нагамі, як-бы плыве. Такія бурныя прыступы змяняюцца перыядамі ўпадку, калі часцей за ўсё наступае смерць.

Пры ўсіх формах менінгіта назіраецца слабая дзейнасць кішачніка, запоры, жаўтуха абалонак вока, патлівасць, тэмпература часта ніжэй нармальнай. Дрэнны догляд і кармленне, перагрузка, работа без выхадных дзён і іншыя аслабляючыя моманты спрыяюць больш хуткаму захворванню менінгітам, які пры такіх умовах працякае з вялікім адыходам захварэўшых—на 90 проц. (Прапойскі раён: калгас «8 сакавіка» захварэла 17, пала 15; Уваравіцкі раён: калгасы імя Леніна, «Комінтэрн» і інш.).

Адыход ад менінгіта (у сярэднім па БССР каля 63 проц.) залежыць як ад формы (пры бурнай—большы), так і ад мер лячэння і папярэджання. Пытанне аб прышчэпках супроць менінгіта яшчэ не распрацавана. Здавальняючых вынікаў ад іх як за мяжой, так і ў нас пакуль не атрымана.

Лекі пры ўпартым і своечасовым ўжыванні даюць добрыя вынікі. Лепшыя вынікі дае ўвядзенне іх у кроў і падскурна ў пачатку хваробы, а таксама ўжыванне падтрымліваючых дзейнасць сэрца.

У звязку з тым, што менінгіт наносіць вялікія страты пры заносе ў гаспадарку, неабходна ў барацьбе з ім праяўляць асаблівую пільнасць. Усе мерапрыемствы павінны быць рашучымі, хуткімі і выходзіць з разумення таго, што менінгіт—заразлівая хвароба, пры недаглядзе хутка перакідаецца на здаровых коняй і ў суседнія гаспадаркі.

Пры падазроных прызнаках захварэўшага каня неабходна заразжа са збруяй і ўсімі прадметамі догляду ізаляваць у асобнае памяшканне. Месца, дзе стаяў хворы конь, ачысціць і прадэзінфекцыраваць растворам нягашанай ці хлорнай вапны, не дапушчаць на гэта месца коняй, паведаміць органы ўлады і зараз-жа выклікаць ветурача. Калі захворванне менінгітам устаноўлена, ствараецца камісія, якая накладае карантын на гаспадарку (калгас, вёску) з мэтай не дапусціць разносу заразы. Карантын—гэта мерапрыемствы, якія ізалююць гаспадарку, не дапушчаюць распаўсюджвання хваробы праз яднанне коняй, пашу і вадапой з коньмі здаровых пунктаў. Для гэтага закрываюцца ўсе шляхі, якія праходзяць праз паражоны пункт, устанаўляюцца пасты на іх, праводзіцца масавая растлумачальная работа сярод навакольнага насельніцтва і т. д.

Карантын абвяшчаецца пастановай РВК і можа быць зняты не раней 40 дзён з моманту апошняга падзяжу ці выздараўлення, пры гэтым праводзіцца поўная ачыстка і дэзінфекцыя памяшканняў.

Унутры карантынаванай гаспадаркі ўстанаўляецца наступны парадак:

а) усе хворыя коні вылучаюцца ў ізалятар і падлягаюць спецыяльнаму нагляду і лячэнню. Пасля выздараўлення гэтыя коні могуць быць узяты ў работу не раней як праз месяц,

б) падазроныя коні аслабаняюцца на 3 дні ад працы і ставяцца асобна ад здаровых—пад нагляд,

в) усім здаровым і падазроным коням штодня вымяраецца тэмпература,

г) перыядычна праводзіцца дэзінфекцыя стаень, трупы паўшых коняй зарываюцца на жывёламогільніках на глыбіню 2 метраў.

д) добрыя вынікі дае забарона выпасу і перавод ўсіх коняй на стойлавае ўтрыманне. Калі гэтага зрабіць нельга, неабходна дапускаць абмежаваны выпас на сухім участку, на якім не пасвіліся захварэўшыя коні,

е) гной ад хворых і падазроных коняй складваецца ў купы для самаперагарання—тэрмінам на 2 месяцы, пасля чаго вывозіцца на асоба адведзены ўчастак поля,

ж) конюхі, наглядаючыя хворых і падазроных коняй, павінны быць належным чынам праінструктаваны, не дапушчацца да здаровых коняй і т. д.

Толькі пры безумоўным выкананні ўсіх мер карантына, ізаляцыі і лячэння магчыма дабіцца ліквідацыі ўспышкі менінгіта. Часта гэтыя меры зрываюцца, як раённымі арганізацыямі, так і па раду раёнаў—

самым ветперсаналам. Ігнараванне асноў барацьбы з менінгітам спрыяе распаўсюджванню хваробы і высокаму падзежу.

У Камарынскім раёне карантын накладзен не быў: менінгіт ахапіў 34 пункты.

У Прапойскім раёне РВК і РК КП(б)Б ўсё лета не згаджаліся на карантын: пала 34 кані.

У Клімавіцкім раёне менінгіт, пачаўшыся ў 3 сельсоветах, разнесен быў па ўсім раёне. Ігнараванне патрабаванняў ветнагляду дало ў выніку 19 паражоных пунктаў: пала 66 коняй.

Факты недаацэнкі менінгіта як востра заразлівага захворвання вядуць да непатрэбных і шкодных страт конскага пагалоўя, да паслаблення гаспадарчай моцы калгасаў, бо хвароба раскідваецца на ўвесь раён. «Гаспадарнікі», якія, выходзячы толькі з «сёнешніх» інтарэсаў сваёй гаспадаркі, зрываюць патрэбныя для ліквідацыі хваробы меры, ставяць суседнія гаспадаркі і раёны пад пагрозу заносу заразы.

Таму, да канчатковай выпрацоўкі навукаю спецыяльных мер барацьбы, асноўная гарантыя паспяховай ліквідацыі менінгіта ў тым— як будзе забяспечан арганізацыйны бок справы, як райарганізацыі дапамогуць ветперсаналу ў правядзенні сістэмы неабходных мер.

Асобую ўвагу пры папярэджанні менінгіта трэба звярнуць на ўстанаўленне ў кожнай гаспадарцы нармальных умоў кармлення, эксплаатацыі і ўтрымання коняпагалоўя, адказнасці за даручанага каня і ліквідацыю абязлічкі ў доглядзе.

**Бандарчык.**

# Агратэхніка сонечніка на сілос

Неабходнасць пашырэння сілосных пасеваў выклікаецца зараз задачамі развіцця высокапрадукцыйнай сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Сілосны корм павінен стаць неад'емнаю часткай кармовага баланса кожнай жывёлагадоўчай гаспадаркі, неад'емнаю часткай правільна складзенага кармовага рацыёна для прадукцыйнай жывёлы.

## Якія расліны трэба сеяць на сілос у БССР

Найбольш распаўсюджан, як сілосная расліна ў БССР, сонечнік. Пры правільнай культуры сонечнік дае надзвычай высокія ўраджаі сілоснай масы: 400—500 цэнт. з 1 га. Надзейнасць яго культуры ў БССР праверана нашымі сельскагаспадарча-даследчымі станцыямі і шырокай практыкай нашых калгасаў і соўгасаў. Сонечнік добра ўдаецца на ўсякіх глебах—на лёгкіх супяшчаных і пяшчаных, на цяжкіх глiністых і сугліністых, на старапахаці і целіне. Добрыя ўраджаі дае сонечнік і на асушаных тарфяніках. Не родзіць ён толькі на сухіх рыхлых пясках і на вельмі мокрых і кіслых глебах.

Каб мець вялікія ўраджаі сілосных раслін, неабходна дакладна выконваць усе ўстаноўленыя для іх культуры нашымі даследчымі станцыямі агратэхнічныя правілы.

## Апрацоўка глебы

Пад усе сілосныя расліны глебу трэба апрацоўваць як і пад караняплоды. Поле павінна быць абавязкова ўзорана пад зябліва на поўную глыбіню пласта пахаці: 15—18 см. Пажадана пад зяблівае ворыва ўкладаць і гной (350—400 цэнт. на 1 га). Калі да зімы гной не ўкладзен, яго трэба вывезці ўзімку і рана ўвесну заараць.

Зяблівае ворыва вясною барануецца, а незадоўга перад пасевам глеба разрыхляецца пружыннымі культыватарамі, рандалямі або лушчыльнікамі на глыбіню 8—10 см. Вясенняе пераворванне поля неабходна на цяжкіх і вельмі шчыльных глебах, а таксама ў выпадках зімовай ці веснавой укладкі гною.

Калі гною пад сілосныя культуры не хапае, яго можна або цалкам замяніць поўным мінеральным угнаеннем, або ўжываць адначасова: поўнормы гною (175—200 цэнт. на 1 га) і поўнормы мінеральных угнаенняў. Пры поўнай замене гною, мінеральныя ўгнаенні трэба ўносіць у наступнай колькасці на 1 га:

| | |
|---|---|
| 1. Серна-кіслага амонія . . | 1,5—2 *цнт.* |
| 2. Суперфасфата . . . | 3 —3 „ |
| або фосфара і касц. мукі . | 5 —6 „ |
| 3. Сільвініта . . . | 5 —6 „ |
| або попелу . . | 10 —12 „ |

Мінеральныя ўгнаенні ўносяцца ўвесну пад баранаванне зябліва, акрамя фасфарытнай мукі і сільвініта, якія ўносяць лепш увосень пад зяблівае ўзворванне.

Мінеральныя ўгнаенні павышаюць ураджай сілосных аднолькава з гноем: на 50—80 проц. Акрамя ўгнаенняў пад сілосныя трэба абавязкова ўжываць і вапну. У залежнасці ад кіслотнасці глебы трэба ўносіць на 1 га 3—5 тон молатай вапны. Вапнаванне павышае ўраджаі сілосных на 15—25 проц. Акрамя вышэй пералічаных відаў угнаення пад сілосныя расліны вельмі каштоўным з'яўляецца тарфянае. Таксама з поспехам можна ўжываць і зялёнае ўгнаенне.

## Калі сеяць сілосныя расліны

Сонечнік на сілос трэба сеяць як мага раней. Яго ўсходы не баяцца замаразкаў. Найвяклішыя ўраджаі сілоснай масы сонечнік дае пры пасеве ў канцы красавіка—пачатку мая. Яшчэ лепш правесці звышранні пасеў сонечніка.

У 1933 г. на Турскай даследчай станцыі сонечнік даў наступныя ўраджаі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. Пры звышраннім | пасеве | 6/IV—555,7 | *цнт* | на 1 *га* |
| 2. „ раннім вясеннім | „ | 29/IV—540,5 | „ | „ |
| 3. „ сярэднім | „ | 9/V —469,0 | „ | „ |
| 4. „ пры познім | „ | 29/V —443,7 | „ | „ |

Акрамя таго, сонечнік можна сеяць пад зіму. Азімы пасеў дае ўраджаі, аднолькавыя з раннім веснавым.

Сеяць сілосныя трэба шырокарадна: 50—60 см. паміж радкамі. Дасягаецца гэта адпаведнай расстаноўкаю сашнікоў сеялкі. Норма высеву здаровага і ўсхожага насення сонечніка: 20—25 кл. на 1 га. Звышранні пасеў праводзіцца таксама сеялкай яшчэ па мёрзлай зямлі, ці нават па малым снегу. Задзелка робіцца дыскаваннем поля ў адзін след, як толькі прасохне глеба, а насенне яшчэ не прарасло. Нормы высеву сонечніка пры азімым і звышраннім пасеве трэба павялічваць на 20—30 проц.

## Якога догляду патрабуюць пасевы сілосных раслін

Догляд за пасевамі сілосных павінен складацца з наступных мерапрыемстваў:

1. Баранаванне ўсходаў сонечніка папярок радкоў у 2—3 сляды, як толькі з'явіцца першая пара сапраўдных лісточкаў.

2. Пасля з'яўлення другой пары лісточкаў неабходна прарыхліць міжраддзі конным або трактарным палольнікам і правесці першую праполку пустазелля ў радках. Калі ўсходы пасля баранавання засталіся густымі, неабходна адначасова з праполкай правесці прарыўку раслін у радках на 15—20 см.

3. Праз 10—12 дзён пасля першага рыхлення міжраддзяў неабходна правесці рыхленне ў другі раз, а на засмечаных землях і другую праполку пустазелля ў радках.

4. У залежнасці ад умоў надвор'я (частыя дажджы, якія забіваюць глебу і спрыяюць з'яўленню пустазелля) рыхленне міжраддзяў можа быць даведзена да трох разоў.

Догляд за пасевамі сілосных спыняецца, калі расліны развіваюцца настолькі, што пачынаюць змыкацца радкі.

Захаванне ўсіх пералічаных мер догляду за пасевамі сілосных павялічвае іх ураджай у сярэднім на 30—50 проц.

### Калі ўбіраць сонечнік на сілос

Практычна вельмі лёгка бывае прыстасаваць уборку сонечніка да ўборкі вікі. Аднпчасовая ўборка і сумеснае сіласаванне масы сілосных раслін і бабовых траў даюць у рэзультаце багаты бялком і высокай спажыўнай якасці корм. Таму скарыстоўваць гэтую магчымасць павінны ўсе калгасы і соўгасы, адводзячы адпаведныя плошчы пад пасевы бабовых, траў для сіласавання іх ураджаю ў змесі з сонечнікам.

### Спосабы ўборкі сілосных раслін

Уборка сілосных праводзіцца жняяркамі, снопавязалкамі, касаркамі, а на невялікіх плошчах нават уручную—косамі. Усе пералічаныя спосабы ўборкі, акрамя ўборкі камбайнам і снопавязалкай, патрабуюць вялікіх затрат рабочай сілы на падбіранне пакошанай масы. Таму для буйных гаспадарак яны малапрыгодны. Пры карыстанні простымі ўборачнымі машынамі трэба асаблівую ўвагу звяртаць на падборку і звозку сілоснай масы, каб не забруджваць яе зямлёю, чыста падбіраць у полі, акуратна накладваць на вазы, не губляць ураджаю па дарозе. Няўважлівыя адносіны да арганізацыі ўборачных работ—асноўная прычына вялікіх страт ураджаю сілосных.

### Сіласаваць трэба ў момант уборкі

Пакошаную сілосную масу нельга пакідаць доўгі час у полі, або трымаць яе па некалькі дзён у кучах каля сілоснай пабудовы. Загружаць масу ў сілос трэба абавязкова ў дзень уборкі, інакш у полі яна высахне, а ў купах згарыць, што прывядзе да вялікай страты спажыўных матэрый і знізіць якасць сілоснага корму.

Выкананне ўсіх адзначаных зусім простых агратэхнічных правіл даступна кожнаму калгасу і соўгасу і забяспечыць вялікія ўраджаі без страт у скарыстанні сілосных раслін.

**Забела.**

# Рэзалюцыя XV з'езда КП(б)Б па справаздачнаму дакладу тав. Гікало аб рабоце ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы справаздачны даклад ЦК КП(б)Б, з'езд прызнае палітычную лінію ЦК КП(б)Б правільнай і практычную работу— здавальняючай.

Разам з тым з'езд падкрэслівае, што за справаздачны перыяд— з XIV па XV з'езд—КП(б)Б і яе кіраўніцтва—ЦК маюць рад буйнейшых памылак і прарываў у рабоце як адзначаных у свой час ў рашэннях ЦК ВКП(б) і ЦО «Правда» (загатоўкі 1932 г., становішча кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, справа настаўніка Сцяпуры), так і ўскрытых у працэсе работы на месцы (справа Наркамасветы, дрэнная работа лёгкай і цяжкай прамысловасці, прарывы ў рабоце сампрамкааперацыі і т. д.).

З'езд са здавальненнем адзначае правільную і своечасовую дапамогу з боку ЦК ВКП(б)—КП(б)Б у выпраўленні дапушчаных памылак. У асаблівасці з'езд адзначае выключна правільную бальшэвіцкую ацэнку ЦК ВКП(б) усіх гэтых памылак і недачотаў у рабоце КП(б)Б. ЦК ВКП(б) зусім правільна канстатаваў, што ў КП(б)Б ёсць:

1) «гніла-ліберальныя адносіны з боку партыйных і совецкіх арганізацый да справы дзяржаўных загатовак, недастатковае ўзмацненне барацьбы са славесна-дэкларацыйнымі адносінамі комуністаў да правядзення генеральнай лініі партыі і недастатковае ўзмацненне барацьбы з гніла-перараджэнцкімі элементамі ў партыі, усцяж ды побач прыкрываючымі сваю антысовецкую работу фальшыва-нацыянальным флагам».

Адзначаючы рашучае выпраўленне дапушчаных памылак пад кіраўніцтвам свайго ЦК, з'езд падкрэслівае, што даная ацэнка работы КП(б)Б у справе выканання абавязацельстваў перад дзяржавай і ў асаблівасці работы на сяле, а таксама ў справе правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі—мае актуальнае палітычнае і практычнае значэнне і для сучаснага моманту. Асабліва трэба мець на ўвазе, што ў КП(б)Б і да сёнешняга дня ўсё яшчэ ёсць паасобныя факты, якія сведчаць аб апартуністычных, гніла-ліберальных самацёчных адносінах да выканання абавязацельстваў перад дзяржавай, забвенне таго, што на гэтым важнейшым участку нашай работы ва ўмовах прыгранічнасці Беларусі класавая барацьба будзе абвастрацца.

КП(б)Б павінна ўсямерна ўзмацніць бальшэвіцкую барацьбу з апартуністычнымі, гніла-ліберальнымі, перараджэнцкімі элементамі, дабіўшыся высокай бальшэвіцкай якасці работы ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

2) «Беларускія партыйныя і савецкія арганізацыі не вядуць бальшэвіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізма і ў радзе выпадкаў патураюць кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям».

За перыяд ад XIV да XV з'езда, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК ВКП(б), на чале з тав. Сталіным, на аснове паслядоўнага правядзення генеральнай лініі ВКП(б), у непрымірымай барацьбе супроць класавага ворага (кулацтва, нацдэмаў, вялікадзяржаўнай і іншай контррэвалюцыі) і яго агентуры ў партыі (праваапартуністычныя, нацыяналістычныя і іншыя элементы), у барацьбе супроць контррэвалюцыйнага трацкізма пры брацкай дапамозе з боку ўсяго Савецкага саюза,—КП(б)Б дабілася агромных перамог на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва, у рэзультаце чаго БССР ператварылася к сваёй 15-й гадавіне ў індустрыяльна-аграрную краіну.

Магутнае развіццё прамысловасці, якая перавысіла тэмпы росту прамысловасці Саюза (у рэзультаце выканання першай пяцігодкі прамысловая прадукцыя БССР вырасла на 418,8 проц. супроць 219 проц. росту прамысловасці Саюза), будаўніцтва новых фабрык і заводаў, карэнная рэканструкцыя старых, па сутнасці саматужных прадпрыемстваў, развіццё новых галін прамысловасці, якія базіруюцца ў асноўным на мясцовай сыравіне, павялічылі ў параўнанні з даваенным перыядам у 10 раз размеры прамысловай прадукцыі нашых фабрык і заводаў, уносячы значныя якасныя зрухі ў характар і структуру прамысловасці БССР.

Гэта адначасова азначала грамадны рост пролетарыята Беларусі за кошт уцягнення ў вытворчасць новых дзесяткаў тысяч рабочых з беларускай вёскі і саматужнікаў. Умацавалася кіруючая роля рабочага класа ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Індустрыялізацыя СССР і яго састаўной часткі БССР стварыла аснову для соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Перамога калгаснага ладу, шырокае развіццё МТС і соўгасаў і ліквідацыя кулацкай кабалы азначала карэнную рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы Беларусі, выразіўшуюся ў рашучым павароце соцень—тысяч дробных, распыленых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак са сталыпінскай хутарызацыяй, з лютым прыгнечаннем і цемрай у мінулым, на шырокі шлях калектывізацыі, на шлях соцыялістычнай перабудовы вёскі.

На базе поспехаў калектывізацыі ліквідавана ў асноўным кулацтва як клас і выкарчоўваюцца апошнія астаткі капіталістычных элементаў у вёсцы. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, ажыццяўляючы гістарычную пастанову ЦК ВКП(б) аб палітаддзелах і перабудове партработы, лозунг т. Сталіна—«зрабіць усе калгасы бальшэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі»—стаў магутнай зброяй барацьбы самых шырокіх калгасных мас за соцыялістычную гаспадарку і знаходзіць сваё бліскучае ажыццяўленне на практыцы.

Бальшэвіцкія тэмпы індустрыялізацыі, соўгаснага і калгаснага будаўніцтва, ажыццяўляемыя КП(б)Б у бязлітаснай барацьбе з класавым ворагам і яго апартуністычнай агентурай,

стварылі трывалую базу для нябачанага яшчэ ў гісторыі быўшых прыгнечаных народаў росту беларускай савецкай культуры, для пераводу дзяржаўнага апарата на родную мову насельніцтва, для ўмацавання беларускай савецкай дзяржаўнасці. Створана сетка беларускіх, яўрэйскіх і іншых школ, якімі ахоплена 96 проц. дзяцей школьнага ўзросту, поўнасцю ліквідавана непісьменнасць, разгорнута на беларускай мове і мовах нацменшасцей шырокая сетка ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў, школ ФЗВ, якія ахватваюць звыш 50 тыс. вучняў, з якіх звыш 80 проц. дзеці рабочых і сялян. Дасягнута нябачанае развіццё беларускага друку, навукі, літаратуры, мастацтва, радыё, выраслі кадры савецкай інтэлігенцыі і навуковых работнікаў з асяроддзя рабочых і сялян, створана вялікая сетка навукова-даследчых інстытутаў на чале з БелАН, займаючых віднае месца ў агульнакультурным будаўніцтве. Навука перастала быць здабыткам «выбраных» і ўсё больш становіцца здабыткам шырокіх мас рабочых і калгаснікаў, з якіх ужо вылучыліся рад маладых вучоных, пісьменнікаў і т. д.

Гэты рост прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры Беларусі—у мінулым адсталай каланіяльнай акраіны царызма—стаў магчымым дзякуючы пастаяннай сістэматычнай дапамозе з боку Савецкага саюза на аснове правільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Лозунгам для ўсёй КП(б)Б павінен быць—зрабіць БССР перадавой, узорнай рэспублікай у Савецкім саюзе,—пераносячы практычны вопыт работы перадавых большэвіцкіх арганізацый (Масква, Ленінград і інш.) у КП(б)Б.

XV з'езд КП(б)Б цалкам і поўнасцю адабрае тэзісы ЦК ВКП(б) к XVII партз'езду па пытаннях другой пяцігодкі і арганізацыйнай перабудовы партыйнага і савецкага будаўніцтва, асоба падкрэсліваючы, што задачы, пастаўленыя ў гэтых тэзісах, з выключнай сілай адлюстроўваюць правільную палітычную лінію і практычную работу нашага ленінскага ЦК ВКП(б) на чале з т. Сталіным, прывёўшым краіну будуючагася соцыялізма к XVII большэвіцкаму з'езду з сусветна-гістарычнымі перамогамі.

З'езд ставіць перад усёй КП(б)Б наступныя асноўныя задачы ў яе далейшай рабоце.

## У галіне прамысловасці

З'езд адзначае, што ў рабоце прамысловасці БССР ёсць рад буйнейшых недахопаў. Промфінплан па ўсёй прамысловасці БССР выканан за 1933 г. на 80 проц., прычым найбольш значна недавыканан план па прамысловасці лёгкай, тарфяной, будматэр'ялаў, папяровай і промкааперацыі.

Асабліва адстае прамысловасць БССР па якасці прадукцыі, па прадукцыйнасці працы і зніжэнню сабекошту.

З'езд даручае ЦК КП(б)Б пры зацверджанні плана другой пяцігодкі і народна-гаспадарчага плана на 1934 г. забяспечыць рашучы рост здабычы торфу ўжо ў 1934 г. і асабліва ўзмацніць механізацыю і якасць торфаздабычы.

З'езд абавязвае ЦК і Соўнарком звярнуць асобую ўвагу на будаўніцтва Менскай і Віцебскай ЦЭЦ другой чаргі, Белдрэса,

Гомельскай РЭС і т. д. Разам з тым шырэй павінна быць скарыстана водная энергія для будаўніцтва гідрастанцый мясцовага значэння. З'езд абавязвае ўсе гаспадарчыя, савецкія і партыйныя арганізацыі разгарнуць большэвіцкую барацьбу за эканомію паліва і электраэнергіі, за якасць паліва, за правільнае яго захоўванне, паставіўшы задачай «сцерагчы паліва як хлеб» Цалкам адабраючы агромную будаўнічую праграму другой пяцігодкі, паданую ў зацверджаных Палітбюро ЦК ВКП(б) тэзісах тт. Молатава і Куйбышава, а таксама праграму росту ў два разы сельскагаспадарчай прадукцыі, з'езд асоба адзначае агромныя маштабы намечанага павышэння матар'яльнага і культурнага ўзроўню жыцця рабочых і сялян Совецкага саюза. З'езд падкрэслівае выключнае значэнне намечанага ў тэзісах павелічэння вытворчасці прадметаў шырокага спажывання і ўсямернага разгортвання тавараабароту паміж горадам і вёскай і абавязвае ЦК КП(б)Б дабіцца рашаючых зрухаў у гэтай галіне.

З'езд падкрэслівае агромную адказнасць усёй КП(б)Б у справе рашучага палепшання работы лёгкай і харчовай прамысловасці і прамысловай кааперацыі, асабліва ў сувязі з пастаўленай тав. Сталіным задачай падвоіць-патроіць вытворчасць тавараў шырокага спажывання ў другой пяцігодцы.

Харчовая прамысловасць БССР павінна ў бліжэйшыя два гады поўнасцю асвоіць сваю магутнасць, павысіць якасць прадукцыі і рашуча падцягнуць адстаючыя галіны (плодагародняя, малочная, птушная, рыбная) і павялічыць аб'ём вытворчасці ў другой пяцігодцы ў 3 разы ў параўнанні з 1932 г. З'езд прапануе ЦК і мясцовым партарганізацыям рашуча ўмацаваць сістэму промкааперацыі моцнымі праверанымі большэвіцкімі кадрамі.

Велізарнейшыя задачы, якія стаяць перад прамысловасцю БССР па далейшаму разгортванню вытворчасці і капітальнага будаўніцтва, па павышэнню прадукцыйнасці працы і зніжэнню сабекошту, па выкананню грандыёзных задач другой пяцігодкі,—патрабуюць забеспячэння апаратыўнасці і канкрэтнасці штодзеннага гаспадарчага кіраўніцтва вытворчасцю, правільнай арганізацыі працы, правільнай сістэмы заработнай платы, заахвочваючай рост прадукцыйнасці працы, падняцця вытворчай дысцыпліны, узмацнення рэволюцыйнай пільнасці. Шырэй і глыбей павінна быць разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва, асабліва па лініі лепшага асваення новай тэхнікі і новых вытворчасцей, што з'яўляецца асноўнай і рашаючай задачай у рабоце прамысловасці.

З'езд лічыць нецярпімым адставанне геолага-даследчай, разведывальнай і наогул навукова-даследчай работы ў прамысловасці БССР і даручае ЦК КП(б)Б, умацаваўшы апарат навукова-даследчых устаноў прамысловасці, забяспечыць значны разварот гэтай работы.

## Транспарт

Мясцовыя партарганізацыі, палітаддзелы на транспарце і гаспадарчыя арганізацыі ўсё яшчэ не дабіліся поўнай перабудовы работы транспарта ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК і СНК.

Задачы, пастаўленыя ў другой пяцігодцы, накладваюць асобе вялікую адказнасць на комуністаў, працуючых на транспарце. Комуністы транспарта абавязаны з яшчэ большай энергіяй і непрымірымасцю змагацца за рэалізацыю рашэння ЦК і СНК аб транспарце шляхам разгортвання жорсткай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі канкрэтных віноўнікаў дрэннай работы, рашучага выгнання з транспарта класава чуждых элементаў, лодыраў і разгільдзяяў, якія прабраліся на транспарт з мэтай дэзарганізацыі яго работы.

З'езд абавязвае ўсе тэрытарыяльныя партыйныя, прафесіянальныя і совецкія арганізацыі Беларусі аказаць практычную дапамогу палітаддзелам транспарта ў справе перабудовы яго работы, на справе дапамагчы кадрамі, дабіваючыся павелічэння партыйнай праслойкі, асабліва сярод змазчыкаў, стрэлачнікаў, пуцявых вартаўнікоў і т. д., звярнуўшы сугубую ўвагу на палепшанне культурна-бытавых умоў іх работы.

З'езд звяртае ўвагу на неабходнасць самага рашучага і карэннага палепшання работы воднага транспарта, які ва ўмовах Беларусі набывае буйнейшае гаспадарчае значэнне. Пытанні работы транспарта павінны стаць вузлавымі і штодзеннымі пытаннямі работы ўсіх тэрытарыяльных партыйных, гаспадарчых, совецкіх і грамадскіх арганізацый Беларусі.

## Сельская гаспадарка

Адзначаючы, што ў рэзультаце выпраўлення допушчаных памылак у кіраўніцтве сельскай гаспадаркай, на аснове выканання ўказанняў ЦК ВКП(б) (рашэнне аб загатоўках у 1932 г.) і ўказанняў правадыра партыі тав. Сталіна, КП(б)Б у 1933 г. дабілася некаторых поспехаў у кіраўніцтве соўгасным і калгасным будаўніцтвам, у больш паспяховым выкананні веснавой сяўбы, сельгасзагатовак, у арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў, у павышэнні ўраджайнасці.

XV з'езд КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі, палітаддзелы МТС і соўгасаў дабіцца ў найкарацейшы тэрмін поўнай ліквідацыі з боку Наркамзема, Наркамсоўгасаў і іх трэстаў і арганізацый на месцах канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва калгасамі, МТС і соўгасамі.

У якасці цэнтральнай задачы павінна стаяць барацьба за высокі ўраджай соўгасных і калгасных палёў, далейшае неаслабнае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў і на гэтай аснове дабіцца завяршэння калектывізацыі ў другой пяцігодцы і тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

У ліку першачарговых задач павінна быць пастаўлена:

а) карэннае палепшанне калгаснага планавання з улікам асаблівасцей кожнага калгаса, рашучая барацьба з механічным размяшчэннем дзяржаўных заданняў паміж калгасамі;

б) умацаванне кіруючай ролі МТС і дагавору, заключаемага паміж МТС і калгасамі, які павінен ахватваць асноўныя пытанні калгаснай вытворчасці (нормы выпрацоўкі, прадукцыйнасць машын, прадукцыйнасць жывёлы, фонд працадзён і інш.);

в) рашучае павышэнне прадукцыйнасці працы калгаснікаў, брыгад, павышэнне прадукцыйнасці машын, павышэнне пра-

дукцыйнасці жывёлы, скарачэнне адміністрацыйна-гаспадарчых расходаў;

г) устанаўленне правільных севаабаротаў;

д) рашучая барацьба за справу ўзнаўлення, захавання і правільнага пашырэння сартовага і палепшанага насення;

е) ліквідацыя адставання тэхнічных культур (лён, каноплі), ураджайнасць якіх у 1933 г. недапушчальна нізкая. Стварэнне трывалай сыравіннай базы соцыялістычнай індустрыі патрабуе тэрміновага падцягвання гэтага важнейшага ўчастку сельскай гаспадаркі;

ж) ліквідацыя адставання ў справе ўраджайнасці бульбы.

Усё гэта можа быць дасягнута шляхам павышэння класавай пільнасці, ліквідацыі астаткаў шкодніцтва, прышчэпаўшчыны ва ўсіх звеннях зямельнага і савецкага апарата, выкарчоўвання элементаў саноўна-панскіх метадаў работы, шляхам рашучай барацьбы з лодырамі, раскрадвальнікамі калгаснай маемасці, з індывідуалістычнымі тэндэнцыямі ў калгасах і ўсімі тымі, хто зрывае справу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і палепшання матар'яльна-бытавога становішча калгаснікаў.

З'езд адзначае зусім нездавальняючае становішча і работу соўгасаў як саюзных (свінагадоўчых), так і рэспубліканскіх (малочна-жывёлагадоўчых і інш.).

З'езд патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый, кожнага члена партыі па-большэвіцку працаваць над пытаннямі жывёлагадоўлі, далейшага павелічэння пагалоўя, павышэння якасці жывёлы, яе прадукцыйнасці, таварнасці, на аснове лепшага догляду і ўтрымання, стварэння трывалай кармовай базы, правільнага кармлення, барацьбы з ялавасцю, падзяжом і адыходам маладняка, развіцця племяннной жывёлагадоўлі, укаранення соцыялістычных метадаў працы ў жывёлагадоўлі.

З'езд патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый максімальнай увагі і дапамогі жывёлагадоўчым соўгасам, асабліва ў частцы палепшання племяннога складу і павышэння прадукцыйнасці жывёлы з тым, каб узмацніць іх вядучую ролю ў справе вырашэння жывёлагадоўлі ў цэлым.

З'езд указвае ўсім партыйным і совецкім арганізацыям, работнікам соўгасаў, палітаддзелам соўгасаў, што задача далейшага ўздыму соўгаснага будаўніцтва патрабуе велізарнага напружання сіл не толькі непасрэдна кіраўнікоў і работнікаў соўгасаў, але і ўсямернага садзейнічання ім з боку партыйных і совецкіх арганізацый у справе ліквідацыі недахопаў у соўгаснай гаспадарцы і замацавання соўгасаў на пазіцыі перадавой буйнейшай вытворчасці.

Адзначаючы выключнае значэнне ў справе стварэння і ўмацавання кіруючых кваліфікаваных кадраў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі і недастатковае правядзенне органамі Наркамзема і Наркамсоўгасаў мерапрыемстваў па палепшанню падрыхтоўкі кадраў у спецыяльных сельскагаспадарчых ВНУ і асабліва тэхнікумах, з'езд патрабуе ліквідацыі адставання ў падрыхтоўцы спецыялістаў і масавай перападрыхтоўкі выпушчаных раней кадраў, палепшання якасці падрыхтоўкі і выпуску кваліфікаваных спецыялістаў.

Для далейшага ўпарадкавання падрыхтоўкі і перападрых-

тоўкі вышэйшых і сярэдніх кадраў у сістэме с.-г. навучальных устаноў, з'езд прапануе:

а) забяспечыць перасоўку сельскагаспадарчых спецыялістаў з цэнтральных апаратаў Наркамзема і інш. устаноў у МТС і соўгасы для ўмацавання кіраўніцтва соўгаснай і калгаснай гаспадаркай.

б) Правесці далейшае ўмацаванне матар'яльнай і вытворчай базы сельскагаспадарчых ВНУ і асабліва тэхнікумаў як у частцы ўмацавання навучальных сродкаў (лабараторыі, машыны, зямельныя плошчы і т. п.), так і ў частцы бытавых умоў вучэбнага персанала і вучашчыхся, дабіцца спынення цякучасці вучашчыхся.

в) Практыкаваць перападрыхтоўку спецыялістаў сярэдняй і вышэйшай кваліфікацыі шляхам арганізацыі курсаў працягласцю да 1 года.

## Матар'яльна бытавое становішча працоўных

Зніштажэнне беспрацоўя і забяспечанасць работы ўсіх рабочых і служачых пры сістэматычна праводзімых у Совецкай дзяржаве палепшаннях умоў іх працы, завяршэнне на працягу другой пяцігодкі калектывізацыі ўсёй масы сялянскіх гаспадарак, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў — усё гэта стварае небывала спрыяючыя ўмовы і робіць зусім рэальным выкананне лозунга правадыра партыі т. **Сталіна** аб далейшым быстрым уздыме матар'яльнага ўзроўню рабочых і калгасных мас.

XV з'езд КП(б)Б даручае ЦК КП(б)Б забяспечыць такую перабудову знізу даверху работы партыйных, совецкіх, гаспадарчых, профсаюзных, комсамольскіх, кааператыўных арганізацый у справе палепшання матар'яльна-бытавога становішча рабочых, калгасных мас і іх культурнага абслугоўвання, якое забяспечыла-б на справе поўнае выкананне задач, пастаўленых у тэзісах дакладаў к XVII з'езду ВКП(б), рашуча перасякаючы і выганяючы з практыкі работы малейшыя праяўленні бяздушных саноўна-панскіх бюракратычных адносін да патрэб і запросаў працоўных мас, спробы падмены упорнай дзелавой работы па выкананню ўказанняў партыі аб барацьбе за палепшанне матар'яльна - бытавога становішча—славеснай дэкларацыйнасцю, няўхільна кіруючыся ўказаннем т. Л. М. **Кагановіча** аб тым, што няма больш пачэснай задачы для большэвіка, чым барацьба за палепшанне матар'яльнага ўзроўню рабочых.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе мясцовыя партыйныя арганізацыі забяспечыць на справе такую праверку выканання рашэнняў партыі кожным комуністам, кожнай арганізацыяй, кожным совецкім служачым аб матар'яльна-бытавым становішчы працоўных, каб забяспечыць усямернае разгортванне тавараабароту на аснове максімальнага скарыстання ўсіх магчымасцей павелічэння выпуску прадукцыі шырспажыву, карэннага палепшання работы кааперацыі і ўсіх тавараправодзячых арганізацый, канчаткова выгнаўшы з іх работы элементы «нейкага нэпманскага духу», дабіцца рашучага палепшання работы сталовых, навядзення ў іх чыстаты і большэвіцкага парадку, забес-

пячэння сталовых гароднінай і мясам за кошт адкорму, рашуча вядучы барацьбу за высокую якасць і зніжэнне кошту грамадскага харчавання.

З'езд даручае ЦК і мясцовым арганізацыям канчаткова ліквідаваць астаткі ўраўнілаўкі ў справе снабжэння і забяспечыць на справе пераважнае снабжэнне і харчаванне ўдарнікаў.

З'езд прызнае, што рашэнне пленума ЦК ВКП(б) аб комунальнай гаспадарцы выконваецца ў БССР нездавальняюча як з боку мясцовых партыйных арганізацый, так і цэнтральных арганізацый.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе партыйныя арганізацыі, у асаблівасці Менскую, Гомельскую, Віцебскую, Магілеўскую і Оршанскую, забяспечыць поўнае, своечасовае і добраякаснае скарыстанне ўсіх асігнаванняў па комунальнай гаспадарцы ў 1934 г., звярнуўшы асобую ўвагу на расшырэнне і прывядзенне ў парадак існуючага жыллёвага фонду, на рамонт рабочых кватэр, у першую чаргу кватэр ударнікаў, на барацьбу за чыстату і ўтульнасць у рабочых кватэрах, за ачыстку гарадоў ад гразі і смецця, на развіццё і прывядзенне ў парадак існуючых зялёных насаджэнняў, на расшырэнне сеткі бань, арганізацыю пры ЖАКТах пральняў, дзіцячых садоў, ясляў, дамоў мацеры-дзіцяці, рашуча даючы адпор падмене барацьбы за канкрэтныя справы па палепшанню матар'яльна-бытавога становішча працоўных мас—пасяджэнчай мітуснёй і патокам рэзалюцый.

Падкрэсліваючы выключную важнасць усёй работы па палепшанню матар'яльна-бытавога становішча працоўных, з'езд абавязвае ЦК і мясцовыя партыйныя арганізацыі ў найкарацейшы тэрмін умацаваць органы кааперацыі, комунальнай гаспадаркі грамадскага харчавання і інш. лепшымі праверанымі большэвіцкімі кадрамі за кошт рашучага вылучэння рабочых-ударнікаў.

## Нацыянальна-культурнае будаўніцтва

XV з'езд КП(б)Б адабрае рашэнне снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б аб правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі і праведзімую ЦК работу і даручае ўсім партыйным арганізацыям і кожнаму члену партыі забяспечыць рэалізацыю гэтага рашэння ў сваёй практычнай рабоце. З'езд адабрае рашэнні VIII пленума ЦК КП(б)Б аб тым, што «Вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Савецкага саюза і ўсёй ВКП(б), але гэта ні ў якай меры не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі. Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на сучасным этапе блакіруюцца паміж сабой на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР для аслаблення пазіцыі СССР і ўмацавання пазіцыі капіталізма».

Усямерна ўзмацняючы барацьбу супроць вялікадзяржаўнага рускага шавінізма, промячы беларускі нацыяналізм, як галоўную небяспеку ў БССР, КП(б)Б павінна таксама ўзмацніць ба-

рацьбу супроць іншых мясцовых шавінізмаў, нацыяналістаў: яўрэйскага, польскага і інш. КП(б)Б павінна і надалей усямерна умацоўваць пролетарскі інтэрнацыяналізм, брацкае адзінства і садружаства працоўных усяго Совецкага саюза і ўсяго свету.

Барацьба з беларускім нацыяналізмам як галоўнай небяспекай павінна праводзіцца ў бязлітасным выкрыцці нацыянал-дэмакратычных установак, прабуючых сарваць індустрыялізацыю і калектывізацыю нашай рэспублікі і насаджаць беларускую буржуазную культуру. З'езд напамінае, што барацьба з беларускім нацыянал-дэмакратызмам не толькі не выключае аслаблення нашай работы ў галіне беларусізацыі, але, наадварот, патрабуе ад кожнага члена КП(б)Б сістэматычнай барацьбы за далейшае развіццё беларускай мовы і беларускай культуры нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па свайму зместу. Разам з тым з'езд прапануе ўсім партыйным і совецкім арганізацыям узмацніць сваю работу па яшчэ большаму разгортванню будаўніцтва соцыялістычнай культуры нацменшасцей БССР.

### У галіне арганізацыйнай работы і партбудаўніцтва

Ажыццяўляючы дырэктывы ЦК ВКП(б) і ўказанні правадыра партыі тав. **Сталіна,** КП(б)Б дабілася раду станоўчых зрухаў у справе перабудовы партработы на вытворчасці, у вёсцы, у справе ўзмацнення авангарднай ролі комуністаў і агульнага ўмацавання кіруючых кадраў зверху данізу. Створаны палітаддзелы на транспарце, у МТС і соўгасах.

У поўнай згодзе з тэзісамі па дакладу т. Кагановіча, адобраным у асноўным Палітбюро ЦК ВКП(б), з'езд падкрэслівае неабходнасць разгарнуць самую энергічную і ўпорную барацьбу ўсіх членаў партыі за неадкладную ліквідацыю адставання практыкі арганізацыйнай работы партыйных, совецкіх, гаспадарчых і профсаюзных арганізацый ад патрабаванняў палітычнага кіраўніцтва.

З'езд заклікае ўсіх членаў КП(б)Б павесці рашучую барацьбу з канцэлярска-бюракратычнымі метадамі кіраўніцтва, з работай метадамі агульных дырэктыў, пасяджэнчай мітусні, гніла-ліберальнымі адносінамі да дзяржаўных, грамадскіх і партыйных абавязкаў. Неабходна рашуча змагацца за аператыўнае кіраўніцтва, правільны падбор і расстаноўку кадраў і сістэматычную з дня ў дзень праверку выканання, маючы на ўвазе, што той, хто не ўмее праверыць выкананне не толькі рашэння ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, але і свае ўласныя рашэнні—не разумее і не можа забяспечыць патрабаванняў партыі кіраваць і працаваць па-новаму, па-большэвіцку.

З'езд падкрэслівае, што перабудова ўсёй работы ў адпаведнасці з тэзісамі даклада т. Кагановіча прадпалагае як абавязковую ўмову яшчэ большае разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва рабочых і калгаснікаў, яшчэ большае разгортванне большэвіцкай самакрытыкі і масавага кантролю знізу, яшчэ большае ўмацаванне нізавых звенняў на ўсіх участках работы.

Чыстка КП(б)Б ускрыла істотныя недачоты ў марксісцка-ленінскім выхаванні комуністаў, яшчэ слабае становішча падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі парткадраў і прапагандыстаў, слабае метадычнае кіраўніцтва партасветай, рэзультатам чаго з'яўляецца яшчэ

невысокі ідэйны ўзровень і недастатковае тэарэтычнае ўзбраенне комуністаў. Замацаванне маючыхся ў рэзультаце чысткі зрухаў, поўная рэалізацыя вывадаў камісіі па чыстцы з'яўляецца важнейшай задачай партарганізацыі.

Асноўныя задачы КП(б)Б—гэта палепшанне кіраўніцтва пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі, забяспечанне дыферэнцыяванага кіраўніцтва паасобнымі групамі членаў партыі, кандыдатамі і спачуваючымі на аснове штодзеннага вывучэння ўнутранага жыцця кожнага нізавога партзвяна. Правядзенне гэтых мерапрыемстваў павінна забяспечыць карэннае палепшанне зместу работы і аўладанне кожным комуністам марксісцка-ленінскай тэорыяй, асваенне новай тэхнікі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Асобую ўвагу неабходна ўдзяліць пытанню падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі парткадраў, смелага вылучэння на кіруючыя пасты праверaных на рабоце ўдарнікаў з рабочых, калгаснікаў, рашучага палепшання зместу работы ўсёй сістэмы падрыхтоўкі кадраў. Важнейшая задача КП(б)Б—гэта карэнным чынам падняць партыйную і масавую работу сярод жанчын—работніц і калгасніц і распрацаваць рад практычных мерапрыемстваў аб больш смелым і рашучым вылучэнні.

Становішча партыйнага кіраўніцтва комсамолам не адпавядае ўзросшым патрабаванням, прад'яўляемым комсамолу, як аднаму з перадавых атрадаў будаўніцтва соцыялізма, і патрабуе ўсямернага яго палепшання з боку ўсіх партарганізацый.

Задачы другой пяцігодкі выклікаюць творчы энтузіязм шырокіх працоўных мас, прыліў вытворчай актыўнасці, ініцыятывы і растучага імкнення да асваення новай тэхнікі і замацавання дасягнутых поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва. Партарганізацыі абавязаны ўзначаліць гэты энтузіязм, разгарнуць глыбокую палітычную работу ў масах, памятаючы аб тым, што метад перакanання з'яўляецца галоўным і рашаючым у барацьбе за рэалізацыю рашэнняў партыі.

Пад выпрабаваным ленінскім кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і геніяльнага правадыра, натхніцеля нашай партыі, тэарэтыка сусветнай пролетарскай рэволюцыі т. **Сталіна**—КП(б)Б, па-бальшэвіцку ажыццяўляючы рашэнні XVII з'езда партыі, павядзе рабочыя і калгасныя масы на барацьбу за пабудаванне бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

# Рэзалюцыя XV з'езда па справаздачнаму дакладу аб рабоце ЦКК КП(б)Б

1. XV з'езд КП(б)Б, заслухаўшы даклад т. Лычова аб рабоце ЦКК КП(б)Б за перыяд з XIV да XV з'езда, адабрае работу ЦКК КП(б)Б і адзначае агромнейшую работу, прароблену за гэты перыяд у галіне барацьбы за адзінства партыі і па кантролю за выкананнем дырэктыў партыі і ўрада на важнейшых участках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

2. XV з'езд адзначае, што праведзеная чыстка радоў партыі і практычная работа ЦКК у барацьбе за чыстату і маналітнасць ленінскай партыі паднялі на высока-прынцыповую вышыню крытыку і самакрытыку, не гледзячы на асобы; значна ўзрасла партыйная і класавая пільнасць і боездольнасць членаў партыі ў барацьбе з правым ухілам як галоўнай небяспекай, «левым» і прымірэнцтвам да іх, у барацьбе з усякага роду скажэннямі ленінскай нацыянальнай палітыкі.

3. Выходзячы з ажыццяўлення задач другой пяцігодкі, паданых у тэзісах да XVII з'езда ВКП(б) тт. Молатава і Куйбышава, задач пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, перасілення перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей,—з'езд цалкам і поўнасцю адабрае і далучаецца да тэзісаў даклада т. Кагановіча аб пераўтварэнні ЦКК у выбіраемую з'ездам партыі Камісію партыйнага кантролю і стварэння Камісіі савецкага кантролю, выбіраемую з'ездам партыі, скасоўваючы гэтым самым Наркамат РСІ, як ужо адыграўшага сваю станоўчую ролю.

4. Адабраючы гэтыя мерапрыемствы, выцякаючыя з «задачы падняцця арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва» (з тэзісаў даклада т. Кагановіча), XV з'езд КП(б)Б падкрэслівае, што гэтыя мерапрыемствы справу кантролю і праверкі ставяць на яшчэ больш высокую ступень, пытанні партыйнай і савецкай дысцыпліны набываюць асоба важнае значэнне, і «з'езд партыі папярэджвае ўсіх работнікаў партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх і інш. арганізацый, у першую чаргу камуністаў, што, заахвочваючы лепшых работнікаў, ЦК партыі і савецкія кіруючыя органы будуць знімаць з усякіх пастоў, ставіць на ніжэйшыя пасты і строга караць усіх работнікаў, не гледзячы на асобы, якія будуць парушаць партыйную і савецкую дысцыпліну» (тэзісы даклада т. Кагановіча).

5. Адзначаючы грамадны рост ролі прафесіянальных саюзаў, якая выцякае з асноўнай іх задачы, пастаўленай Леніным—прафсаюзы—школа комунізма, і ўлічваючы новыя функцыі прафсаюзаў, якія выцякаюць з тэзісаў т. Кагановіча аб перадачы ім «усіх

праў нізавых органаў РСІ на прадпрыемствах і кіраўніцтва кантрольнымі органамі пры АРСах, ЗРК, Раён. спаж. т-ва, Гар. спаж. т-ва»,—XV з'езд партыі абавязвае ЦСПСБ, усе прафесіянальныя арганізацыі, советы рабочых і сялянскіх дэпутатаў і іх секцыі рашучым чынам перабудаваць сваю работу па яшчэ большаму ўцягненню працоўных мас у работу дзяржапарата, мабілізуючы іх увагу на бязлітасную барацьбу з бюракратызмам і коснасцю ў паасобных звеннях нашага апарата.

З'езд партыі абавязвае профарганізацыі, советы і секцыі, перабудоўваючы сваю работу ў адпаведнасці з тэзісамі т. Кагановіча, максімальна скарыстаць агромнейшы вопыт РСІ па ўцягненню мас у работу дзяржапарата, прыняўшы ўсе меры да замацавання і актывізацыі работы ўжо аформленых секцый, пастоў РСІ, пазаштатных інспектароў з актыва калгаснікаў і т. д. З'езд абавязвае ўсямерна ўзмацніць і развіць вырасшую з шэфства прадпрыемстваў над установамі апраўдаўшую форму ўдзелу мас ў кіраўніцтве дзяржавай—соцсумяшчэнне.

З'езд асоба падкрэслівае ў сувязі з гэтымі задачамі ролю комсамола ў барацьбе з бюракратызмам ва ўцягненні мас у справу кантролю за выкананнем рашэнняў партыі і ўрада. У свеце гэтых задач комсамол абавязан ажывіць і ўсямерна замацаваць актыўнасць апраўдаўшага вопыту работы груп «лёгкай кавалерыі», уцягнуць у гэтую работу ўсю комсамольскую і рабочакалгасную моладзь.

З'езд патрабуе ад профсаюзаў і ўсіх совецкіх гаспадарчых органаў, уцягваючы працоўных у кіраўніцтва дзяржавай, самых уважлівых, самых старанных адносін да рабочых, калгаснікаў і іх канкрэтных запатрабаванняў, патрэбнасцей і запросаў.

6. Цясней згуртоўваючы свае рады вакол ленінскай партыі і правадыра сусветнага пролетарыята т. Сталіна, перабудоўваючы сваю работу ў адпаведнасці з задачамі, пастаўленымі перад рабочым класам тэзісамі XVII з'езда,—XV з'езд КП(б)Б упэўнен, што «члены нашай партыі акажуцца на вышыні сваіх задач, дапамогуць сваёй актыўнасцю партыі і ўраду ачысціць апараты пролетарскай дыктатуры ад бюракратычных недахопаў, умацуюць дыктатуру пролетарыята, паднімуць яшчэ больш кіруючую ролю партыі і забяспечаць краіне поўную перамогу другой пяцігодкі» (з тэзісаў даклада т. Кагановіча).

# Рэзалюцыя XV з'езда КП(б)Б па дакладу тав. Галадзеда аб калгасным і соўгасным будаўніцтве БССР

«Гераічнай барацьбой рабочага класа ўжо за гады першай пяцігодкі пабудован фундамент соцыялістычнай эканомікі, разгромлен апошні капіталістычны клас — кулацтва, а асноўныя масы сялянства—калгаснікі сталі моцнай апорай совецкай улады ў вёсцы. СССР канчаткова ўмацаваўся на соцыялістычным шляху» (з тэзісаў дакладаў тт. Молатава і Куйбышава к XVII з'езду).

«Карэнным чынам рэканструявана ў першай пяцігодцы сельская гаспадарка. Пролетарыят, кіруемы ленінскай партыяй, пераканаў мільёны сялянства ў перавазе калектыўнай вытворчасці і стварыў у вёсцы новы калгасны лад. Перамогі ў развіцці прамысловасці абумовілі тіганцкія поспехі па пераводу сельскай гаспадаркі на рэльсы машыннай тэхнікі. СССР стаў краінай самай буйнай у свеце сельскай гаспадаркі» (з тэзісаў дакладаў тт. Молатава і Куйбышава к XVII з'езду).

Правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла значны гаспадарчы і культурны рост, асабліва ў нацыянальных раёнах Саюза, якія быстра ідуць па шляху канчатковай ліквідацыі сваёй адсталасці.

У БССР арганізавана буйная прамысловасць, узброеная навейшай тэхнікай; паспяхова рэканструіруецца сельская гаспадарка на соцыялістычны лад; ліквідаваны галеча, забітасць, цемра, невуцтва і кулацкая кабала і эксплаатацыя ў беларускай вёсцы. На аснове росту індустрыялізацыі і калектывізацыі БССР значна вырас матар'яльны і культурны добрабыт рабочых мас і працоўнага сялянства. Працоўнае сялянства БССР, арганізаваўшыся ў калгасы, вышла на шырокую дарогу калектыўнай вытворчасці і культурнага жыцця і значна павысіла свой матар'яльна-культурны ўзровень. У БССР арганізавана 395 соўгасаў, 52 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'ядналіся ў калгасы. Пролетарская дзяржава арганізавала ў БССР 63 МТС і дала сельскай гаспадарцы 3 223 трактары і сельскагаспадарчых машын на суму ў 28 млн. руб. і 363 636 т мінеральных угнаенняў. Капітальныя ўкладанні ў сельскую гаспадарку састаўляюць 282 млн. руб. Пабудавана 50 ільназаводаў, аблягчаючых працу сялянства пры пярвічнай перапрацоўцы ільну. Калгасы палітычна і арганізацыйна-гаспадарча значна ўмацаваліся. Калгасы і аднаасобныя гаспадаркі БССР у 1933 г. поўнасцю і датэрмі-

нова выканалі свае абавязацельствы перад дзяржавай па хлебу, бульбе і мясапастаўках. Большасць калгасаў павялічылі свае даходы на працадзень амаль у два разы. У паспяховым правядзенні сельскагаспадарчага года рашаючую ролю адыграла работа палітаддзелаў МТС і соўгасаў, якія наблізілі партыйнае кіраўніцтва да вёскі, да калгаса і выправілі буйнейшыя недахопы нашай работы ў вёсцы, указаныя т. Сталіным у яго прамове на студзеньскім пленуме ЦК, і рэалізацыя новага закона аб цвёрдых пастаўках сельгаспрадуктаў дзяржаве.

Буйнейшымі дасягненнямі ў галіне сельскай гаспадаркі БССР з'яўляецца: расшырэнне пасеўных плошчаў з 3 450,8 тыс. **га** ў 1928 г. да 3 711,0 тыс. **га** ў 1933 г., у тым ліку пасеўных плошчаў ільну з 140,6 тыс. **га** да 230,8 тыс. **га**; павышэнне ўраджайнасці ў 1933 г. у параўнанні з 1932 годам: зернавых на 48,7 проц., па ільну на 20,0 проц., па бульбе на 18,3 проц.; павелічэнне ўсяго стада буйнай рагатай жывёлы на 8,1 проц.

Калгасна-таварныя фермы выраслі: малочна-жывёлагадоўчыя да 5 239 з пагалоўем у іх да 328,2 тыс. галоў, свінаводчыя да 3 480 з пагалоўем у іх да 159,1 тыс. галоў; па соўгасах НКСоўгасаў колькасць буйнай рагатай жывёлы вырасла з 33 186 галоў у 1932 г. да 38 848 галоў у 1933 г. і свіней—з 73 029 да 83 025 галоў.

Гэтыя поспехі ў сельскай гаспадарцы БССР дасягнуты дзякуючы правільнаму правядзенню генеральнай лініі партыі, дзякуючы паслядоўнай і бязлітаснай барацьбе КП(б)Б і яе ЦК супроць класавых ворагаў: супроць кулацтва, шкоднікаў, контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў і іншых антысавецкіх элементаў, а таксама супроць кулацкай агентуры ўнутры партыі—супроць апартуністаў усіх масцей і нацыянал-апартуністаў.

Недабітыя астаткі варожых класаў і шкоднікаў, змяніўшы метады і тактыку сваёй контррэвалюцыйнай работы, праводзілі шкодніцкую работу і процідзейнічалі мерапрыемствам партыі і савецкай улады (1932 г.), арганізаваўшы контррэвалюцыйныя, шкодніцкія гнёзды ў Наркамземе, у Трактарацэнтры, у сельскагаспадарчых ВНУ і навукова-даследчых інстытутах. Карыстаючыся стратай рэвалюцыйнай пільнасці з боку раду камуністаў зямельных органаў, у тым ліку і з боку раду кіруючых зямельных работнікаў (Рачыцкі, Паніматко, Матус і інш.), дзякуючы прамому здрадніцтву пралезшых у партыю ворагаў партыі (Масюкоў, Грузакоў і інш.), контррэвалюцыйным нацыяналістам і шкоднікам удалося нанесці страты на радзе ўчасткаў сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўля, ветэрынарная справа, землеўпарадкаванне, севаабароты, падрыхтоўка кадраў і т. д.). КП(б)Б і яе ЦК выкрылі і бязлітасна разграмілі гэтыя контррэвалюцыйныя шкодніцкія элементы і ўзмацнілі сваё канкрэтнае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай і калгасным будаўніцтвам. Задача ўсіх партыйных арганізацый, усіх зямельных органаў, усіх камуністаў і камсамольцаў заключаецца ў тым, каб у інтарэсах далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі, калгаснага і соўгаснага будаўніцтва поўнасцю ліквідаваць спадчыну кулацкай прышчэпаўшчыны і шкодніцтва, яшчэ больш узмацніць канкрэтнае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай зверху данізу, уваходзіць у дэталі і поўнасцю авалодаць тэхнікай сельскагаспадарчай вытворчасці, ума-

цоўваць зямельныя і калгасныя органы праверанымі большэвіцкімі кадрамі, яшчэ больш узмацніць рэволюцыйную пільнасць, маючы на ўвазе, што нашы поспехі не могуць не выклікаць і ў далейшым абвастрэння класавай барацьбы і новых спроб падрыву соўгасаў і калгасаў з боку разгромленага, але канчаткова яшчэ не страціўшага свайго ўплыву, кулацтва.

XV з'езд КП(б)Б адзначае ў рабоце па сельскай гаспадарцы рад недахопаў: слабую перабудову работы і адсутнасць у радзе раёнаў сапраўднай барацьбы за правільную арганізацыю працы і падняцце прадукцыйнасці працы ў соўгасах і калгасах, слабую палітыка-выхаваўчую і масавую работу сярод калгаснікаў па іх соцыялістычнаму перавыхаванню, недастатковую барацьбу супроць антыдзяржаўных кулацкіх тэндэнцый, што найбольш ярка выразілася ў нарэзцы вялікіх прысядзібных участкаў калгаснікам. Рэзультатам гэтых недачотаў з'явілася адставанне раду раёнаў Беларусі ў правядзенні асноўных сельскагаспадарчых работ. У радзе соўгасаў і калгасаў да гэтага часу існуе безгаспадарнасць, адсутнічае барацьба з рвацкімі тэндэнцыямі, якія маюць месца сярод работнікаў соўгасаў. У радзе соўгасаў, трэстаў і калгасаў ёсць выпадкі неахайных і злачынных адносін да каня. Слаба яшчэ пастаўлена барацьба за ўкараненне гаспадарчага разліку ў калгасах і барацьба за выкананне вытворчых планаў як у соўгасах, так і ў калгасах. Недастаткова барацьба за ўкараненне агратэхнічных мерапрыемстваў.

## I. Задачы ў галіне далейшай калектывізацыі

XV з'езд КП(б)Б горача вітае тэзісы дакладаў тт. Молатава, Куйбышава і Кагановіча к XVII з'езду, адобраныя ў асноўным Палітбюро ЦК ВКП(б), і намячае ў якасці асноўнай гаспадарча-палітычнай задачы далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі разгорнутую тэхнічную рэканструкцыю, далейшае ўкараненне машыннай тэхнікі і механізацыю ўсіх важнейшых працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці, палітычнае і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, поўнае завяршэнне калектывізацыі сялянскіх гаспадарак у БССР у другой пяцігодцы і канчатковае выкарчоўванне астаткаў кулацтва.

XV з'езд КП(б)Б прапануе ўсім партыйным арганізацыям, зямельным і совецкім органам правесці веснавую пасеўную кампанію 1934 г. пад знакам далейшага палітычнага і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, рашучай барацьбы супроць кулацкіх элементаў і за новы прыліў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы.

## II. Задачы ў галіне павышэння ўраджайнасці

1. З'езд канстатуе, што значнае павышэнне ўраджайнасці ў 1933 г. толькі пачатак, першыя крокі ў справе барацьбы за высокі ўраджай, за ажыццяўленне лозунга т. Сталіна «зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможнымі». Яшчэ далёка не поўнасцю выкарыстоўваюцца тыя гіганцкія магчымасці ўздыму ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці, якія закладзены ў калгасным ладзе. Ураджайнасць, асабліва па ільну і

бульбе, яшчэ недастатковая, і рад арганізацый слаба вядуць практычную барацьбу за ўздым ураджайнасці.

2. XV з'езд КП(б)Б ставіць задачу да 1937 года дабіцца наступнай ураджайнасці: а) зернавых культур не менш 11,5 **цнт** з **га**, павялічыўшы, такім чынам, усю прадукцыю зернавых да 28 млн. **цнт**; б) ураджайнасць ільнавалакна падняць да 3,8 **цнт** з **га**, давёўшы ўсю прадукцыю ільнавалакна не менш чым да 950 тыс. **цнт**; в) ураджайнасць бульбы падняць да 130 **цнт**, давёўшы ўсю прадукцыю бульбы да 80 млн. **цнт**, і г) рашуча павысіць ураджайнасць іншых культур (гародніна, караньплоды, травы і інш.).

3. З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі, дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС і соўгасаў, усе зямельныя органы разгарнуць сапраўды большэвіцкую барацьбу за высокі ўраджай. БССР мае ўсе неабходныя ўмовы для высокага ўздыму ўраджайнасці калгасных і соўгасных палёў, каб па ўзроўню ўраджаю заняць адно з перадавых месц сярод рэспублік і абласцей Савецкага саюза.

4. Такога ўраджаю магчыма дабіцца пры ўмове: а) рашучага палепшання якасці апрацоўкі глебы, поўнага прымянення маючайся ўжо ў сельскай гаспадарцы тэхнікі ва ўсіх працэсах вытворчасці (узорванне, лушчэнне, баранаванне, праполка і прапашка, барацьба са шкоднымі травамі, уборка, малацьба і інш.); б) павелічэння пасеваў чыстасортным насеннем і павелічэння вытворчасці сартовага насення для гаспадарчых пасеваў у адпаведнасці з задачамі другой пяцігодкі, асобую ўвагу ўдзяляючы рабоце насеннаводчых соўгасаў, калгасаў, вопытных станцый; в) абавязковага праводзення ранніх і звышранніх пасеваў яравых; г) зяблівага ворыва; д) укаранення правільнага севаабароту; е) рацыянальнага выкарыстання мінеральных угнаенняў і ўсямернага ўкаранення мясцовых угнаенняў (пашырэнне люпінізацыі, укараненне торфу, вапнаванне глеб і т. д.); ж) абавязковага замацавання на ўвесь сезон паляводчых брыгад за сваімі ўчасткамі, лепшай арганізацыі працы ў калгасах. З'езд падкрэслівае, што справа ўсямернага ўмацавання брыгад па вытворчаму прынцыпу з'яўляецца рашаючай умовай у павышэнні прадукцыйнасці працы калгасаў. Усе ўказаныя ўмовы ёсць у наяўнасці, іх выкарыстанне залежыць выключна ад умення праўленняў калгасаў, дырэктароў і начпалітаддзелаў соўгасаў і МТС, усіх зямельных, савецкіх і партыйных арганізацый арганізаваць канкрэтную практычную работу па мабілізацыі калгаснікаў на выкананне ўказанняў т. Сталіна—«працаваць чэсна і берагчы калгаснае дабро».

## III. Задачы ў галіне развіцця жывёлагадоўлі

1. Выключна адказныя задачы стаяць перад БССР у галіне развіцця прадукцыйнай жывёлагадоўлі (буйная рагатая жывёла, свінні, авечкі). У БССР у наяўнасці ўсе ўмовы для таго, каб жывёлагадоўлю, асабліва свінагадоўлю, зрабіць вядучай галіной гаспадаркі і заняць выдатнае месца ва ўсім Саюзе.

Аднак, гэтыя ўмовы далёка яшчэ не выкарыстаны, і жывёлагадоўля БССР маючы вядомыя дасягненні і агульны рост, усё-ж яшчэ далёка не пастаўлена ў цэнтры ўвагі партыйных, савецкіх, зямельных і калгасных арганізацый. Работа жывёлагадоўчых і свінагадоўчых соўгасаў, калгасных таварных ферм па-

стаўлена вельмі дрэнна: не наладжан догляд жывёлы, дрэннае і несвоечасовае кармленне, няма ў радзе выпадкаў патрэбнага клопату па забеспячэнню кармамі, недапушчальна вялікі адыход маладняка і вельмі нізкі процант таварнага выхаду (сярэдні па БССР апарос па фермах састаўляе ўсяго 5,75 парасят і па соўгасах НКСоўгасаў—7,5; процант адыходу ў 1933 г. даходзіць па фермах да 35,4 і па соўгасах—да 30,2, а ў паасобных соўгасах—да 50—53 проц. і па паасобных фермах да 60 проц.; сярэдні процант дзелавога выхаду недапушчальна нізкі).

2. З'езд КП(б)Б прызнае такое становішча ў галіне жывёлагадоўлі зусім нецярпімым і кіраўніцтва жывёлагадоўляй з боку НКЗемляробства БССР і Ўпаўн. НКСоўгасаў — нездавальняючым. Нездавальняючай з'яўляецца работа жывёлагадоўчых і свінагадоўчых трэстаў, а таксама і дырэктароў раду соўгасаў і раду калгасных таварных ферм. З'езд адзначае, што райкомы, райвыканкомы і палітаддзелы МТС удзяляюць яўна недастатковую ўвагу справе развіцця жывёлагадоўлі.

3. У якасці канкрэтных задач з'езд прапануе правесці наступнае:

а) рашуча і рэзка павысіць таварны выхад маладняка ў свінагадоўчых соўгасных і калгасных таварных фермах; дабіцца павелічэння апаросу і рэзка скараціць адыход маладняка да мінімума; арганізаваць на справе належны догляд жывёлы як у соўгасах, так і ў калгасах, рашуча прымяняючы ўстаноўленую партыяй сістэму аплаты свінароў і жывёлаводаў у залежнасці ад апаросу, адыходу маладняка, таварнага выхаду свіней і ад павышэння ўдою буйчай рагатай жывёлы, прымяняючы меры ўсямернага заахвочвання добрасумленных, ведаючых справу, работнікаў, прымаючы меры да палепшання культурна-бытавых умоў рабочых соўгасаў; павесці больш рашучую барацьбу за ачыстку жывёлагадоўчай фермы ад кулацкіх шкодніцкіх элементаў; устанавіць, што за выкананне гэтых заданняў нясуць поўную адказнасць дырэктары і начпалітаддзелаў соўгасаў і МТС, праўленні калгасаў, райземаддзелы, трэсты і рэспубліканскія наркаматы;

б) устанавіць прырост пагалоўя, які забяспечвае павелічэнне прадукцыі па жывёлагадоўлі ў 2—2¼ разы, даручыўшы ЦК і СНК вызначыць рост жывёлы па відах, па гадах другой пяцігодкі;

в) рашуча палепшыць пароды ўсіх відаў жывёлагадоўлі, асабліва ў раёнах Палесся, маючы на ўвазе, што ў справе палепшання пароды прадукцыйнай жывёлагадоўлі шкодніцкія элементы больш чым у іншых галінах сельскай гаспадаркі тармазілі і падрывалі работу. Асаблівая адказнасць у гэтым пытанні ўскладаецца на навукова-даследчыя інстытуты і на вопытна-жывёлагадоўчыя станцыі;

г) З'езд звяртае ўвагу ўсіх калгасаў, соўгасаў і земорганаў, што апартуністычным адносінам да развіцця аўцагадоўлі павінен быць дан рэзкі адпор. «Тэорыя нерэнтабельнасці аўцагадоўлі ва ўмовах БССР», якая мела месца сярод многіх зямельных работнікаў, з'яўляецца шкодніцкай «тэорыяй», накіраванай на аслабленне жывёлагадоўчай, мясной і сыравіннай базы дзяржавы. Неабходна даць рашучы адпор падобнай тэорыі і прак-

тыцы і дабіцца, каб не было ні аднаго калгаса і калгасніка без авечак;

д) З'езд КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі, савецкія і зямельныя органы дабіцца такога становішча, каб у БССР не было ніводнага калгасніка без каровы, поўнасцю ажыццявіўшы пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР, ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб надзяленні цёлкамі бескароўных калгаснікаў і аказанні дапамогі ім у набыцці кароў.

4. Задачы па развіццю жывёлагадоўлі патрабуюць выключнай увагі к развіццю кармавой базы (караньплоды, сеяныя травы, развіццё кармавых культур, барацьба за культываванне натуральных сенакосных угоддзяў і выпасаў і т. д.). З'езд канстатуе, што барацьба за моцную кармавую базу для жывёлагадоўлі з боку раду партыйных, савецкіх і асабліва зямельных арганізацый зусім нездавальняючая.

Неабходна асобую ўвагу ўдзяліць новым культурам, якія могуць рэзка расшырыць базу сакавітых і бялковых кармоў для жывёлагадоўлі (тапінамбур і безалкалоідны люпін). Абавязаць Наркамзем і Ўпаўнаркамсоўгасаў з вясны 1934 году забяспечыць поўнасцю выкананне планаў, устаноўленых урадам БССР па пасеву безалкалоіднага люпіну і тапінамбуру.

### IV. Задачы ў галіне арганізацыі зямельнай тэрыторыі і расшырэння пасеўных плошчаў

1. Асобую ўвагу неабходна ўдзяліць справе асваення новых плошчаў і ўцягнення іх у гаспадарчы абарот (залежаў, балот і т. д.) шляхам правядзення раскарчоўкі, уздыму цаліны, меліярацыі балотных масіваў і т. д.

2. XV з'езд КП(б)Б абавязвае на працяту другой пяцігодкі асвоіць не менш 500 тыс. га новых зямель, давёўшы адначасова пасевы яравой і азімай пшаніцы, гэтай важнейшай хлебнай культуры, якая ва ўмовах БССР можа і павінна атрымаць вялікае развіццё і даць высокі ўраджай, да 400 тыс. га.

3. Зямельныя органы павінны значна больш увагі ўдзяляць справе меліярацыі асноўных масіваў балот, і ў прыватнасці асобую ўвагу неабходна ўдзяліць прасцейшым відам меліярацыі, бо ў сілу глебавых умоў у большасці раёнаў БССР (асабліва ў паўночных) прасцейшая меліярацыя можа іграць рашаючую ролю ў справе ўздыму ўраджайнасці і лепшага асваення ворыўных і сенакосных угоддзяў, і можа быць выканана сіламі і сродкамі саміх соўгасаў і калгасаў, без асобых капітальных затрат. Намеціць у другую пяцігодку план меліярацыі балот у размеры 100—125 тыс. га, правесці прасцейшую меліярацыю сіламі калгасаў і соўгасаў на плошчы 250 тыс. га.

4. Кулацкая прышчэпаўская хутарызацыя прывяла да таго, што сапраўдная сельскагаспадарчая тэрыторыя не можа быць устаноўлена без правядзення геадэзічнай з'ёмкі, без праверкі землеўпарадкавання, а ў радзе раёнаў без правядзення новага землеўпарадкавання. З'езд даручае ЦК і СНК распрацаваць і правесці рад мерапрыемстваў па ўдакладненню землеўпарадкавання, выдзеліўшы для гэтай мэты ўжо ў 1934 годзе значныя сродкі.

5. З'езд канстатуе наўнасць вялікай колькасці соўгасаў і калгасаў, не землеўпарадкаваўшых сваіх зямель, не адмежаваўшых нават агульнай тэрыторыі. Усе раённыя арганізацыі павінны асобую ўвагу ўдзяліць пытанню ўстанаўлення севаабаротаў у калгасах і соўгасах і разбіўцы плошчаў, на палі, а таксама ўстанавіць стражэйшы кантроль за правядзеннем у жыццё закона аб устойлівым землекарыстанні калгасаў.

6. Маючы на ўвазе, што ў раёнах з вялікай колькасцю хутароў пытанне аб ліквідацыі астаткаў хутаршчыны ўжо паднята самімі калгаснікамі і набыло актуальнае значэнне,—з'езд даручае ЦК і ўраду распрацаваць і прыступіць да паступовага правядзення ў жыццё пытання аб сцягванні хутароў калгаснікаў у адзіныя калгасныя цэнтры.

## V. Задачы ў галіне развіцця тэхнічных культур

1. Развіццё ільнаводства ў БССР прадстаўляе сабой адну з галоўнейшых задач сельскагаспадарчай вытворчасці. Барацьба за лён, аднак, многімі партыйнымі арганізацыямі, зямельнымі і совецкімі органамі праводзіцца недастатковa. Ільнаводства ў БССР пры некаторых поспехах усё-ж не стала да гэтага часу прадметам клопату ўсіх нашых арганізацый. Адсюль нізкая ўраджайнасць, дрэнная якасць, дрэнны ход з года ў год выканання плану ільназагатовак.

2. XV з'езд КП(б)Б абавязвае ўсіх дырэктароў і начпалітаддзелаў МТС і соўгасаў, Наркамзем і яго мясцовыя органы, усе партыйныя і совецкія арганізацыі рашуча палепшыць работу па развіццю ільнаводства, ствараючы гэтым базу тэхнічнай сыравіны для далейшага будаўніцтва магутнай ільнаперапрацоўчай прамысловасці СССР і БССР. Разам з тым з'езд абавязвае ўсе арганізацыі ўдзяліць неабходную ўвагу і каноплеводству.

Неабходна ўдзяліць асобую ўвагу з боку ўсіх арганізацый рабоце ільназаводаў па пярвічнай апрацоўцы ільну.

3. З'езд канстатуе, што ільназаводы—важнейшая тэхнічная база, механізуючая працэсы пярвічнай апрацоўкі ільну,—працуюць выключна дрэнна. Ільнатрактарацэнтр БССР яўна нездавальняюча кіруе гэтай новай галіной прамысловасці ў БССР. З'езд абавязвае Наркамзем і ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі рашуча палепшыць работу ільназаводаў, аказваючы ім усямерную дапамогу, у прыватнасці па пытаннях падбору пастаяннага кадру рабочых, тэхперсанала і палепшання матар'яльнага і культурнага становішча рабочых і спецыялістаў.

4. Развіццё бульбы ва ўмовах БССР, як харчовай, кармовай і тэхнічнай культуры, па-ранейшаму астаецца адной з галоўнейшых задач сельскагаспадарчай вытворчасці. Галоўнае ў развіцці бульбы—гэта падняцце ўраджайнасці да размераў, устаноўленых гэтай пастановай.

## VI. Задачы ў галіне тэхнікі і далейшай машынізацыі сельскай гаспадаркі

1. Выкарыстанне і асваенне тэхнікі сельскагаспадарчых машын з'яўляецца нездавальняючым. Трактары за мінулую сельскагаспадарчую кампанію 1933 г. працавалі з сярэдняй нагрузкай

11,6 гадзін у суткі, а прадукцыйная іх работа састаўляла каля 9 гадзін. Ільнацерабілкі і бульбакапалкі ў радзе выпадкаў зусім не выкарыстоўваюцца, і ігнараванне гэтых машын у радзе выпадкаў не сустракае належнага адпору. Недастатковая кваліфікацыя трактарыстаў, механікаў і т. д., значны недахват кваліфікаваных работнікаў, якія могуць дапамагчы шырокім масам калгаснікаў аўладаць сельскагаспадарчымі машынамі, слабая ўвага падрыхтоўцы гэтых кадраў, недаацэнка прымянення новай тэхнікі ў сельскай гаспадарцы з боку раду зямельных, калгасных работнікаў і работнікаў МТС і соўгасаў—асноўныя прычыны нездавальняючага выкарыстання сельскагаспадарчай тэхнікі, у прыватнасці трактарнага парку.

2. З'езд намячае наступныя заданні па падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі: у 1934 гаду падрыхтаваць 4 036 трактарыстаў, 332 трактарыстаў-механікаў, 11 890 рабочых к розным машынам, 250 шофераў. З'езд даручае НКЗБел. намеціць план падрыхтоўкі кадраў масавай тэхнічнай кваліфікацыі на другую пяцігодку ў поўнай адпаведнасці з патрэбнасцямі ўкараняемай у сельскую гаспадарку тэхнікі.

3. Намеціць у 1934 гаду пабудову 18 новых МТС, завезці трактароў магутнасцю 31 542 HP і сельгасмашын на суму ў 14,9 млн. рублёў.

4. Усямерна ўмацоўваючы МТС, як цэнтр вытворча-тэхнічнага і палітычнага кіраўніцтва калгасамі, неабходна асобую ўвагу звярнуць на своечасовае заключэнне і безумоўнае выкананне дагавораў МТС з калгасамі. Дагавор МТС з калгасамі павінен быць галоўнейшым рычагом умацавання і палепшання арганізацыі справы як у МТС, так і асабліва ў калгаснай вытворчасці. Работа многіх МТС яшчэ не наладжана, кіраўніцтва іх работай з боку рэспубліканскіх цэнтраў слабае. Наркамзем, усе партыйныя і совецкія арганізацыі павінны забяспечыць узорную работу МТМ, у асаблівасці па правядзенню рамонту трактароў к вясне 1934 году.

5. Рост аўтатрактарнага парку МТС і культурны ўздым калгасных мас патрабуе ўзмоцненага будаўніцтва і ўзорнага культурнага ўтрымання пад'ездных шляхоў, дарог і мастоў унутры калгаса, соўгаса і калгаснай вёскі. XV з'езд КП(б)Б адзначае яшчэ існуючую непраязджаемасць большасці сельскіх соўгасных і калгасных дарог і вуліц і як рэзультат гэтага страты і псаванне каня, аўтатрактарнага парку і падаражэнне сабекошту перавозак.

З'езд абавязвае Наркамзем, Упаўнаркамсоўгасаў і раённыя партыйныя арганізацыі забяспечыць будаўніцтва і ўтрыманне калгасных і соўгасных дарог і мастоў, падрыхтоўку з асяроддзя калгаснікаў дарожных арганізатараў, прымацаваўшы паасобныя ўчасткі дарог за пэўнымі калгасамі і соўгасамі, уключыўшы дарожнае будаўніцтва ў вытворчы план соўгасаў і калгасаў. З'езд абавязвае Наркамзем, Упаўнаркамсоўгасаў і Галоўдортранс забяспечыць ў 1934 г. падрыхтоўку не менш 4 тыс. дарожных арганізатараў, брыгадзіраў-калгаснікаў.

### VII. Задачы ў галіне спецыялізацыі раёнаў

1. З'езд даручае ЦК КП(б)Б і СНК БССР к 15 красавіка 1934 г. дадаткова прапрацаваць пытанне эканамічнага сельскагаспадар-

чага раёнавання БССР і спецыялізацыі раёнаў, з мэтай унясення неабходных паправак і карэктыў у спецыялізацыі гаспадарчага развіцця раду раёнаў. Адначасова з гэтым з'езд лічыць неабходным правесці праверку спецыялізацыі раду соўгасаў і калгасаў. З'езд абавязвае зямельныя органы на працягу 1934 году намеціць план правільнай арганізацыі таварных ферм у калгасах і іх спецыялізацыі.

2. Распрацаваць спецыяльны план гаспадарчага ўздыму раёнаў Беларускага Палесся, выходзячы з наяўнасці там найлепшых умоў у параўнанні з іншымі раёнамі БССР і выходзячы з тых магчымасцей, якія закладзены ў гэтых раёнах (выкарыстанне лясных багаццяў, балотных масіваў шляхам іх меліярацыі, лепшай пастаноўкі зернавой гаспадаркі, развіцця прадукцыйнай жывёлагадоўлі, каноплі і т. д.). Распрацоўку гэтага плана закончыць к ліпеню месяцу 1934 года.

## VIII. Задачы ў галіне падрыхтоўкі кадраў

1. З'езд канстатуе нездавальняючую работу Навукова-даследчага інстытуту соцрэканструкцыі сельскай гаспадаркі і даручае Наркамзему БССР узмацніць кіраўніцтва гэтым інстытутам, паставіць на чале яго сур'ёзнага і вопытнага кіраўніка, падабраць вытрыманых і працаздольных навуковых работнікаў, асабліва з моладзі, канчаючай ВНУ і аспірантуру, узмацніць падрыхтоўку аспірантуры ў самім інстытуце.

Наркамзему ўзмацніць кіраўніцтва Горацкім сельскагаспадарчым інстытутам і карэнным чынам палепшыць яго работу па падрыхтоўцы сельскагаспадарчых спецыялістаў.

2. У другой пяцігодцы падрыхтаваць наступную колькасць сельскагаспадарчых кадраў: спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі—1 469 чал., сярэдняй—3 682 чал. Узмацніць колькасна і якасна падрыхтоўку масавых кадраў для соўгасаў і калгасаў (брыгадзіраў, паляводаў, жывёлаводаў, даярак, свінароў і інш.), дабіўшыся рашучага пералому ў гэтай справе.

Работа ВКСГШ набывае выключнае значэнне ў справе падрыхтоўкі большэвіцкіх арганізатараў партработы і калгасна-соўгаснай вытворчасці. З'езд даручае ЦК узмацніць работу ВКСГШ шляхам умацавання яе кіраўніцтва. Асобую ўвагу ўдзяліць камплектаванню ВКСГШ вытрыманымі і праверанымі выкладчыцкімі кадрамі.

4. Даручыць усім гаркомам, райкомам і палітаддзелам МТС на працягу першай палавіны 1934 г. умацаваць склад старшынь калгасаў з тым, каб забяспечыць вылучэнне энергічных, вопытных, правераных у барацьбе за большэвіцкія калгасы і ўмеючых паставіць справу калгаснікаў з абавязковым уцягненнем у справу кіравання калгасамі жанчын-калгасніц, праявіўшых сябе на калгаснай рабоце.

5. Накіраваць усіх агразоаветспецыялістаў, працуючых не па спецыяльнасці, на вытворчасць, максімальна перамясціць спецыялістаў з апаратаў непасрэдна на вытворчасць. Даручыць ЦК на працягу месячнага тэрміна правесці гэтую работу, выходзячы са скарачэння апарата зямельных органаў у адпаведнасці з тэзісамі

даклада тав. Кагановіча на 10—15 проц. Разгрузіць спецыялістаў сельскай гаспадаркі ад папяровай работы і канцэлярскай справаздачнасці для непасрэднай вытворчай іх работы.

## IX. Задачы ў галіне падрыхтоўкі і правядзення вясенне-пасеўнай кампаніі 1934 г.

1. Пасеўная кампанія 1934 г. мае рашаючае значэнне ў справе замацавання дасягнутых поспехаў у 1933 г. і сапраўднага ажыццяўлення ўказанняў тав. Сталіна зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. Большэвіцкая падрыхтоўка вясенне-пасеўнай кампаніі і яе своечасовае правядзенне павінна быць таму цэнтральнай палітычнай і практычнай задачай усіх партыйных, совецкіх і зямельна-калгасных арганізацый. БССР мае ўсе магчымасці для таго, каб у 1934 г., замацоўваючы дасягнутыя станоўчыя рэзультаты, выйсці ў лік перадавых рэспублік і абласцей Саюза ССР у справе ўздыму і соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі як па тэмпах, так і па якасці работы. Пад гэтым лозунгам і павінны працаваць усе арганізацыі.

2. З'езд абавязвае партыйныя і совецкія органы, асабліва зямельных работнікаў, рашуча перабудаваць сваю работу ў галіне кіраўніцтва сельскай гаспадаркай у поўнай адпаведнасці з тэзісамі даклада тав. **Кагановіча** к XVII з'езду партыі:

> «...перайсці ад «агульнага» і абстрактнага кіраўніцтва да канкрэтнага кіраўніцтва, ад «агульных» рэзалюцый да аператыўных рашэнняў, аснаваных на вывучэнні і веданні дэталей і тэхнікі справы, да цеснай, жывой сувязі з нізавымі звеннямі вытворчасці і кіраўніцтва (цэх, участак, прадпрыемства, калгас, вёска, МТС, соўгас і т. п.)».

Гэта забяспечыць паспяховае правядзенне веснавой сяўбы і ўсіх сельскагаспадарчых кампаній 1934 г. Неабходна ўсямерна выганяць з практыкі кіраўніцтва сельскай гаспадаркай канцэлярска-бюракратычныя метады, дабіваючыся ад кожнага работніка адказнасці за даручаную яму справу, умення ўваходзіць у дэталі тэхнікі работы і захавання найстражэйшай пролетарскай дысцыпліны. Зямельныя органы, дырэкцыя і палітаддзелы МТС і соўгасаў павінны быць аператыўнымі штабамі сапраўднага большэвіцкага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, арганізоўваючы сваю работу на аснове сістэматычнай праверкі рашэнняў партыі і ўрада.

3. Важнейшымі момантамі ў падрыхтоўцы пасеўнай кампаніі 1934 г. павінны быць: а) добраякасны і поўны рамонт трактароў у тэрмін, устаноўлены партыяй і ўрадам; б) рамонт і падрыхтоўка ўсяго інвентара; в) поўнае забяспечанне насеннем і 100-процантная ачыстка і праверка на ўсхожасць; г) складанне вытворчых брыгад і замацаванне іх яшчэ да пачатку пасеўнай кампаніі на ўвесь сельскагаспадарчы год за пэўнымі ўчасткамі работы; д) вылучэнне вопытных старыкоў-калгаснікаў правяраць і кантраляваць якасць работы; е) барацьба за каня, як адна з баявых задач усёй партыі, совецкіх і зямельных органаў, падрыхтоўка каня да веснавых работ, абавязковае спалучэнне работы каня і трактара, добрасумленны догляд каня зімой, вяс-

ной і летам і забяспечанне патрэбнымі кармамі для веснавых палявых работ. З'езд падкрэслівае, што гэта ў першую чаргу адносіцца да соўгасаў, бо ў радзе выпадкаў пытанні цяглавай сілы ў соўгасах стаяць востра, а некаторыя работнікі соўгасаў недаацэньваюць значэнне каня і не ўдзяляюць яму патрэбнай увагі; ж) своечасовае правядзенне кантрактацыі ільну, канапель і гародніны; з) падрыхтоўка і перападрыхтоўка к вясне поўнасцю і ў тэрмін масавых кадраў у поўнай адпаведнасці з планам, зацверджаным ЦК і СНК БССР з такім разлікам, каб к пачатку веснавой сяўбы гэтыя кадры ўключыліся у работу; і) правільная арганізацыя працы ў калгаснай брыгадзе, строгая вытворчая дысцыпліна, чэсныя адносіны да працы ў калгасах і ахова калгаснай і соўгаснай маемасці; к) забяспечанне рабочай сілай соўгасаў на час пасеўнай кампаніі шляхам заключэння дагавораў паміж соўгасамі і калгасамі; л) большэвіцкая падрыхтоўка і правядзенне веснавой пасеўнай кампаніі аднаасобным сектарам, маючы на ўвазе, што аднаасобныя гаспадаркі ў сельскай гаспадарцы БССР займаюць яшчэ значнае месца; м) патрэбная падрыхтоўка і правядзенне пасеўнай кампаніі ў прыгарадных гаспадарках, маючы на ўвазе іх вялікую ролю ва ўмацаванні харчовай базы рабочых. Веснавая кампанія бягучага года павінна адыграць рашаючую ролю ў справе больш шырокага разгортвання садоўніцтва.

## X. Задачы ў галіне палепшання бытавога і культурнага абслугоўвання

Барацьба за культурна-асветную работу ў калгасе і культурнае жыццё калгасніка і работніка соўгаса з'яўляецца важнейшай задачай усіх партыйных, совецкіх і гаспадарчых арганізацый.

З'езд адзначае рост культурных запросаў калгасных мас, абумоўлены ўздымам матар'яльнага добрабыту іх, і высоўвае перад партыйнымі, совецкімі арганізацыямі наступныя асноўныя задачы ў галіне культурна-бытавога абслугоўвання: па ўсіх калгасах на працягу другой пяцігодкі арганізаваць лазні, пральні, цырульні. Партыйным арганізацыям і праўленням калгасаў узначаліць масавы рух калгаснікаў за чыстае культурнае памяшканне і павышэнне санітарнага стану калгаснага двара, вуліцы і вёскі. Аказаць дапамогу чырвонаармейскім сем'ям, удовам, інвалідам па прывядзенню ў парадак іх памяшканняў і двароў.

Калгасніца зараз заваёўвае ўсё большае і большае месца ў калгаснай вытворчасці, а існуючыя бытавыя ўмовы (хатняя гаспадарка, клопаты аб дзецях) аднімаюць у яе шмат часу і тармозяць вылучэнне калгасніцы, паніжаючы яе грамадскую актыўнасць і вытворчасць працы. Таму асноўнай неадкладнай задачай з'езд высоўвае паўсямесную арганізацыю па калгасах і брыгадах дзіцячых ясляў. Неабходна дабіцца, каб ужо ў гэтым годзе клопаты аб дзіцячых яслях і выхаванні дзяцей з боку праўленняў калгасаў сталі адным з важнейшых мерапрыемстваў умацавання калгаснай гаспадаркі.

З'езд лічыць неабходным яшчэ больш разгарнуць і накіраваць у больш арганізаванае і планавае рэчышча паходы калгаснікаў за культурнае жыццё калгасніка і культурна-бытавыя канферэнцыі калгаснікаў, паклаўшы ў аснову гэтых паходаў і канферэнцый сістэматычную барацьбу за чыстую культурную хату, за гаспадарчае і культурнае ўтрыманне грамадскіх будынкаў— школ, больніц, дамоў соцыялістычнай культуры і культурную іх работу, за большае прасоўванне ў масы калгаснікаў газет, кніг, бібліятэк, за ўзорнае кіно і радыёабслугоўванне калгаснікаў, за палепшанне работы сельскай спажыўкааперацыі, у прыватнасці па абслугоўванню калгаснікаў культтаварамі.

* * *

XV з'езд КП(б)Б лічыць, што ўся КП(б)Б, у асаблівасці партыйныя арганізацыі соўгасаў і калгасаў, увесь комсамол, усе зямельныя і совецкія арганізацыі рашуча перабудуюць кіраўніцтва сельскай гаспадаркай на аснове канкрэтнасці і аператыўнасці ў практыцы сваёй работы, праверкі выканання рашэнняў партыі і ўрада, разгортвання большэвіцкай самакрытыкі і дабʼюцца далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі і поўнага завяршэння калектывізацыі БССР у другой пяцігодцы.

З'езд КП(б)Б упэўнен, што ўся маса калгаснікаў у БССР і работнікі соўгасаў яшчэ цясней згуртуюцца вакол партыі Леніна—Сталіна, паднімуць сваю вытворчую творчаскую актыўнасць, умацуюць калгасную дысцыпліну, узмоцняць рэволюцыйную пільнасць і, ліквідуючы астаткі кулацтва, замацуюць на кожным кроку дасягнутыя поспехі, строга ахоўваючы калгаснае дабро ажыццяўляючы пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі лозунг вялікага правадыра і настаўніка—тав. **Сталіна**—зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі.

# Аб праверцы становішча насенных і страхавых фондаў для веснавой пасеўнай кампаніі 1934 г.

### Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

ЦК і СНК лічаць, што задачы, пастаўленыя партыяй і ўрадам, у справе падрыхтоўкі і правядзення сяўбы калгасамі, соўгасамі і аднаасобным сектарам БССР патрабуюць самых рашучых мер па падрыхтоўцы і стварэнню насеннага і страхавога фонда для веснавой пасеўнай кампаніі 1934 г., як важнейшага элемента, забяспечваючага яе паспяховае правядзенне.

У асаблівасці гэта патрабуецца зараз у сувязі з задачамі, пастаўленымі XVII партыйным з'ездам перад усёй партыяй, перад усёй краінай, перад кожным калгасам, соўгасам, аднаасобнікам у справе павышэння ўраджайнасці і ажыццяўлення на гэтай аснове лозунга правадыра партыі т. Сталіна—«зрабіць усе калгасы большэвіцкімі і калгаснікаў заможнымі».

І зусім зразумела, што лозунгі ўсіх веснавых работ для кожнага калгаса, калгасніка, соўгаса, с.-г. рабочага і аднаасобніка павінны быць:

**1. Поўная адказнасць за захаванасць насеннага матар'ялу і рашучая барацьба з раскрадвальнікамі насення.**

**2. Прывядзенне насеннага матар'ялу ў найлепшае добраякаснае становішча.**

Выходзячы з гэтага, ЦК і СНК пастанаўляюць:

1. Правесці па ўсіх калгасах, соўгасах, аднаасобных гаспадарках БССР з 1 па 10-га сакавіка дэкаднік праверкі і ўзаемаправеркі наяўнасці, хавання і якаснага становішча (засмечанасць, усхожасць) усяго насеннага фонда.

2. Прапанаваць РК КП(б)Б, РВК, нач. палітаддзелаў і дырэктарам МТС і соўгасаў намеціць рад канкрэтных мерапрыемстваў, забяспечваючых правядзенне гэтага рашэння ў калгасах, соўгасах і аднаасобным сектары.

3. ЦК і СНК асабліва падкрэсліваюць ролю, значэнне і ініцыятыву ў правядзенні гэтага рашэння партыйна-комсамольскіх ячэек, сельсоветаў, праўленняў калгасаў, дырэктароў соўгасаў, брыгадзіраў, старшых рабочых соўгасаў, якія абавязаны на аснове самага шырокага прыцягнення да справы праверкі кожнага калгасніка, рабочага соўгаса і ў адносінах аднаасобніка праз дзесяцідворкі—арганізаваць гэту работу.

4. Непасрэдным галоўнейшым звяном, абавязаным практычна праводзіць гэтую работу па праверцы, павінны быць: у калгасах— праўленне калгаса і рэвізійная камісія; па аднаасобнаму сектару—старшыня сельсовета і ўпаўнаважаныя па дзесяцідворках.

5. Праўленні калгасаў і рэвізійныя камісіі з брыгадзірамі (з арганізацыяй адпаведнага кантроля брыгадзіраў-калгаснікаў) абавязаны па атрыманні гэтай пастановы неадкладна прыступіць да праверкі на свірнах, складах, месцах хавання пасеўнага матар'ялу і страхавога фонда з тым, каб праз тры дні пасля пачатку дэкадніка на агульным сходзе ўсіх калгаснікаў данага калгаса далажыць аб сапраўдным становішчы хавання і якасці насеннага і страхавога фонда, належачага данаму калгасу, а таксама аб мерах неадкладнага знішчэння выяўленых недахопаў.

У выпадку выяўлення фактаў раскрадвання, умоў злачыннага хавання насення, вядучых за сабой псаванне насеннага фонда, неправядзення мерапрыемстваў, забяспечваючых поўную захаванасць да веснавой пасеўнай кампаніі насеннага і страхавога фонда,—агульныя сходы калгаснікаў прыцягваюць да самай суровай адказнасці канкрэтных вінаватых, аж да аддання іх пад суд. Адначасова агульны сход намячае рад мер па аднаўленню насеннага фонда, дадатковай ачыстцы насення, адпаведнага рамонту памяшкання для хавання, устанаўленню аховы і т. д.

6. Старшыні сельсоветаў па атрыманні гэтай пастановы склікаюць пасяджэнне совета разам з упаўнаважанымі па дзесяцідворках, на якім павінна быць дакладна праверана пасеўная плошча як па аднаасобнаму сектару ў цэлым, так і па кожнай аднаасобнай гаспадарцы і даны заданні кожнаму ўпаўнаважанаму па дзесяцідворках давесці план да аднаасобнікаў шляхам склікання сходаў па дзесяцідворках, на якіх патрабаваць выканання данага ім пасеўнага плана. Разам з тым, кожны ўпаўнаважаны па дзесяцідворцы абавязан патрабаваць ад кожнага аднаасобнага двара, уваходзячага ў яго дзесяцідворку, правядзення ачысткі насеннага фонда ў колькасці, забяспечваючай даны яму пасеўны план і ў адпаведнасці з выявіўшыміся патрэбнасцямі па ачыстцы насення, сельсовет па дакладу ўпаўнаважанага складае дакладны план ачысткі насеннага фонда аднаасобнікаў, забяспечыўшы яго выкананне—на аснове адпаведнага дагавора—калгаснымі і соўгаснымі зерна-ачышчальнымі машынамі.

Адначасова сельсовет са складу членаў сельсовета і актывістаў-аднаасобнікаў выдзяляе брыгады па праверцы становішча і хавання страхавых фондаў.

Усе мерапрыемствы, праведзеныя ўпаўнаважанымі па дзесяцідворках, а таксама брыгадамі, сельсовет заслухоўвае на трэці дзень правядзення дэкадніка з тым, каб у далейшыя дні дэкадніка ўсе выяўленыя недахопы былі-б адпаведным чынам знішчаны.

7. Даручыць РК і палітаддзелам МТС шляхам выдзялення і пасылкі на месцы раённага і палітаддзельскага актыва забяспечыць сістэматычны аператыўны кантроль і праверку выканання намечаных мерапрыемстваў партыйна-комсамольскімі ячэйкамі, праўленнямі калгасаў і сельсоветамі з тым, каб кожныя два дні ў раёне і палітаддзеле МТС падводзіліся вынікі праводзімых мерапрыемстваў.

8. Апрача гэтай праверкі ў кожным калгасе, сельсовеце, РК КП(б)Б, райземаддзелам, палітаддзелам МТС і дырэктарам МТС павінна быць арганізавана ўзаемаправерка паміж калгасамі і сельсоветамі з тым, каб выклікаць на аснове гэтай узаемаправеркі соцспаборніцтва паміж калгасамі, сельсоветамі і паасобнымі аднаасобнікамі ў справе барацьбы за якасць насення, маючы на ўвазе, што такое соцспаборніцтва павінна з'явіцца першаасновай далейшага разгортвання соцспаборніцтва па лепшаму правядзенню сяўбы і барацьбы за павышэнне ўраджайнасці.

9. ЦК і СНК падкрэсліваюць, што ва ўсёй правадзімай рабоце па праверцы становішча насенных фондаў парторгі і комсамольскія ячэйкі павінны з'явіцца асноўнымі арганізатарамі і адказнымі за гэту справу людзьмі.

10. Даручыць РК КП(б)Б і нач. палітаддзелаў забяспечыць поўнае асвятленне ў раённым друку ўсёй работы па праверцы становішча насеннага фонда. Рэдактарам цэнтральных газет—«Звязда», «Калгаснік Беларусі» і «Рабочий»—у сваю чаргу ўстанавіць на час правядзення дэкадніка спецыяльную старонку, прысвечаную ходу праверкі насеннага і страхавога фонда як у раёнах, так і ў паасобных калгасах, соўгасах і аднаасобным сектары.

11. Даручыць упаўнаркамсоўгасаў даць адпаведную дырэктыву па сваёй лініі аб праверцы становішча насенных фондаў у соўгасах.

12. ЦК і СНК лічаць, што правядзенне гэтай праверкі сапраўднага становішча насеннага страхавога фонда (хаванне, якасць насення і т. д.) безумоўна з'яўляецца сур'ёзнейшай праверкай работы раённых зямельных органаў (райза, МТС аграперсанала). Заг. райза абавязаны паставіць сваю работу так, каб поўнасцю забяспечыць мерапрыемствы, правадзімыя калгасамі, соўгасамі і сельсоветамі па праверцы транамічнымі сіламі, практычнымі ўказаннямі і аператыўнай аргані- ыйнай дапамогай.

3. РК КП(б)Б падводзяць вынікі ўсёй работы па праверцы і, лухаўшы паведамленні аб праведзенай рабоце заг. райза, дырэктаў МТС і соўгасаў, раённага агранома і старшага агранома МТС, рад праўленняў буйных калгасаў і паасобных сельсоветаў, паведамляюць аб выніках праробленай работы ЦК КП(б)Б—сельгасаддзел, а нач. палітаддзелы і дырэктары МТС і заг. райза—Наркамзем не пазней 17 сакавіка. Прычым ЦК і СНК папярэджваюць сакратароў РК і начпалітаддзелаў МТС, што яны абавязаны асабліва прыняць усе меры, забяспечваючыя паступленне матар'ялаў ва ўказаны тэрмін.

14. Даручыць пракурору рэспублікі т. **Кузьміну** даць на месца па сваёй лініі адпаведнае ўказанне, на падставе гэтага рашэння, аб быстрым правядзенні судовых спраў, звязаных з раскрадваннем, псаваннем насення і т. д., перадаваемых калгасамі, сельсоветамі і раёнамі.

15. ЦК і СНК выражаюць упэўненасць у тым, што як раённыя партыйныя, совецкія і гаспадарчыя арганізацыі, так і ў асаблівасці калгасы, сельсоветы, соўгасы прымуць усе меры да таго, каб гэтае рашэнне было-б сапраўды па-большэвіцку праведзена ў жыццё, забяспечыўшы тэтым самым узмоцненае правядзенне сяўбы і высокую ўраджайнасць соцыялістычных палёў Беларусі.

Гэта пастанова павінна быць расклеена на відным месцы ва ўсіх калгасах, соўгасах, сельсоветах, дамах соцкультуры. Пярвічныя партыйныя арганізацыі і комсамольскія ячэйкі, сельсоветы, настаўнікі школ абавязаны арганізаваць масавую чытку гэтай пастановы з такім разлікам, каб кожны калгаснік, аднаасобнік, кожны рабочы соўгаса ведалі-б цалкам і поўнасцю аб усіх намечаных мерапрыемствах па барацьбе за добраякаснае насенне веснавой сяўбы.

**Сакратар ЦК КП(б)Б—Н. Гікало.**

**Нам. старшыні СНК БССР—Балцін.**

Галоўлітбел №А 2217.
Тыраж 8.290.
464.640 друк. зн. ($8^1/_2$ арк.)
Здана ў набор 7/II—34 г.
Падпісана да друку 23/II—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *А. Мацкевіч*

*Рэдкалегія*: Галенда, Горын, Злоткін, Картукоў, Конік, Ляўкоў, Мі кін, Поссэ, Ратнек, Тамаркін

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 208.